БІСМІ АЛЛАГІ АР-РАГМАНІ АР-РАГІМ

# БАЙРАМ

## ТАТАРЫ НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ

*Квартальнік*
*Беларускага згуртавання татараў-мусульман*

## "АЛЬ-КІТАБ"

## № 4

Менск 1994

Рэдактарская група: І.Александровіч, Я.Гучок, І.Канапацкі,
В.Садыкава, Я.Якубоускі (адказны рэдактар)

Беларускае згуртаванне татараў-мусульман "Аль-Кітаб" выказвае падзяку за надзвычай шчодрыя падарункі, якія перадалі для нашага згуртавання:

браты Рафіс і Нафіс Кашапавы з Набярэжных Чаўноў,

Пётр Краўчанка - дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, прэзідэнт фонду эканамічнага і палітычнага прагназавання "Стратэгія",

Адам Мальдзіс - Дырэктар нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Францішка Скарыны,

Ганна Сурмач - Старшыня Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына".

Вялікую маральную і матэрыяльную падтрымку для нашага згуртавання аказалі спадарыня Таміна Бекцімірава - нам.старшыні Асацыяцыі жанчын "Ак-Калфак", спадары Анатоль Грыцкевіч - прафесар Універсітэта культуры, Аблаў Кахін - кіраўнік дабрачыннага таварыства "Бабек", Аляксандр Лакотка - доктар архітэктуры, Леанід Лыч - прафесар Педагагічнага універсітэта, Сцяпан Рафановіч - нам.начальніка юрыдычнага аддзела Нацыянальнага Банка Рэспублікі Беларусь, Індус Тагіраў - акадэмік АН Татарстана, Старшыня выканкама Сусветнага кангрэса татараў, Ядвіга Грыгаровіч - рэктар Беларускага універсітэта культуры, Аляксандр Смолік - прарэктар Беларускага універсітэта культуры, Віктар Мацюшэнка - намеснік старшыні Менскага гарадскога фонду культуры, Генадзь Мішуроў - прафесар Беларускага універсітэта культуры.

"Аль-Кітаб" і усе прысутныя на татарскай вечарыне, што адбылася 23 снежня 1994 г. у Менску, выказваюць сардэчную ўдзячнасць усім артыстам і выступоўцам на гэтай незабыўнай імпрэзе.

---

Квартальнік "Байрам" надрукаваны у Навагрудку

بِسْمِ اللّٰهِ الرَّحْمٰنِ الرَّحِيمِ

## АССАЛЯМУ АЛЕЙКУМ, СПАДАРЫНІ І СПАДАРЫ, СУПЛЯМЕННІКІ-ТАТАРЫ, УСЕ МУСУЛЬМАНЕ !

Найвялікшая каштоўнасць, якую Аллаг дае чалавеку - гэта жыццё. А як пражыць жыццё, не змарнаваўшы яго ў дробных, часам непатрэбных справах - пра гэта вучыць нас Свяшчэнны Кур"ан і Сунна.

За перыяд паміж выхадам у свет трэцяга нумара "Байрама" і нумара чацвёртага за 1994 г. прайшло нямала часу. У шчаслівых бацькоў нарадзілася дзіця, у другой сям"і дзіця пайшло сваімі ножкамі, а яшчэ ў некага дзіцятка сказала першае слова. Навучэнцы нядзельных школак напісалі першыя словы і фразы арабскімі літарамі, і вядома, гэта словы Аллаг, Іслам, Іман, Мухаммед.

Вернікі лічаць, што самае галоўнае для чалавека - гэта вера ў Бога, Бога адзінага, Усемагутнага і Міласэрнага. Сваю веру ў Аллага бацькі перадаюць сваім дзецям. Усё астатняе ў паўсядзённым жыцці - гэта праца (просім Аллага, каб праца была не марная), імкненне пракарміць сваіх родных і блізкіх, неяк апрануцца і абуцца, неяк сагрэць сваю нару.

Напрыканцы 1994 г. улады вырашылі, што цярпенне народа яшчэ не трэснула, дык трэба выпрабаваць людзей на яшчэ адным - шматразовым падаражаннем платы за ваду, ацяпленне, электраэнергію. Трэба ўсёж цешыцца, што не павялічваюць падатак за паветра, дык нашы пенсіянеры могуць дыхаць і дыхаць, пакуль дыхаецца, бо пахаванне нябожчыка каштуе даражэй за жыццё. Дык жывіце, мусульмане, пакуль жывецца, пакуль яшчэ маеце час, каб спаўняючы ўсе абавязкі верніка-мусульманіна заслужыць у Аллага райскага жыцця пасля Апошняга суда.

У грамадскім жыцці нашых татар адбыліся ў 4-м квартале значныя падзеі. Баранавіцкія татары-мусульмане вырашылі стварыць у горадзе мусульманскую абшчыну. Цікавай была і татарская вечарына, якую ў будынку бібліятэкі арганізавалі нашы беларускія сябры па ініцыятыве Міхася Маліноўскага. Значнай падзеяй быў таксама з"езд літоўскіх татараў, які адбыўся ў Літве ў Рэйжах, куды былі запрошаны прадстаўнікі польскіх і беларускіх татараў, якія маюць з літоўскімі татарамі агульнае паходжанне.

З вялікім задавальненнем адзначаем, што удалася нам татар-

ская вечарына, якую у Палацы ветэранаў (вул. Янкі Купалы, 21) правялі беларускія татары і беларусы, прадстаўнікі іншых народаў, што насяляюць Рэспубліку Беларусь. На ёй прысутнічалі высокія госці з Татарстана: акадэмік, дэкан гістарычнага факультэта Казанскага універсітэта, старшыня выканкама Сусветнага кангрэса татар Індус Тагіраў, намеснік старшыні асацыяцыі жанчын "Ак-Калфак", кандыдат гістарычных навук Таміна Бекцімірава, прадстаўнік гандлёвага дома братоў Кашапавых Фаніс Шайхутдзінаў, з Беларусі дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, прэзідэнт фонду эканамічнага і палітычнага прагназавання "Стратэгія" Пётр Краўчанка, дырэктар нацыянальнага навукова-асветнага цэнтр імя Ф.Скарыны Адам Мальдзіс, старшыня Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" Ганна Сурмач, доктар гістарычных навук, прафесар Леанід Лыч, доктар архітэктуры Аляксандр Лакотка, прафесар Тэхналагічнага універсітэта Сямён Лебедзь, супрацоўнік Нацыянальнага Банка Рэспублікі Беларусь Сцяпан Рафаловіч.

Пра цікавы канцэрт, пра цікавыя выступленні, пра бясцэнныя падарункі, якія зрабілі Беларускаму згуртаванню татараў-мусульман "Аль-Кітаб" можна расказваць вельмі многа.

Пасля вечарыны, на наступны дзень была праведзена канферэнцыя "Аль-Кітаба", на якой абмяркоўваліся мерапрыемствы, прысвечаныя 600-годдзю пасялення татараў-мусульман на землях былой Беларуска-Літоўскай Дзяржавы. Былі таксама абмеркаваны бягучыя пытанні, выказана засмучанасць беларускіх татараў тымі падзеямі, якія адбываюцца на Каўказе.

Завяршаючы уступ да гэтага нумара "Байрама" трэба адзначыць, што парадаваў нас наш казанскататарскі сябар паэт Фаяз Фаізаў, які даслаў нам свой паэтычны твор - Сказанне пра Кундуса, а у беларускім перакладзе белым вершам гэтае сказанне перадаў нам паэт Яўген Гучок (друкуем паданне у гэтым нумары "Байрама").

Вельмі цешыць нас тое, што цікавасць да нас праяўляюць нашы супляменнікі з Татарстана. Гаспадары Гандлёвага Дома братоў Кашапавых з Набярэжных Чаўноў, вядомых мусульман-мецэнатаў, даслалі нам багаты падарунак - мусульманскую татарскую літаратуру.

---

Ассаляму алейкум ! Мір вам !

Пішыце на адрас: 220086, г. Менск, вул. Славінскага, д. 21, кв. 8 Якубу Якубоўскаму

КІТАБ З ФОНДАЎ КАЗАНСКАГА ЎНІВЭРСЫТЭТУ

( № 1446 )

## Аб спакушэньні чалавека шатанам
## і аб анёльскай апецы

у мукиддиме ќитабе так пише ‖ а ви лечби
дней в гōду йеćт̄ триста и шеćт̄десат̄е дней
спōлна | у члōвика йеćт̄ триста и шеćт̄де
ćат̄ суставов спōлна | у члōвике йеćт̄
триста и шеćт̄деćат̄ жил спōлна |

у члōвике йеćт̄ триста и шеćт̄деćат̄ шетанōв спōлна |
у члōвеке йеćт̄ триста и шеćт̄деćат̄ ангелей спōлна |

ōтōж члōвиче видай | иж т̄е шетанӣ у члōвике
штō йеćт̄ | члōвеке зводит̄ | и преводит̄ грех |
и вшиткō злōйō чинит̄и ‖ ден и нōч ангели
йм шетанōм тōгō брōнат̄ и з̄ними спōр великий
майут̄ ‖ ден и нōч члōвек упōминайут̄ | штōб
члōвек ѓрех нечинил | приказ бōжий спōлнали |
а шетанӣ ōд тōгō члōвеке ōтводат̄ ‖ ōтōж
члōвиче кōжний | старейсе и майсе дō тōгō |
штōбӣ ангели радōвалиće | а шетанӣ смут̄нӣ
били | грех нечинили | приказ пōжий пōлнили ‖
ѓди увеćелиш ангели | тōби дōбре | себе приведеш

дō райу и дō ласки бōжōйи ‖ ѓди шетанӣ увеćелиш |
грех будеш чинит̄и | ćебе преведеш до пекла в нела
ску бōжйу ‖ кōнец ‖

( працяг будзе )

# К У Р " А Н

## Сура пятая — Аль-Маіда
## (Трапеза — Застаўлены стол)

I. У імя Аллага Міласцівага і Міласэрнага.

2. О вы, вернікі!
Выконвайце свае абавязкі. Дазволена вам спажыванне свойскіх жывёл, акрамя таго, аб чым чытаецца вам тут. Але мяса дзічыны вам забаронена, калі (паляванне) на свяшчэнным мейсцы, і вы ў вопратцы пілігрыма. Сапраўды, Аллаг вырашае ўсё па (мудрасці) Свайго жадання.

3. О вы, вернікі! Не парушайце святасці абрадаў Аллага, - ні месяца забароненага, ні прызначаных для ахвяры жывёл, ні упрыгожанняў, што павешаны на іх (каб адрозніць іх ад звычайных), ні тых людзей, што імкнуцца да забароненага (для зла) Святога Дома, каб выпрасіць бласлаўлення і шчодрасці Уладыкі. Калі ж вы (здымеце адзенне пілігрыма, пакінуўшы месца пакланення) і да стану звычайнага вернецеся, вы можаце паляваннем заняцца, і ваша непрыязнь да тых, хто не пусціў (калісьці) вас да Забароненай (для граху) Мячэці, няхай вас не пабуджае для граху, - адзін другому лепш памагайце ў справах дабра і набожнасці, а у злачынствах і варажнечы адзін аднаму не аказывайце дапамогу. Бойцеся Аллага, - Ён у пакаранні моцны!

4. Забаронена вам есці мерцвячыну, кроў і свініну, і усякае жывое стварэнне, якое з іменем іншым, а не Аллага, было зарэзана (для ежы), мяса задушанай жывёлы, або паўшай ад удара, ці ад падзення з кручы, або забаданай (рагамі), ці заедзенай якім-небудзь драпежным зверам, акрамя таго выпадку, калі (у яе яшчэ цёплая кроў) і вы ачышціце яе па патрэбнаму звычаю. Забаронена вам (таксама ў ежу) тое, што на ахвярным месцы (капішчы) забіта, а таксама дзяльба па стрэлах. Гэта - бязбожна. Сёння тыя, хто вашай верай пагарджаў, знаходзяцца ў адчаі. Але іх не бойцеся, а бойцеся толькі Мяне.

5. Сёння Я завяршыў для вас вашу рэлігію, завяршыў для вас Маю міласць, і задаволіўся для вас Ісламам як рэлігіяй. Каго ж голад змусіць да гэтай ежы (без бязбожжа і схільнасці да

حُرِّمَتْ عَلَيْكُمُ الْمَيْتَةُ وَالدَّمُ وَلَحْمُ الْخِنْزِيرِ وَ
مَآ أُهِلَّ لِغَيْرِ اللّٰهِ بِهٖ وَالْمُنْخَنِقَةُ وَالْمَوْقُوذَةُ وَالْمُتَرَدِّيَةُ
وَالنَّطِيحَةُ وَمَآ أَكَلَ السَّبُعُ إِلَّا مَا ذَكَّيْتُمْ وَمَا ذُبِحَ
عَلَى النُّصُبِ وَأَنْ تَسْتَقْسِمُوا بِالْأَزْلَامِ ذٰلِكُمْ فِسْقٌ
اَلْيَوْمَ يَئِسَ الَّذِينَ كَفَرُوا مِنْ دِينِكُمْ فَلَا تَخْشَوْهُمْ
وَاخْشَوْنِ اَلْيَوْمَ أَكْمَلْتُ لَكُمْ دِينَكُمْ وَأَتْمَمْتُ عَلَيْكُمْ
نِعْمَتِي وَرَضِيتُ لَكُمُ الْإِسْلَامَ دِينًا فَمَنِ اضْطُرَّ فِي
مَخْمَصَةٍ غَيْرَ مُتَجَانِفٍ لِإِثْمٍ فَإِنَّ اللّٰهَ غَفُورٌ رَحِيمٌ ٣

Кур"ан. Сура Аль-Маіда, аят 4

граку) - дык жа Аллаг, сапрауды, даравальны і літасцівы.

6. І пытаюць яны у цябе: што (у ежу) ім дазволена? Скажы: "Уся ежа добрая, і тое, што вам упалюе драпежнае стварэнне (накшталт сабак ці птушак), якіх вы (для палявання) прывучылі, дрэсіруючы іх так, як указау вам Аллаг. Вы ешце тое, што вам яны упалююць, і заклікайце імя Аллага над гэтым. Бойцеся Аллага (набожнымі будзьце), сапрауды, з адплатай Ён не марудзіць".

7. Сёння уся добрая ежа дазволена вам. Дазволена вам таксама ежа тых, каму было даравана Пісанне і вам іх ежа дазволена.
Дазволена вам за жонку браць не толькі цнатлівых, якія вераць у Аллага, але таксама і цнатлівых з тых, каму паслана Пісанне да вас, калі вы дасьце ім (дашлюбны) дарунак, пры гэтым сціпласць блюдучы, не упадаючы у юр і не бяручы любоуніц. А хто ад веры адрачэцца, то яго імкненні будуць марнымі і будзе ён у жыцці будучым сярод тых, хто панясе страты (цяжкія).

8. О вы, вернікі! Калі рыхтуецеся да малітвы, памыйце свае твары, рукі да лакцей і абатрыце галаву і ногі да шчыкалатак.

9. А калі вы нечыстыя, то абмыйцеся. А калі вы хворыя або у дарозе, ці выходзілі па патрэбе і вярнуліся, ці з жанчынай мелі зносіны, і вы пры гэтым не знайшлі вады, сухім пяском ці чыстаю зямлёю вы твар і рукі абатрыце, - Аллаг не хоча вас абцяжарыць, Ён толькі ачысціць жадае вас, каб спауна Сваю вам міласць праявіць - быць можа, будзеце вы удзячнымі.

10. Дык памятайце міласць Аллага да вас, і дамову, якую заключыу Ён з вамі, калі сказалі вы: "Мы чулі і падпарадкуемся Табе!" Набожнымі будзьце, - Ён ведае, што у грудзях у вас схавана.

11. О вы, вернікі! Будзьце стойкімі перад Аллагам, павінны пільнавацца вы строга справядлівасці. Няхай вашая непрыязнасць да (некаторых) людзей не пабуджае вас на благое, не адхіляе вас ад рашэнняу справядлівых. Пільнуйцеся (строга) справядлівасці, бо гэта бліжэй да дабрачыннасці (стаіць). Бойцеся гневу вашага Уладыкі! Сапрауды, Ён Усёвед у тым, што робіце вы.

12. Тым, хто увераваў і робіць дабро, Аллаг абяцаў дараванне і вышэйшую ўзнагароду.

13. А тым, хто не увераваў у Аллага і выдае за зман знаменні Нашыя, быць таму жыльцом пекла.

14. О вы, вернікі! Вы прызавіце да памяці міласць Аллага да вас, калі задумалі іншыя з людзей вас адолець сваімі (паганымі) рукамі і Ён ад вас іх рукі адхіліў. Дык будзьце ж набожнымі, - увераваўшы ў Аллага, толькі на Яго надзеі ўскладайце!

15. Аллаг у Дамову уступіў з сынамі Ізраіля. З іх Мы вылучылі 12 правіцеляў, і Аллаг сказаў ім: "З вамі Я!", калі будзеце вы тварыць малітву, і даваць міласціну ачышчэння, і верыць у Маіх пасланнікаў, павbooжаць і дапамагаць ім, і Аллагу прадастаўляць цудоўную пазыку. І я ачышчу вас ад вашых парушэнняў веры. У Сады ўвяду, дзе ўнізе цякуць рэкі. А хто з вас пасля гэтага застанецца няверным, той збіўся з сапраўднага шляху.

16. І вось за тое, што свой запавет парушылі яны, Мы наклалі на іх праклянцце, і сэрцы іх зрабілі жорсткімі. Яны словы (Пісанняў) скажаюць, перастаўляючы іх з месца, і забываючы частку таго, аб чым іх павучалі. І безупынна ты будзеш сустракацца са здрадай іх ці новай хітрасцю, за выключэннем нямногіх. Ты ім прабач і не карай, - сапраўды, Аллаг любіць тых, хто добры (да людзей).

17. Запавет Мы узялі таксама з тых, хто кажа: "Мы - хрысціяне". І яны забылі частку таго, аб чым да гэтага іх навучалі. За гэта Мы выклікалі ў іх варожасць і нянавісць адзін да аднаго да Дня Апошняга Суда. Тады скажа ім Аллаг, чым на зямлі яны грашылі.

18. О людзі Кнігі! Ад Нас прыйшоў пасланнік да вас, каб указаць вам многае з Кнігі, што вы (так старанна) утойваеце, а таксама многае з таго, што можна паапускаць. Ад Аллага вам Святло і яснае Пісанне з'явілася, якім Аллаг накіроўвае тых на шлях выратавання і міру, хто ідзе паводле Яго ласкі; і воляю Сваёй Аллаг з цемры да святла іх выводзіць, сцежкай праведнай вядзе.

19. І зневажаюць Аллага усе тыя, хто кажа, што Аллаг - Месія, сын Марйам. Скажы: "Хто можа што-небудзь учыніць перад Аллагам, калі б хацеў Ён пагубіць Месію, сына Марйам і маці яго, і усіх, хто на зямлі?"

20. Ва уладзе Аллага зямля і неба, а таксама усё, што паміж імі. Робіць Ён тое, што пажадае, - Яму падуладна усялякая рэч!

21. І іудзеі кажуць, і хрысціяне: "Мы - сыны Аллага, улюбёныя Ім". Скажы: "Чаму ж Ён карае вас за вашыя грахі?" О не! Вы усяго толькі людзі з (мноства) такіх, каго Ён стварыў. Даруе Ён, каму захоча, карае таго, каго вызначыць. Валодае Ён зямлёй і небам, і тым, што ёсць паміж імі. І у Яго - рубеж апошні, (калі вы вернецеся усе да Яго)!

22. О людзі Кнігі! Ад Нас прыйшоў пасланнік да вас, каб растлумачыць вам (ісціну Аллага), пасля так працяглай адсутнасці прарокаў, каб не сказалі вы: не прыходзілі да нас ні вястуны добрага, ні асцярожнік (ад благога). Цяпер прыйшоў да вас вястун дабра і асцярожнік (супроць дрэннага). Сапраўды, Аллаг мае уладу над усім!

23. Вось Муса сказаў свайму народу: "О мой народ! Вы успомніце Міласць Аллага да вас: з вашага асяроддзя паставіў Ён прарокаў, вольнымі вас зрабіў. І вам даў тое, што не даваў ні аднаму з усіх народаў.

24. О мой народ! Ідзіце на святую зямлю, што Аллагам прызначана для вас, (зняслаўленыя) назад не вяртайцеся, каб не асудзіць сябе на (цяжкую) згубу".

25. І мовілі яны: "О Муса! На гэтай зямлі - народ вялізнага росту, мы ніколі не уступім на яе, пакуль яны адтуль не выйдуць. А калі яны яе пакінуць, мы (у той жа час) туды увойдзем.

26. Але двое набожных сярод іх, якіх міласць Аллага ахапіла, сказалі: "Увайдзіце праз гэтыя вароты да іх. Як толькі вы увойдзіце да іх, вы атрымаеце перамогу над імі; і калі вы вернікі, то спадзявайцеся на Аллага!"

27. "О Муса!" - мовілі яны. "Мы ніколі увайсці туды не зможам,

покуль яны там застаюцца. Ідзі ты і твой Аллаг, і там удваіх змагайцеся, а мы тут пасядзім (і пачакаем").

28. І ён сказаў: "О мой Уладыка! Я магу распараджацца толькі над сабою і братам (Ааронам)_ Дык аддзялі нас ад гэтага распуснага народу!"

29. Адказаў Аллаг: "На сорак (доўгіх) гадоў яна будзе вам ім недаступнай. Блукаць ім няспынна па зямлі. Ты ж не бядуй аб гэтым нядобрым народзе.

30. Прачытай ім сапраўдны расказ пра двух сыноў Адама. Бо самі ж абое яны прынеслі ахвяру Аллагу, але прынятая яна была ў аднаго, адкінута - другога. І той другі сказаў: "Ужо напэўна, я заб"ю цябе!" Але (брат) адказаў: "Ад праведных толькі бярэ Аллаг (ахвяру).

31. І калі ты падымеш на мяне сваю руку, каб забіць мяне, я на цябе сваей рукі не падыму. Баюся я Аллага, Гаспадара сусвету!

32. Хачу, каб ты сам узяў на сябе ўсю адказнасць за мае і свае грахі, і стаў бы разам з жыльцамі пякельнага агню - што будзе адплатай для грэшных!"

33. Душа ж яго (пад цяжарам дрэнных) імкненняў схіліла да забойства брата, - і ён забіў яго і стаў сярод тых, хто асуджаны на цяжкія пакуты.

34. І вось паслаў Аллаг яму крумкача, які стаў драпаць зямлю, каб паказаць яму, як схаваць цела брата. І ён сказаў: "О гора мне! Няўжо я стаў такі слабы, што не магу нават падобна гэтаму крумкачу, каб закапаць цела свайго брата?!" І тут ён стаў у ліку тых, хто пакаяўся (перад Аллагам).

35. І таму Мы загадалі дзецям Ізраіля: той, хто заб"е жывую душу не за душу, і не за ваяўнічасць няверніка, той як бы усіх людзей загубіць. А той, хто гэтую душу зберажэ, ён як бы усіх людзей зберажэ ад смерці.

36. Да іх з выразнымі знакамі ад Нас яўляліся Нашыя пасланнікі. Але нават услед за гэтым многія з людзей да зямных уцехаў нястрыманымі заставаліся.

37. І адплата для тых, хто супроць Аллага і пасланніка Яго

ваюе, шчыруючы паганства пасеяць на зямлі, - смяротная кара ці ўкрыжаванне, ці адсячэнне накрыж рук і ног, або выгнанне з краіны. Гэта - бясчэсце для іх бліжэйшага жыцця, і найвялікшая кара - у другім (жыцці).

38. Акрамя тых, якія пакаюцца, перш чым вы атрымаеце над імі ўладу, - і ведайце, што Аллаг усёдаравальны і міласцівы.

39. О вы, вернікі! Богабаязнымі будзьце, шукайце шляху да Яго ласкі, змагайцеся ўпарта на Яго шляху, і, можа быць, тады вы знойдзеце шчасце і супакой (душы).

40. А тыя, хто не ўверавалі, - то, хай будзе у іх усё тое, што на зямлі, і нават удвая больш, каб гэтым адкупіцца ад кары ў Дзень Уваскрошання, ад іх не будзе нічога не прынята, іх чакае пакутлівае пакаранне.

41. Жаданнем іх будзе выйсці з пякельнага агню, але з яго ім ніколі не выйсці, - іх мукі будуць доўжыцца вечна.

42. Злодзею і зладзейцы адсякайце рукі ў адплату за тое, што яны зрабілі. Гэта будзе наглядным пакараннем ад Аллага, бо Ён, сапраўды, Вялікі і Мудры!

43. А хто, будучы да гэтага часу грэшным, выправіцца і звернецца да Аллага, то сапраўды і Аллаг звернецца да яго. Сапраўды, Аллаг ёсць Прабачлівы і Літасцівы.

44. Няўжо не ведаеш ты, што Аллагу належыць улада над зямлёй і небам. Карае Ён, каго захоча, даруе таму, хто Яму мілы. І мае ўладу Ён над усім і над усімі!

45. О пасланнік (Аллага)! Няхай не засмучаюць цябе тыя, якія спяшаюцца ў няверʺе, - ні тыя з іх, хто толькі вуснамі кажа: "Мы верым!", а ў іх сэрцах веры той няма, ні тыя з іудзеяў, каторыя вераць мане, і слухаюць другіх, каторыя да цябе не прыходзілі. Яны словы (Пісанняў) скажаюць, перакручваючы іх, пасля (прыдаючы ім скажоны сэнс надаўшы) кажуць: "Калі вам дадзена пісанне, бярыце, а калі не -

асцерагайцеся!" Калі Аллаг хоча людзей выпрабаваць спакусай, то ты нічым ім не дапаможаш перад Аллагам. Бо гэта тыя, каторых сэрцы Аллаг не захацеў ачысціць. На гэтым свеце іх чакае ганьба, і вялікая кара - у жыцці другім!

46. Яны пастаянна прыслухоўваюцца да ілжы, яны жаруць (з прагавітасцю) забароненае (Аллагам). Але калі ж яны да цябе (на суд) прыйдуць, ты рассудзі між імі або адвярніся, і калі адвернешся, яны шкоду табе не ўчыняць. А калі ж іх судзіць станеш, па справядлівасці судзі, - Аллаг (толькі) справядлівых любіць.

# ГІСТОРЫЯ ДЗЯРЖАВЫ ІДЭЛЬ-УРАЛ

Чацвёрты раздзел

## Пад уладай бальшавікоў

Спачатку бальшавікі, нягледзячы на абвешчанае "самоопределение национальностей, вплоть до отделения от России", меркавалі абмежавацца ў нацыянальным пытанні арганізацыяй так званага камісарыята па нацыянальных справах (у адносінах цюрка-татар гэтыя камісарыяты называліся "мусульманскімі") і ўпраўляць шматлікімі нацыянальнасцямі Расіі з цэнтра. Але моцны нацыянальны рух народаў Расіі і радыкальнасць іх патрабаванняў вымусілі бальшавікоў пайсці на уступкі гэтым патрабаванням. Бальшавікі вымушаны былі прыступіць да ўтварэння нацыянальных рэспублік, а цэнтральны свой орган, камісарыят нацыянальнасцей, замяніць саветам нацыянальнасцей. Такія нацыянальныя рэспублікі бальшавікамі, пачынаючы з 1920 года, былі ўтвораны для цюркаў, шляхам раздзялення і расчлянення гэтага народа на столькі нацыянальнасцей, колькі існуе цюркскіх плямён. Бальшавікі, выходзячы з агульнавядомага прынцыпу - "падзяляй і уладар", - кожнае асобнае цюркскае племя, нягледзячы на агульнасць мовы, літаратуры, школы і бытавыя умовы, трактуюць як асобную нацыянальнасць.

На цюркалагічным з"ездзе ў 1926 г. у Баку афіцыйны дакладчык "арыенталіст" Якаўлеў вылучыў сярод цюркаў Расіі 27 нацыянальнасцей (часопіс "Революционный Восток", № 2). На гэтым жа з"ездзе была прынята пастанова аб замене арабскага алфавіта ла-

цінскім. Дарэчы, зазначым, што стары рускі ўрад з мэтай русіфікацыі цюркаў, праектаваў замяніць арабскі алфавіт, якім карысталіся усе цюркі, рускім і ўвесці яго ў мусульманскія школы і літаратуру. З мэтай практычна ажыццявіць гэты праект міністэрства народнай асветы ў 1906 г. выдала так званыя абавязковыя правілы 31 сакавіка 1906 г. Але дзякуючы адзінадушнаму пратэсту усіх мусульман Расіі ўрад вымушаны быў адмяніць гэтыя правілы. Цяпер бальшавікі гэтыя пачынанні "ненавіснага старога рэжыму" прыняліся самі праводзіць у жыццё, пры гэтым пайшлі значна далей, стварышы для цюркаў столькі новых алфавітаў, колькі існуе плямён, або, як яны называюць, цюркскіх "нацыянальнасцей". Праўда, колькасць новых алфавітаў не даходзіць да 27, як гэтага б жадаў бальшавіцкі "арыенталіст", але усё ж гэта колькасць даходзіць да дзесятка. Добра разумеючы значэнне і прадбачачы наступствы гэтага бальшавіцкага мерапрыемства, некаторыя нацыянальна свядомыя камуністы на цюркалагічным з"ездзе ў Казані ў 1928 г. выказалі прапанову аб уніфікацыі новага лацінскага алфавіта. Але такая прапанова бальшавікамі была пазначана як контррэвалюцыйная і, зразумела, адхілена. Інакш і не магло быць, бо асноўная сутнасць гэтага, без сумневу, чыста палітычнага мерапрыемства бальшавікоў, зводзіцца да таго, каб шляхам стварэння шэрагу алфавітаў падзяліць цюркаў духоўна так, каб яны ў далейшым не маглі стварыць адзінай школы, літаратуры і наогул развіць агульную для усіх цюркаў культуру. Рускі урад і місіянеры, якія на працягу стагоддзяў змагаліся з цюркамі, дабіваліся менавіта гэтага. Але тое, чаго не змаглі зрабіць рускія місіянеры, цяпер робіцца бальшавікамі. І вось чаму савецкая ўлада на тэрыторыі Ідэль-Урала утварыла цэлы шэраг рэспублік і аўтаномных абласцей: Татарскую, Башкірскую, Чувашскую, Нямецкую рэспублікі; Марыйскую,Вотскую (Удмурцкую) і іншыя аўтаномныя вобласці. Такі стан як па ўнутранаму зместу, так і знешняму выгляду не можа задаволіць патрабаванні цюркататарскай нацыі, якая імкнецца да самастойнага дзяржаўнага існавання. Такое становішча не задаволіла нават камуністаў цюрка-татараў, якія былі супраць утварэння асобнай Татарскай і асобнай Башкірскай рэспублік, па-першае, таму, што рэспубліка была так пакроена, што 64 % цюрка-татараў апынулася за межамі нацыянальнай рэспублікі, а па-другое, таму, што да рэформы 1781 г. сучасная Башкірыя цалкам уваходзіла ў межы Казанскай губерні.

Цюрка-татары Ідэль-Урала, якія на працягу амаль чатырох стагоддзяў змагаліся з рускім урадам за сваю самастойнасць і адбівалі націск русіфікатарскай палітыкі гэтага ўрада, вядома, не могуць задаволіцца такім раздзелам Ідэль-Урала на асобныя вобласці. Тэрыторыя Ідэль-Урала з даўных часоў належала ім, дзе і цяпер яны складаюць большасць. Цюрка-татарскі народ, грунтуючыся на звестках свайго ўпраўлення, дзе вядуцца дакладныя метрычныя запісы ва ўсіх мусульманскіх прыходах (7600 прыходаў), налічвае не менш 6,5 млн.душ, а чувашоў і хрышчоных татараў (таксама цюркаў), залічаных пры перапісу ў лік праваслаўных рускіх, - звыш 1,3 млн. Гэта лічба пацвердзілася пры ўсеагульнай мабілізацыі ў час сусветнай вайны. Цюрка-татарскіх салдатаў (у тым ліку і башкіраў) у рускай арміі аказалася 960 тыс., пры гэтым ухіленне ад воінскай павіннасці ў цюрка-татараў у працэнтных адносінах перавышала колькасць такіх сярод рускіх. Супастаўляючы вынікі перапісу 1926 г. з лічбавымі дадзенымі за той жа перыяд духоўнага ўпраўлення мусульман Паволжа і Прыўралля, лёгка знайсці, што ў гэты момант у Ідэль-Урале знаходзілася: цюрка-татараў 7,8 млн., рускіх 4,3 млн., народаў фінска-мангольскага племя 2,7 млн., немцаў 0,5 млн. чалавек. Усяго было 15,3 млн. У працэнтных адносінах: цюрка-татары складалі 51%, рускія 28%, народы фін.-манг. групы 17,7% і немцы 3,3%. Інакш кажучы, цюрка-татары разам з іншымі нерускімі нацыянальнасцямі складаюць 72%. Такім чынам, цюрка-татараў у Ідэль-Урале нікольві не менш у працэнтных адносінах, чым вялікарусаў ва ўсім СССР, а з фінскімі і мангольскімі разам узятымі не менш, чым чэхаў у Чэхіі і румынаў у Румыніі. Адносна рускага насельніцтва неабходна зазначыць, што ў час перапісу перапісчыкі блыталі рэлігійную прыкмету з нацыянальнай і кожнага праваслаўнага - хай ён мардва, хрышчоны цюрак, украінец і г.д. - калі не самавызначыўся і не заяўляў сябе як мардва, цюрак, украінец, проста запісвалі як рускага-вялікаруса. Пры гэтым неабходна зазначыць, што большасць сапраўдных рускіх складаюць старавеpы.

Пераходзячы да эканамічнага становішча Ідэль-Урала ў сучасным яго стане мы павінны сказаць, што нічога суцяшальнага ён не ўяўляе. Там усё разбурана і разрабавана савецкай уладай. Але зямлю бальшавікі не маглі знішчыць і, маючы на ўвазе ўрадлівасць глебы (раней Ідэль-Урал быў адной з жытніц Расіі), пры аднаўлен-

нІ там нармальных умоў, аднавіць гаспадарку будзе не цяжка. Мнагаводныя рэкі краю: Ідэль (Волга), Кама, Ак-Ідэль (Белая) і Джаік (Урал), перасякаючы амаль усю краіну, злучаюць самыя аддалёныя часткі краю адну з другой (напрыклад, Астрахань з Уфой, Уфу з Казанню і г.д.). Калі ў даўнія часы гэтыя рэкі былі адзіным звяном, якое злучала Персію, Індыю і Туркестан з Ідэль-Уралам і Сібір"ю, то і цяпер, нават пры існаванні розных відаў транспарту, гэтыя рэкі маюць вялізнае значэнне ў эканамічным дабрабыце краіны. Пры катастрафічным стане чыгунак у СССР гэтыя рэкі, перавозячы штогод мільёны тон сыравіны, паўфабрыкатаў і гатовых вырабаў, ратуюць савецкую ўладу ад пагібелі. Пры рацыянальным кіраванні краінай гэтыя рэкі будуць самым танным відам транспарту як для ўнутранага, так і для замежнага гандлю Ідэль-Урала. Прытокі названых рэк: Зюя (Зоя), Чарміішан, Майня, Сургут, Ілят, Кокша, Вятлуга, Ык, Дзім, Кара-Ідэль (Уфімка), Сакмара і іншыя як перыферыя галоўнага нерва даходзяць да самых аддалёных частак Ідэль-Урала. Дзякуючы менавіта багаццю рэкамі Ідэль-Урал у самыя старадаўнія часы была самым большым і выгадным гандлёвым шляхам паміж Еўропай і Азіяй.

Уральскія горы са сваімі разнастайнымі мінеральнымі багаццямі (золата, плаціна, серабро, медзь, жалеза і каменны вугаль) забяспечаць развіццё прамысловасці, а нафтавыя крыніцы (на схілах Уральскіх гор, ва Уфімскай і Пермскай губернях) могуць даць у многа разоў больш нафты, чым патрэбна для гэтага краю. Багатыя ў прамысловых адносінах перадгор"і і горы Урала злучаюцца чыгункамі з земляробчай часткай краіны (Уфа, Самара і г.д.). Існуючыя чыгункі (якія можна яшчэ рацыянальна развіваць) злучаюць гандлёвы і духоўны цэнтр краіны – Казань – і з земляробчай, і з прамысловай часткай і ў многіх месцах судакранаецца з Сібірскай магістраллю, а таксама з дарогамі, якія вядуць на Украіну і Расію.

Спрыяльныя кліматычныя ўмовы і чарназёмныя глебы ў цэнтральных, паўночных абласцях даюць магчымасць вырошчваць пшаніцу, жыта, ячмень, грэчку, гарох, лён, каноплю і г.д., і тым самым вызначаюць край у земляробчых адносінах ідэальнай краінай. Паўднёва-усходні стэп і даліны рэк – найлепшыя пашы для жывёлагадоўлі і даюць добрае сена. Акрамя гэтага, паўночная і паўночна-заходняя часткі краіны пакрыты векавымі лясамі, дзе растуць амаль усе віды лісцевых і хвойных парод – найлепшай сыравіны для будаўніцт-

ва і драўляных вырабаў: хвоя, дуб, клён, бяроза і інш.

Паўднёвая частка краіны(якая наблізжаецца да Прыкаспійскай нізіны) здаўна была вядома як цэнтр садоўніцтва і агародніцтва, дзе выспяваюць розныя сарты вінаграду, ігруш, яблыкаў, сліў, а таксама цудоўныя па смаку і прыдатныя для перавозкі гарбузы і дыні. Нізоўі Джаіка (Урала) і Ідэля (Волгі) ператвараюць гэту частку краіны ў багаты рыбнапрамысловы раён з цэнтрам у Астрахані з яго праслаўленымі рыбамі (асятром і сцерлядздзю), ужо не кажучы пра ікру. Такім чынам, як самастойная эканамічная адзінка, Ідэль-Урал мае ўсе шансы для самастойнага існавання.

Што ж датычыцца да духоўнага развіцця цюрка-татарскага насельніцтва, то ў дадзеных умовах яго існавання нельга гаварыць аб высокай тэхнічнай культуры, якую мы бачым у еўрапейскіх народаў, але пры параўнанні з іншымі народамі Усходу (персамі, афганцамі і некаторымі іншымі) цюрка-татары стаяць вельмі высока ў культурных адносінах, а самае галоўнае, яны ў сваім нацыянальна-культурным развіцці ідуць па наезджанай каляіне заходнееўрапейскіх народаў.

Нягледзячы на вельмі кароткі тэрмін (усяго 50 гадоў) са дня нацыянальнага абуджэння цюрка-татараў (да бальшавізму), яны не толькі без падтрымкі ўрада Расіі, але нават насуперак уладам завялі ў сябе ўсеагульную пачатковую адукацыю, а таксама вельмі здаровую, бадзёрую духам літаратуру і нацыянальны тэатр. Разняволенне жанчын было здзейснена ужо даўно.

Што датычыцца тэхнічнай падрыхтоўкі для упраўлення краінай, то да рэвалюцыі 1917 г. яна была недастатковай. Рускі ўрад трымаў цюрка-татарскі народ Ідэль-Урала ў баку ад дзяржаўнага кіравання, таму гэтым чыноўніцкім апаратам у дастатковай колькасці народ не валодаў. Але гэты прабел ужо ўхіляецца пры бальшавіках, насуперак іх жаданню. Так, у Татарскай рэспубліцы, а таксама ў Башкірскай нацыяналізацыя адміністрацыйнага апарату пры падтрымцы самаго народу, і нягледзячы на ўсе перашкоды савецкай улады, ідзе ў гэты час даволі паспяхова.

Па афіцыйных дадзеных савецкай улады ў Татарстане ў сельсаветах чыноўнікаў цюрка-татараў 53%, у раённых апаратах 37,8% і толькі ў цэнтральных установах колькасць іх ненармальна малая, бо рука Масквы адыгрывае там вырашальную ролю. Ва ўсім дзяржаўным апараце - татараў - усяго толькі 30%. Акрамя таго, шматлі-

кія цюрка-татарскія служачыя раскіданы па іншых рэспубліках: у Казахстане, Узбекістане, Крыме і нават Азербайджане. Але значна горш ідуць справы у гэтых адносінах у Башкірскай рэспубліцы. Там працэнт чыноунікау-туземцау зусім малы.

Палітычны і эканамічны прыгнёт, які перажывауся і перажываецца цюрка-татарамі пад рускім ігам, не дазваляе ім стварыць дастатковую колькасць высокакваліфікаванай інтэлігенцыі (дактароу, інжынерау, юрыстау і г.д.), але і гэты прабел запауняецца шматтысячнай цюрка-татарскай эміграцыяй, раскінутай па усяму свету (у Еуропе, на Далёкім Усходзе, у Японіі, Турцыі і г.д.). Ды і у самым СССР, нягледзячы на усю ненармальнасць становішча, цюрка-татарскае насельніцтва усімі сіламі імкнецца атрымаць адукацыю у савецкіх школах, хоць выкладанне у іх праводзіцца з пазіцый "марксізму-ленінізму" і "сталінізму". Але і да гэтых умоу народ прывзвычаіуся, бо не лепшыя умовы былі і пры старым рускім урадзе. Дастаткова нагадаць хоць бы цыркуляр міністра народнай асветы графа Д.Талстога, які загадвау выкладаць матэматыку у хрысціянскім духу. Што ж датычыцца сярэдняй інтэлігенцыі, то яе безумоуна не менш, чым у рускіх, а пісьменнасць народа у працэнтных адносінах намнога перавышае пісьменнасць рускага народа. Тое ж самае можна сказаць і аб ваеннай падрыхтоуцы цюрка-татарау.

Што ж датычыцца самаго народа, загартаванага у барацьбе і працягваючага змаганне за сваю незалежнасць, як унутры краіны, так і па за яе межамі, у эміграцыі, то па сваёй псіхалогіі ён дастаткова падрыхтаваны для дзяржаунасці і далёкі ад фантазёрства. Народ гэты вельмі працавіты, ашчадны і зусім цвярозы. А пра яго камерцыйныя здольнасці, трэба думаць, ніхто не будзе спрачацца. Цюрка-татары валодаюць вялікай жвавасцю, ініцыятывай і маюць шматгадовую практыку, так што яны зусім паспяхова могуць спаборнічаць з еурапейцамі ва усіх галінах дзелавога жыцця. Нягледзячы на доугія гады знаходжання пад рускім ігам, народ гэты ніколі не губляу надзеі на адраджэнне сваёй былой велічы і няма сумніву, што пры першай магчымасці ён возьме кіраванне айчынай у свае рукі і вельмі хутка адновіць у ёй парадак і законнасць, з тым, каб разам з іншымі народамі вызваліцца з-пад маскоускага іга і ісці па шляху прагрэсу і свабоды.

## ЗАКАНЧЭННЕ

Сусветная вайна і узніклыя у выніку яе у шэрагу краін рэвалюцыі выклікалі каласальны рух народау усяго свету. Гэты рух характарызуецца, перш за усё, нацыянальна-вызваленчым імкненням розных народау з-пад цяжкага іга іх прыгнятальнікау. Дзякуючы гэтаму, сучасная гісторыя, якую перажывае чалавецтва, смела можа быць названа эпохай нацыянальнага вызвалення народау. Вызваліушыяся і зрабіушыя свае незалежныя дзяржавы, - Польшча, Чэхаславакія, Фінляндыя, Эстонія, Латвія і Літва на захадзе і грандыёзныя вызваленчыя рухі у Азіі і на усходзе Европы, у былой Расіі, з"яуляюцца дастатковым доказам гэтаму. Але нацыянальнае пытанне у былой Расіі, на гэтай вялізнай тэрыторыі, населенай больш за сотню нацыянальнасцямі, ні у якой ступені яшчэ не выраш ана. Бальшавікі у пачатку, да захопу імі улады, выступаушыя у шматнацыянальнай Расіі пад лозунгам "самоопределение народов вплоть до отделения от России", пасля захопу імі улады, як вядома, павялі палітыку зусім процілеглую. Вайна бальшавікоу з вольнай Польшчай, акупацыя Украіны, Азербайджана, Грузіі, Арменіі, Пауночнага Кауказа, Крыма і Туркестана дастаткова сведчаць пра гэта. Ці ж не аб гэтым гаворыць і славуты пункт 4 бальшавіцкай канстытуцыі СССР, паводле якога прадастаулена незалежным рэспублікам права выхаду з Савецкага Саюза пры умове згоды на гэта усіх рэспублік? Ці ж руская рэспубліка РСФСР, якая мае у савеце нацыянальнасцяу, у другой палаце саюза, больш прадстаунікоу, чым усе разам узятыя іншыя, "саюзныя" і "аутаномныя" рэспублікі, можа калі-небудзь згадзіцца на выхад якой-небудзь рэспублікі з саюза? Ніколі!

Урэшты, і самі бальшавікі выказваннямі сваіх юрыстау гэтае права прызнаюць "патэнцыяльным правам", якое мае толькі чыста дэкларатыунае значэнне. Інакш і быць не можа. Для бальшавікоу нацыянальнае пытанне, як такое, не існуе, колькі б яны аб гэтым ні крычалі. На нацыянальнае пытанне яны глядзяць толькі як на перажытак буржуазнага ладу і як на гістарычна-пераходны этап у дасягненні сваіх мэтау, а у гэтых жа мэтах нацыянальнасцямі яны гуляюць, як хочуць. Кажуць яны адно, а робяць зусім іншае. У гэтым сутнасць іх дэмагогіі. Такім чынам, Расія і да гэтай пары застаецца "турмой народау" пад уладай бальшавікоу.

Добра усё гэта ведаючы, нацыянальнасці і іх прадстаунікі вымушаны і у сучасны момант змагацца з бальшавікамі як у сябе дома, так і у эміграцыі за сваё нацыянальнае вызваленне і незалежнасць. Калі сярод народау былой Расіі, якія імкнуцца да вызвалення, першае месца па сваёй колькасці займаюць украінцы, то другое месца належыць цюркам. Але нацыянальнае пытанне цюркау, нягледзячы на агульнасць іх гісторыі, мовы і наогул культуры, з прычыны геаграфічнай раскіданасці не можа быць вырашана у адзінай форме, г.зн. не можа быць створана адзіная дзяржава цюркау. Таму існуе шэраг цюркскіх пытанняу: азербайджанскае, крымскае, туркестанскае і ідэль-уральскае. У сучасны момант перад прадстаунікамі цюркау кожнай з названых тэрыторый ёсць свае задачы і свае асобныя камітэты. Кожны нацыянальны камітэт цюркау мае свой друкаваны орган на цюркскай мове. Народы Кауказа - азербайджанцы, горцы, грузіны у сучасны момант толькі абвясцілі канфедэрацыю народау Кауказа, а канфедэрацыя Ідэль-Урала з Туркестанам у прынцыпе вырашана раней і станоуча. Нацыянальнасцям, якія імкнуцца да свайго вызвалення, давядзецца яшчэ весці цяжкую і працяглую барацьбу за сваю незалежнасць.

Рускія, якія прывыклі на працягу стагоддзяу уладарыць над усімі нацыянальнасцямі былой Расіі, да гэтага часу, нягледзячы на павучальныя урокі гісторыі, не могуць адмовіцца ад думкі быць панам над "инородцами". Але яны вельмі памыляюцца. Расійская рэвалюцыя яшчэ не скончылася. Бальшавікі у гэтай рэвалюцыі з"яуляюцца толькі адным з пераходных этапау яе. Гэта рэвалюцыя, якая сёння сваім асноуным зместам мае менавіта нацыянальнае пытанне, можа быць завершана толькі радыкальным вырашэннем гэтага пытання у былой Расіі. Калі Вялікая Французская рэвалюцыя прынесла нацыянальнае вызваленне народам захаду Еуропы, то расійская рэвалюцыя прынясе вызваленне народам усходу Еуропы.

## ЗАМЕСТ ПАСЛЯСЛОЎЯ

(склау Рафаэль Хакім)

"Расійская рэвалюцыя яшчэ не скончана", - такімі словамі завяршае Гаяз Ісхакі сваю працу. І у гэтым ён, безумоуна, мае рацыю. Сёй-той можа не прыняць некаторыя ідэі Гаяза Ісхакі, але з гэтай галоунай высновай, да якой ён прыйшоу, нельга не згадзіцца: без радыкальнага вырашэння нацыянальнага пытання у Ра-

сіі нельга лічыць завершанымі сацыяльныя працэсы, якія пачаліся у лютым 1917 года. Вядома, сёння іншая палітычная сітуацыя, і ідэі утварэння "Ідэль-Урал" трэба разглядаць з улікам сучасных абставін, памятаючы аб існаванні Паволжскіх рэспублік і абласцей, вылучаючы перш за усё эканамічны і культуралагічны аспекты.

Ідэя Ідэль-Урала не памерла. Для яе адраджэння існуе нямала гістарычных, эканамічных, экалагічных і этнічных перадумоў. Народы Волга-Уральскага рэгіёна, у тым ліку рускія, вякамі жылі разам. Іх аб"ядноувалі гандаль, агульныя святы, рысы характару. Гэтыя народы імкнуцца адзін да аднаго, і мы, магчыма, яшчэ будзем сведкамі, калі узнікне новая агульнасць "волжане", аб"яднаныя эканомікай і культурай. Паволжская субкультура ужо сёння безумоўная рэальнасць і мае немалыя перспектывы на будучыню.

Гісторыя ведае розныя шляхі вырашэння нацыянальнага пытання і пабудовы дзяржавы. Тыпова "еўрапейскі" шлях дзяржаунага усталявання прадугледжвае у якасці базавага які-небудзь адзін этнас, а астатнія разглядае як нацыянальныя меншасці. Гэтым шляхам могуць пайсці прыбалтыйскія (але не пайшлі - заувага рэд.), закаўказскія рэспублікі. У прынцыпе нельга выключаць гэты варыянт адносна да Малдовы, Украіны, Беларусі і сярэднеазіяцкіх рэспублік. Прынцыповыя цяжкасці могуць узнікнуць у Казахстане (пасляслоўе напісана Р.Хакімам яшчэ у той час, калі ідэолагі СССР імкнуліся любымі сродкамі захаваць еднасць імперыі пад верхавенствам рускіх - заувага рэд.). Існуе другі, "амерыканскі шлях"- шлях асіміляцыі усіх народау у англамоуным асяроддзі. Каб яго рэалізаваць, трэба усё насельніцтваператварыць у мігрантау. Спроба утварыць нейкі "савецкі народ" па амерыканскай аналогіі, як вядома, завяршылася абвастрэннем нацыянальных адносін.

Акрамя двух раней названых шляхоу дзяржаунага уладкавання, існуе і трэці - "швейцарскі". Гэта уладкаванне рэальнай федэратыўнай дзяржавы, у якой роуныя як суб"екты федэрацыі, так і усе асноуныя дзяржаваутваральныя этнасы. "Дэкларацыя аб дзяржауным суверэнітэце Татарскай ССР" была абвешчана ад імя усяго народа рэспублікі і у Татарстане прызнаны дзве дзяржауныя мовы, што указвае на яуна "швейцарскія" рысы гэтага шляху. Гэта не толькі факт, але і прэцэдэнт, ад якога немагчыма адмахнуцца. Другія рэспублікі Паволжа ідуць тым жа самым шляхам, што і Татарстан, бо у іх такая ж міжэтнічная сітуацыя. Зерні пасеяны, а значыць,

будуць і усходы. Разам з умацаваннем суверэнітэтаў рэспублік Паволжа і агульнай дэмакратызацыяй у краіне можна чакаць паяўлення на тэрыторыі паміж Волгай і Уралам нейкай міждзяржаўнай асацыяцыі тыпу швейцарскай канфедэрацыі. Так што ідэя стварэння Ідэль-Урала ў гістарычным плане не была беспадстаўнай і Паволжа яшчэ здзівіць свет утварэннем своеасаблівай "еўразійскай Швейцарыі".

ж ж
ж

Гісторыю ствараюць канкрэтныя асобы. Гаяз Ісхакі быў адным з тых, хто самаадцана змагаўся за нацыянальную свабоду татар. Сваё пяро, арганізатарскія здольнасці і талент трыбуна ён прысвяціў адной мэце - будучаму росквіту татарскай нацыі і цюркскага свету. Ён не быў кабінетным пісьменнікам, хоць напісаныя ім раманы, аповесці ўнушальныя нават па аб"ёме, ён знаходзіўся ў гушчыні палітычнай гісторыі, сам ствараў гэту гісторыю і сам яе апісваў (наш "Байрам" ужо пісаў аб тым, што Гаяз Ісхакі жыў у Польшчы і быў знаёмы з некаторымі нашымі татарамі - заўвага рэд.). Яго нарыс "Ідэль-Урал" - гістарычны боль татарскага народа і разам з тым надзея на яго росквіт у будучыні.

—

Гэта цікава

Б а г р ы м а в ы . У "Агульным гербоўніку дваранскіх родаў Расійскай імперыі ( СПб, 1797 — 1842, Т.П, С.54 ) паведамляецца, што Багрым выехаў з Вялікай Арды да Вялікага князя Васіля Васілевіча ў 1425 годзе. У 1480 г. упамінаецца дзяк Іван Дзянісавіч Багрымаў у Кашыне, у 1566 годзе Юры Барысавіч Багрымаў у Дзмітраве. Прозвішча татарскае ад б а г р ы м — "сэрца маё", "душачка" ( М.Баскакаў. Рускія прозвішчы цюркскага паходжання, М., 1979, С.99)

## ВЕЧАРЫНА БЕЛАРУСКІХ ТАТАРАЎ

У адзін з апошніх пятнічных вечароў, а дакладней 23 снежня 1994 года, у актавай зале Цэнтра Нацыянальных культур (г.Мінск, вул.Я.Купалы, 21) адбылася вечарына, прысвечаная 600-годдзю татарскага асадніцтва на землях Беларусі, Літвы і Польшчы. Яе арганізатары - Беларускае згуртаванне татараў-мусульман "Аль-Кітаб", мусульманскае рэлігійнае аб"яднанне Рэспублікі Беларусь, татарскі маладзёжны Цэнтр у Беларусі і саюз мусульманскай моладзі Беларусі.

Вялікая зала амаль уся была запоўнена: менчукі, прадстаўнікі рэлігійных арганізацый, госці з Татарстана, сябры-беларусы, работнікі дзяржаўных устаноў, члены грамадскіх арганізацый, журналісты. А яшчэ былі артысты-- прафесійныя і самадзейныя, некаторыя чакалі свайго часу за кулісамі, некаторыя падымаліся на сцэну з залы.

Вечар пачаўся традыцыйнай малітвай, прачытанай на арабскай мове вучнем мусульманскай татарскай школы г.Мінска Мухарэмам Канарскім. У гэты раз вырашылі не займаць увагу прысутных вялікімі дакладамі аб выніках дзейнасці. Вынікі былі відавочнымі - яшчэ ніколі не збіралася разам так многа татараў, а менавіта з гэтай нагоды было створана Згуртаванне "Аль-Кітаб". Толькі менская суполка налічвае каля 500 сяброў. Працуюць нядзельныя татарскія школы, разам адзначаюцца святы, стараемся не пакідаць адзін аднаго і ў горкія часіны. Наладжаны сувязі з суродзічамі з бліжняга і далёкага замежжа і вось у чарговы раз да нас прыехалі высокія госці з Татарстана - старшыня выканкама Сусветнага кангрэса татар, дэкан Казанскага гістарычнага факультэта акадэмік Індус Зарыпавіч Тагіраў, член выканкама, намеснік старшыні асацыяцыі жанчын "Ак-Калфак" кандыдат гістарычных навук Таміна Ахметаўна Бекцімірава, якія звярнуліся да удзельнікаў вечарыны з цёплымі прывітальнымі словамі, уручылі кіраўніцтву Згуртавання "Аль-Кітаб" каштоўныя падарункі і нацыянальнае печыва "Чак-Чак". Вялікі насценны гадзіннік - падарунак ад братоў Рафіса і Нафіса Кашапавых, прывёз іх прадстаўнік Фаніс Шайхутдзінаў. Дзякуй ім за гэта і вялікі татарскі "рахмат".

Нашай дзейнасцю цікавяцца як дзяржаўныя, так і грамадскія дзеячы. Усё часцей сустракаем на паліцах кнігарань даследаванні

аб жыцці татар. Мы маем свой друкаваны орган, але пра нас можна пачуць у перадачах беларускага тэлебачання і радыё. Усяму пералічанаму, як і многім неназваным справам, была пацвярджэннем гэта сустрэча, выступленні падчас яе, а таксама асабістыя размовы паміж сабой яе удзельнікаў, тэлеграмы ад тых, хто не змог прыехаць. Вечарына прайшла цёпла і добразычліва, пакінула след у сэрцы кожнага, многіх натхніла на новыя справы. Выступоўцы гаварылі аб сваёй вялікай павазе да татараў, аб самай непарыўнай сувязі іх жыцця з жыццём народа і зямлі, стаўшай для татараў роднай. Самае прыемнае, напэўна, было тое, што словы гэтыя ніхто не вымагаў, іх шчыра гаварылі як тыя, хто па службовых абавязках звязаны з жыццём татараў,так і тыя, хто лёсам і жыццём звязаны з асобнымі прадстаўнікамі нашага народа. Падчас абедзьве гэтыя сітуацыі перакрыжоўваліся паміж сабой. Мы выказваем сваю вялікую удзячнасць усім, хто выступіў, а таксама тым, хто не змог за абмежаваннем часу выступіць. Такіх, ведаем, таксама было нямала. Амаль на кожным нашым мерапрыемстве прысутнічае намеснік старшыні Менскага гарадскога фонду культуры Мацюшэнка Віктар Іванавіч. На гэты раз ён перадаў прэзідэнту згуртавання Шабановічу А.Ю. граматы Беларускага фонду культуры, якімі узнагароджаны многія члены "Аль-Кітаба" за шматгадовую і плённую працу па адраджэнню гісторыі, культуры, мусульманскай рэлігіі беларускіх татар. Граматы падпісаў старшыня праўлення фонду народны пісьменнік Беларусі Іван Чыгрынаў.

Былы Міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь Пётр Кузьміч Краўчанка нагадаў аб сваіх незабыўных уражаннях ад убачаных ім у музеі Троцкага замка (Літва) аль-кітабах, помніках нашай гісторыі, культуры і прыкладнога мастацтва. Вельмі ж уражаныя і кранутыя былі прысутныя, калі спадар Краўчанка уручыў свой асабісты падарунак - цудоўную, у пурпурным пераплёце з напісанай пазалотай назвай на польскай мове кнігу Дзядулевіча "Гербы татарскіх родаў у Польшчы". Гэтую кнігу ён набыў у адной з кнігарань Вялікабрытаніі з тым, каб пры нагодзе перадаць Згуртаванню.

Старшыня Скарынінскага навукова-асветнага цэнтра прафесар Адам Язэпавіч Мальдзіс гаварыў аб узаемаўзбагачэнні культур народаў, якія жывуць разам. І нават прапанаваў тэму для навуковага даследавання " Беларускія татары, як пасрэднікі паміж мусуль-

манскім усходам і хрысціянскім захадам".

Многія ўжо знаёмыя з кнігай "Бераг вандраванняў, ці адкуль у Беларусі мячэці?" (Мн., "Навука і тэхніка", 1994). Перад прысутнымі выступіў яе аўтар доктар архітэктуры Лакотка Аляксандр Іванавіч.

Віталі мы аўтараў тэлефільма "Татары на Беларусі" Юрыя Лысятава, Марыю Кір"янаву. Слова бралі таксама прафесар, старшыня Рады згуртавання беларускай шляхты Анатоль Грыцкевіч, дацэнт, старшыня секцыі архітэктуры Рэспубліканскага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Уладзімір Трацэўскі, старшыня Рады згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" Ганна Сурмач, член рэдкалегіі квартальніка "Байрам" паэт Яўген Гучок, кіраўнік Цэнтра па выданнях хронікі "Памяць" пісьменнік Алесь Петрашкевіч, правадзейны член Геаграфічнага таварыства з Баранавічаў Міхась Маліноўскі, прадстаўнікі крымскіх татараў, якія жывуць зараз на Беларусі, прадстаўнікі літоўскага і польскага згуртаванняў на Беларусі. Немагчыма не ўзгадаць выступленне палкоўніка Леаніда Балвановіча які сказаў, што ён удзячны лёсу за тое, што пазнаёміўся і пабраўся з цудоўнай дзяўчынай-таталркай, а цесць для яго стаў дарагім і блізкім чалавекам, узорам для унукаў.

Дзякуй Вам усім за гэта. Мы вельмі ўдзячны кіраўніцтву Беларускага універсітэта культуры - рэктару Ядвізе Дамінікаўне Грыгаровіч, прарэктару Аляксандру Іванавічу Смоліку, кіраўніку ансамбля прафесару Генадзю Мішурову за вялікую дапамогу ў арганізацыі вечарыны беларускіх татараў. Ну, а назаўтра, 24 снежня, праходзіла канферэнцыя беларускіх татараў, прысвечаная падрыхтоўцы і правядзенню свята - 600-годдзя татарскага асадніцтва на землях Беларусі, Літвы і Польшчы. Канферэнцыя прыняла шэраг дакументаў, якія мы падаём у нашым квартальніку.

МАТЭРЫЯЛЫ КАНФЕРЭНЦЫІ БЕЛАРУСКІХ ТАТАРАЎ-МУСУЛЬМАН

(адбылася у Менску 23 - 24 снежня 1994 г.)

## З в а р о т

## Канферэнцыі беларускіх татарау-мусульман да Прэзідэнтау Расійскай Федэрацыі і Чэчэнскай Рэспублікі

Апошнія падзеі, якія адбываюцца вакол і на тэрыторыі Чэчэнскай Рэспублікі, выклікаюць ва усіх нас, і асабліва прадстанікоу нешматлікіх народау, пачуццё глыбокай заклапочанасці і трывогі.

Мы ведаем, як многа пакут перанёс чэчэнскі народ у перыяд таталітарнага рэжыму.

Нам блізкія і зразумелыя імкненні чэчэнскага народа да свабоды, незалежнасці, нацыянальнага адраджэння. Але нам незразумелая і чужая пазіцыя размовы з гэтым гордым народам пры дапамозе гармат, танкау, ракет, самалётау. Цяпер у Чэчні ліецца кроу жанчын, дзяцей, старых людзей. Ніякая мэта не апраудвае такіх дзеянняу, асабліва у эпоху, калі ва усім свеце агульнапрызнаныя правы свабоды не толькі асобных краін і народау, але і кожнага асобнага чалавека.

Мы заклікаем Прэзідэнтау Расійскай Федэрацыі і Чэчэнскай Рэспублікі адумацца, перамагчы ганарыстасць і сесці за стол перамовау. Наколькі б цяжкімі і працяглымі перамовы ні былі б, - яны лепш за вайну.

Мы звяртаемся да Прэзідэнтау з надзеяй на перамогу розуму і на дапамогу Аллага!

Прыняты зварот 23.12.1994 г.
г.Менск

У Выканаучы Камітэт
Сусветнага Кангрэса татарау

## З а я в а

Канферэнцыя беларускіх татарау-мусульман, якая адбылася 23-24 снежня 1994 года у г.Менску, прысвечаная выпрацоуцы мерапрыемствау па падрыхтоуцы да правядзення 600-годдзя пасялення татарау на землях Беларуска-Літоускай Дзяржавы (тады называлася

Вялікае Княства Літоўскае), разгледзела пытанні нацыянальнага, культурнага і духоўнага адраджэння татараў на землях сучаснай Беларусі, Літвы і Польшчы і прыйшла да адзінай думкі аб неабходнасці ўваходжання татараў Беларусі ў Сусветны Кангрэс татараў, ва ўстанаўленні, развіцці і ўмацаванні сувязей з усімі татарамі свету.

Мы звяртаемся з просьбай у Выканкам Сусветнага Кангрэса татараў аб прыняцці нас у склад Кангрэса.

Прынята аднагалосна.

23.12.1994 г.

г.Менск

У Арганізацыю Аб"яднаных Нацый па пытаннях адукацыі, навукі і культуры (ЮНЕСКО)

У 1997 г. татары Беларусі, Літвы і Польшчы, агульнай колькасцю больш за 20 тыс. чалавек, будуць адзначаць своеасаблівы юбілей - 600-годдзе з часу пасялення на землях Беларуска-Літоўскай Дзяржавы, якая называлася тады Вялікім Княствам Літоўскім.

У сваёй гісторыі мы перажылі перыяды спаду і ўздыму, ганенняў і росквіту, многіх войнаў і нягод. Але народ выстаяў, выжыў, захаваў сваю веру - Іслам, звычаі, традыцыі. У той жа час пад уплывам навакольнага асяроддзя была страчана намі родная татарская мова. У гады таталітарнага рэжыму, асабліва пасля Другой сусветнай вайны, былі разбураны амаль усе мячэці. У Беларусі засталася толькі адна дзейная мячэць у Іўі (Гродзенская вобл.), а дзве іншыя, як помнікі драўлянага дойлідства, што былі ў Лоўчыцах каля Навагрудка і ў Даўбуцішках Смаргонскага раёна (Гродзенскай вобл.) мяркуецца аднавіць. У Польшчы ёсць тры мячэці, а ў Літве - чатыры.

На мяжы знікнення мусульманская рэлігія ў Беларусі, якая амаль 600 гадоў дапамагала татарам Беларусі захавацца як асобнаму этнасу.

Такі стан беларускіх татараў ускладняецца тым, што і наша дзяржава - Рэспубліка Беларусь перажывае складаны пераходны перыяд эканамічнага развіцця і нічым не можа дапамагчы нам, татарам, у працэсе нашага адраджэння.

Улічваючы складанасць нашага цяперашняга стану і з мэтай захавання вельмі своеасаблівага этнасу ў геаграфічным цэнтры

Еўропы, канферэнцыя беларускіх татараў-мусульман, якая адбывалася ў Менску 23-24 снежня 1994 г., звяртаецца з просьбай у ЮНЕСКО аказаць магчымую матэрыяльную, гуманітарную і іншую дапамогу ў час, які яшчэ застаўся да 600-годдзя з тым, каб даць добры імпульс народу, які амаль знікае.

Мы ўскладаем вялікія надзеі на ЮНЕСКО і ў тым, што будзе прыцягнута ўвага народаў свету да нашай праблемы і на дапамогу ў арганізацыі і ўдзеле ў самым юбілеі.

Прынята 23.12.1994 г.

г.Менск

## З в а р о т
## Канферэнцыі беларускіх татараў-мусульман да Прэзідэнта і Урада Рэспублікі Беларусь

Беларускія татары-мусульмане, якія сабраліся 23 снежня 1994 г. у горадзе Менск на канферэнцыю, прысвечаную абмеркаванню пытанняў стану спраў у сферы адраджэння сваёй культуры, рэлігіі, традыцый і звычаяў, а таксама падрыхтоўкі да будучага святкавання свайго 600-гадовага юбілею з часу першых пасяленняў татараў на землях Беларуска-Літоўскай Дзяржавы, прыйшлі да адзінай думкі ў наступным:

За сваю 600-гадовую гісторыю пражывання татараў сярод беларускага, літоўскага і польскага насельніцтва наш народ перажыў часы спадаў і ўздымаў, ганенняў і працвітання, многіх войнаў і нягод. І ўсё ж вятры гісторыі не знішчылі наш народ - ён устаяў, выжыў, захаваў сваю рэлігію - Іслам, часткова зберог звычаі і традыцыі. Татарскі народ знайшоў сваё месца сярод беларусаў, літоўцаў і палякаў, устанавіў з імі цесныя сяброўскія адносіны, запазычыў мову навакольнага насельніцтва, але страціў сваю родную мову - татарскую.

Вельмі цяжкім аказаўся наш лёс у Другую сусветную вайну і час праўлення таталітарнага рэжыму. Толькі на Беларусі з дзейных да вайны 19 мячэцяў засталася адна ў Іўі Гродзенскай вобл. У Польшчы пасля вайны засталіся дзве мячэці і нядаўна пабудавана ў Гданьску трэцяя. У Літве існуюць цяпер чатыры мячэці, з якіх нядаўна адноўлены ў Каўнасе і Рэйжах.

У сучасную эпоху вызвалення народаў ад таталітарных рэжымаў,

у эпоху прызнання правоў і свабод кожнага чалавека, мы атрымалі спрыяльныя ўмовы пачаць сваё адраджэнне, устанавіць і ўмацаваць сувязі з нашымі братамі, якія па волі лёсу апынуліся цяпер у трох розных дзяржавах - Беларусі, Літве і Польшчы. Але мы маем агульныя карані, агульных продкаў, адзіную культуру, рэлігію, звычаі. Таму зусім натуральна нашае імкненне, нягледзячы на граніцы, да яднання, цеснага сяброўства, да падтрымкі адзін аднаго.

Наша дзяржава перажывае цяжкі пераходны перыяд эканамічнага развіцця. Мы гэта ўспрыймаем як непазбежную рэальнасць. Але мы спадзяемся, што, будучы грамадзянамі Рэспублікі Беларусь, мы ўсё ж можам разлічваць хоць бы на мінімальную дапамогу з боку Прэзідэнта і Урада ў справе нашага адраджэння.

Мы спадзяемся, што кіраўнікі нашай Рэспублікі Беларусь знойдуць магчымасць вылучыць сродкі матэрыяльнай і гуманітарнай дапамогі татарскаму этнасу ў перыяд падрыхтоўкі і правядзення значнай падзеі ў гісторыі не толькі саміх татараў, але і беларускага, літоўскага і польскага народаў - 600-годдзя сумеснага пражывання. Мы просім вылучыць сродкі на аднаўленне дзвюх мячэцяў - помнікаў драўлянага дойлідства Беларусі ў Лоўчыцах каля Навагрудка і Даўбуцішкаўскай мячэці, якая будзе рэканструявана ў музеі пад адкрытым небам у Строчыцах. Адпаведная тэхнічная дакументацыя аформлена, але работы былі спынены з прычыны недахопу сродкаў на будаўніцтва. Ёсць вялікая неабходнасць работу прадоўжыць і завяршыць да 600-годдзя пасялення татараў на гэтых землях.

Просім таксама вылучыць памяшканне для правядзення сходаў, арганізацыі класаў (медрэсе) па вывучэнні татарскай мовы, стварэння бібліятэк і музеяў. Мы не гаворым пра масавасць - мы просім дапамогі хоць бы ў адзінкавых аб"ектах.

Такая ўвага з боку кіраўнікоў дзяржавы будзе належна ацэнена і з удзячнасцю прынята нашым народам і паслужыць далейшаму ўмацаванню і развіццю ўзаемадапамогі і даверу паміж усімі народамі, якія насяляюць Беларусь.

Прыняты 23.12.1994 г.

г.Менск

У Імя Аллага Міласціваға І Міласэрнага

АСНОЎНЫЯ НАПРАМКІ СУМЕСНАЙ ДЗЕЙНАСЦІ БЕЛАРУСКАГА ЗГУРТАВАННЯ ТАТАРАЎ-МУСУЛЬМАН "АЛЬ-КІТАБ" І МУСУЛЬМАНСКАГА РЭЛІГІЙНАГА АБ"ЯДНАННЯ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА ПАДРЫХТОЎЦЫ І ПРАВЯДЗЕННІ СВЯТКАВАННЯ 600-ГОДДЗЯ ТАТАРСКАГА АСАДНІЦТВА НА ЗЕМЛЯХ БЕЛАРУСІ, ЛІТВЫ І ПОЛЬШЧЫ, РАСПАЧАТАГА ПРЫ ВІТАЎЦЕ ВЯЛІКІМ

(1397 - 1997 гг.)

## Гістарычная даведка

Паважанае спадарства!

Татары-мусульмане жывуць на землях Беларусі і суседніх Літвы і Польшчы вось ужо скора шэсць стагоддзяў. У 1997 годзе споўніцца 600 гадоў са дня зафіксаванай летапісамі і хронікамі афіцыйнай даты паяўлення на землях Беларуска-Літоўскай Дзяржавы (або як тады называлі Вялікага Княства Літоўскага) першых пасяленняў татараў-мусульман.

Вялікі князь літоўскі Вітаўт, які заклікаў татараў на ваенную службу, гарантаваў ім свабоду веравызнання, таму многа татараў з Залатой Арды, а пасля яе распаду з Крымскага ханства, Заволжскай Арды і іншых мясцін перасяляліся і аселі на землях Беларуска-Літоўскай Дзяржавы. Па звестках ХУ - ХУШ ст.ст. сярод татараў Беларусі, Літвы і Польшчы вылучаюцца прадстаўнікі наступных племянных груп: найман, ялаір, кандрат (кунграт), юшын (уйшын). Вядомы таксама прадстаўнікі буйных феадальных кланаў: барыны, мансуры і інш. Талерантнасць (верацярпімасць), якая панавала тады ў Вялікім Княстве Літоўскім, дазваляла татарам на прадастаўленых ім землях будаваць мячэці, адкрываць мусульманскія школы-мектэбе.

У ХУІ стагоддзі на тэрыторыі Рэчы Паспалітай (польска-беларускай - літоўскай дзяржавы) пражывала каля 100 тысяч татараў-мусульман, якія мелі каля 400 мячэцяў (гэта значыць, што не меней чым 400 населеных пунктаў мелі мусульманскае, татарскае насельніцтва).

Татарскія пасяленцы доўга захоўвалі сваю сацыяльна-племянную арганізацыю, традыцыйныя звычаі, абрады, мусульманскую веру і адрозніваліся ад мясцовага насельніцтва асаблівасцямі матэрыяльнай культуры. Па сацыяльна-прававому становішчу большасць татараў у Вялікім Княстве Літоўскім былі вайскоўцамі, юрыдычна прыраўняныя да шляхты. Яны атрымлівалі за службу зямлю, якая знаходзілася ў спадчынным карыстанні. Сярод вайскоўцаў вылучаліся саслоўна-родавыя вярхі - князі (бекі, мурзы) і уланы, якія мелі сваіх слугаў - сялян сваёй веры, путных і бронных (панцырных) баяраў.

У другой палавіне ХУП ст. ў татараў Беларусі, Літвы і Польшчы знікаюць племянныя адрозненні, татарскія пасяленцы усё часцей прымаюць прозвішчы (толькі пры наяўнасці прозвішча можна было прасачыць за наследаваннем маёмасці, прывілеяў, павіннасцяў перад дзяржавай).

Татарскія прозвішчы па форме нагадваюць польскія і беларускія. Нават такі вялікі спецыяліст-усходазнавец як Антон Мухлінскі, лічыў, што свае прозвішчы татары ўзялі ад прозвішчаў сваіх жонак-славянак, бо сваіх татарак-мусульманак было вельмі мала. Больш глыбокае даследаванне гэтага пытання правёў Станіслаў Думін, які паказаў, што большасць татарскіх прозвішчаў маюць татарскае ці мусульманскае паходжанне: Кандратовічы - нашчадкі племя кунгратаў, Бараноўскія - нашчадкі племя барын, Александровічы - дзеці Алі, Смольскія - дзеці Ісмаіла (Смолі), Хасяневічы - дзеці Хасеня, Шабановічы - ад імя Шаубан, Якубоўскія - ад імя Якуб і г.д.

Пад уплывам навакольнага славянскага і літоўскага насельніцтва татары да сярэдзіны ХУІ стагоддзя перайшлі на беларускую, польскую, рускую, месцамі літоўскую мову, збярогшы пры гэтым у сваім актыўным слоўніку некалькі соцень татарскіх слоў у асноўным звязаных з рэлігіяй - Ісламам. Некаторыя віды ісламскай літаратуры яны пераклалі з арабскай мовы на беларускую. Разам з тым, мовай багаслужэння, штодзённых і пятнічных малітваў заставалася арабская. Некаторыя малітвы былі на старататарскай мове.

На пачатку ХУП стагоддзя, у сувязі з наступленнем каталіцкай контррэфармацыі, пачаліся ганенні на пратэстантаў-хрысціян і мусульман. Многія татары, асабліва тыя, што жылі на паўднёвай ускраіне Рэчы Паспалітай (у межах сучаснай Украіны), выехалі з

сем"ямі у прычарнаморскія стэпы, пераважна у Крымскае ханства. Некаторая частка татарау выхрысцілася. І толькі самыя стойкія вытрымалі, не выракліся сваей веры - Ісламу.

Адносна хутка, праз некалькі дзесяцігоддзяу, адносіны да татарау-мусульман у Рэчы Паспалітай палепшыліся, але да гэтага часу колькасць татарау зменшылася, а у канцы ХУІІ стагоддзя іх налічвалася толькі 30 тыс. чалавек.

Татары адыгралі немалую ролю у жыцці уноу прыдбанай радзімы. Пасяліушыся у месцах, дзе усё было незвычайным, татары на працягу 600 гадоу захоувалі не толькі свае нацыянальныя адрозненні, але і прынеслі нямала карысці сваім гасцінным гаспадарам зямлі - беларусам, літоуцам і палякам. Яны былі на баку гэтых народау у бітве пад Грунвальдам (1410 г.). Аб удзеле татарау у гэтай бітве аутары некаторых мастацкіх і навукова-мастацкіх кніг усім не упамінаюць, хоць іх кнігі, разыходзячыся у вялікай колькасці, фарміруюць думку чытачоу аб тых падзеях. Вядомы польскі гісторык Ян Длугаш, львоускі архіепіскап у апісанні Грунвальдскай бітвы стараусь неяк абыйсці пытанне аб колькасці і ролі татарскіх воінау, якія прымалі удзел у гэтай, найважнейшай у гісторыі Еуропы бітвы 15 стагоддзя.

Нямецкія гісторыкі, тлумачачы прычыну іх паразы у гэтай бітве, пісалі, што Ягайла і Вітаут, прыцягнулі на свой бок 40 тыс. няверных - татарау пад началам Джалал эд-Дзіна, сына Тахтамыша. Пра тое, што яшчэ у 1409 г. была дамова Ягайлы і Вітаута з Джалал эд-Дзінам аб удзеле яго войска у бітве з крыжакамі, вядома з гістарычных крыніц. Калі Длугаш упамінае аб 3 сотнях татарау, якія удзельнічалі у гэтай бітве, то гэта не адпавядае сапраўднасці. Непасрэдна падпарадкаваныя Вітауту татары, тыя, якія з сем"ямі жылі у Беларуска-Літоускай Дзяржаве і ішлі у бой пад бела-чырвона-белым гаспадарскім сцягам, з паумесяцам і зоркай белага колеру на чырвонай паласе, можа і былі не вельмі шматлікімі.

У пазнейшыя гады рускія гісторыкі вельмі часта упамінаюць радкі з гісторыі Яна Длугаша пра тое, што тры рускія смаленскія палкі вельмі мужна змагаліся і гэта іх мужнасць і вырашыла зыход Грунвальдскай бітвы. І ніхто з іх, гісторыкау, не піша пра тое, што Смаленск у гэты час быу у складзе Вялікага Княства Літоускага, што два з трох палкоу былі сфарміраваны з воінау

мсціслаўскага князя Сямёна. Не трэба забываць, што вялікі князь Вялікага Княства Маскоўскага Васіль I Дзмітрыевіч, зяць Вітаўта, нічым не дапамог Польшчы і Беларуска-Літоўскай Дзяржаве ў вайне супроць крыжакоў, якія ў выпадку перамогі маглі б на многія гады заняволіць Польшчу і Беларуска-Літоўскую Дзяржаву.

Вельмі таленавіты пісьменнік і гісторык Канстанцін Тарасаў даследаваў гісторыю гэтай бітвы не толькі па "Гісторыі Польшчы" Яна Длугаша, але і па іншых крыніцах, у прыватнасці нямецкіх хроніках. Ён сказаў аб ролі татараў у гэтай бітве намнога больш, хоць справядліва адзначае, што нямецкія хронікі пра колькасць татараў, якія дапамагалі Ягайле і Вітаўту, вельмі перабольшваюць. Ва ўсякім разе Ягайла і Вітаўт выканалі дамову з Джалал эд-Дзінам. За дапамогу татараў пад Грунвальдам яны дапамаглі яму адваяваць трон у Залатой Ардзе.

Татары прымалі актыўны ўдзел і ў іншых войнах, якія вяла Рэч Паспалітая з блізкімі і далёкімі краінамі. Татары дачыніліся да збройнай барацьбы з трыма драпежнымі краінамі, якія разарвалі дзяржаву ў цэнтры Еўропы - Рэч Паспалітую. Вядомы сваімі подзвігамі і ўмельствам у баях татарын генерал Юсуф Беляк. У баях з рускімі карнікамі загінуў генерал Якуб Ясінскі, які як нядаўна ўстанавілі беларускія гісторыкі, быў па паходжанні татарынам. Вядомасць атрымалі і іншыя генералы, такі як Мацей (Муса) Сулькевіч, многія палкоўнікі, іншыя афіцэры і шараговыя, якія змагаліся за незалежнасць сваёй Бацькаўшчыны.

Перад Першай сусветнай вайной на тэрыторыі Паўночна-Заходняга края Расіі жыло каля 14 тыс. татараў-мусульман. Іслам быў адзінай апорай, якая абараняла іх культуру ад асіміляцыі. Татары-мусульмане, жывучы па суседству з іншымі канфесіямі, асабліва пануючым праваслаўем, сумелі зберагчы сваю веру, свае звычаі, сваю культуру. Гэты адбылося таму, што жыла мусульманская абшчына, існавалі мячэці. Да сярэдзіны XIX ст. у заходніх губернях Расіі была 21 мячэць.

Пасля Першай сусветнай вайны частка татараў-мусульман засталася на тэрыторыі Расіі, куды ў 1915 г. яны былі эвакуіраваны (пераважна ў Казанскую, Уфімскую і Таўрычаскую губерні). Большая частка татараў (каля 6 тыс. чалавек) аказалася ў межах адроджанай Польшчы, частка (прыкладна 1,5 тыс. чалавек) - у Літве, астатнія - у Савецкай Беларусі.

У 1925 годзе у Вільні татары-мусульмане утварылі муфціят, абвясцілі аутакефалію Ісламскіх джаміятау (парафій, прыходау) у Польшчы. Да гэтага духоуным жыццём татарау апекавауся муфціят Таурычаскай губерні з Сімферопаля (у Крыме).

У Польшчы у міжваенны перыяд (1918 - 1939 гг.) вялася вялікая работа па адраджэнні гісторыі і культуры татарскага народа. Было утворана Мусульманскае рэлігійнае задзіночанне (1925), Культурна- асветніцкае задзіночанне татарау Польшчы (1926). Выдаваліся "Татарскі штогоднік", часопісы "Татарскае жыццё", "Ісламскі веснік", мусульманскія календары, падручнікі для татарскіх дзяцей, асобныя суры (раздзелы) з Кур"ана на арабскай і польскай мовах. Друкаваліся шматлікія артыкулы аб татарах у польскіх навуковых і навукова-папулярных выданнях. У месцах кампактнага пражывання татарау-мусульман татарскія дзеці вывучалі Іслам у школах, для чаго у раскладзе агульнаадукацыйных школ былі спецыяльна прадугледжаны урокі, а дзяржава плаціла настаунікам зарплату. Найбольш старанныя і здольныя татарскія юнакі пасылаліся на вучобу у мусульманскія краіны у медрэсе і універсітэты (Сараева, Каір).

Аднак адраджэнне мусульманскай веры і культуры татарау-мусульман было перарвана Другой сусветнай вайной. Шмат татарау загінула на франтах, у партызанскіх атрадах, у барацьбе з нямецкім фашызмам. Нямала татарау было адпраулена таталітарным рэжымам у Сібір і Казахстан. Многія татары-мусульмане, баючыся, што іх можа спасцігнуць лёс крымскіх татарау, каб не аказацца у Сібіры самі пакінулі радзіму, як былыя грамадзяне Польшчы яны атрымалі права выехаць туды, а ужо адтуль некаторыя паехалі у ЗША, Аустралію і іншыя краіны.

Мусульманская культура татарау Беларусі, Літвы і Польшчы, якая зберагалася на працягу стагоддзяу, за гады савецкай улады прышла у занепад. Зачыняліся, руйнаваліся мячэці, забываліся традыцыі. Пасля Другой сусветнай вайны на тэрыторыі Польшчы зберагліся дзве мячэці (нядауна у Гданьску з дапамогай мусульман з Блізкага Усходу пабудавана прыгожая цагляная мячэць), на Літве - тры (у Каунасе з дапамогай дзяржавы у 1930 г. пабудавана прыгожая цагляная мячэць), у Беларусі - адна дзейная мячэць у мястэчку Іуе Гродзенскай вобл.

У канцы 80-х гадоу, калі пачауся працэс нацыянальнага ад-

раджэння народаў, актыўныя прадстаўнікі татарскага народа аб"ядналіся і утварылі грамадска-культурныя ісламскія згуртаванні ў Літве і Беларусі. У Польшчы мусульманскае культурна-асветніцкае задаіночанне дзейнічае з 1945 года.

У Рэспубліцы Беларусь па перапісу 1989 г. пражывала 12,5тыс. татараў-мусульман. На тэрыторыі дзяржавы яны рассеЛены дысперсна. Найбольшыя абшчыны знаходзяцца ў Менску і Менскім раёне (3033 чалавек), Гродне і Гродзенскім раёне (745), Віцебску і Віцебскім раёне (464), Магілёве і Магілёўскім раёне (412), Навагрудку і Навагрудскім раёне Гродзенскай вобласці (339), Брэсце і Брэсцкім раёне (321), Чэрвеньскім раёне Менскай вобласці (317).

Усю работу па адраджэнні і захаванні самабытнага (па вызначэнні ЮНЕСКА рэліктавага) татарскага народа каардынуе і накіроўвае створаны ў 1991 г. "Аль-Кітаб" (Беларускае згуртаванне татараў-мусульман) і Мусульманскае рэлігійнае аб"яднанне Рэспублікі Беларусь, зарэгістраванае ў 1993 годзе (уключае 25 мусульманскіх абшчын). У пачатку 1992 года на канферэнцыі ў Менску была зроблена спроба стварыць умму татараў-мусульман Беларусі, Літвы і Польшчы. Праводзіцца разнастайная праца па падрыхтоўцы да агульнанацыянальнага свята - 600-годдзя пасялення татараў на землях Беларусі, Літвы і Польшчы. Зыходзячы з галоўнай мэты - адраджэння мусульманскай рэлігіі, татарскай мовы і ісламскай культуры беларускіх татараў у наступныя тры гады (1995 - 1997) у Беларусі - Інша Аллаг (калі на тое будзе воля Аллага) - плануецца выканаць наступныя мерапрыемствы:

| № | Віды работ, назва мерапрыемства | Тэрмін правядзення | Адказныя за правядзенне |
|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 |
| 1 | АРГАНІЗАЦЫЙНАЯ РАБОТА | | |
| | 1.а. Стварэнне рэспубліканскай, абласных, раённых камісій па падрыхтоўцы і правядзенні 600-годдзя пасялення татараў-мусульман на землях Беларусі, Літвы і Польшчы | да мая 1995 г. | Праўленне "Аль-Кітаб" і муфціят абшчыны татараў-мусульман |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | 1.б. Распрацоўка і складанне сумеснага плана правядзення святкавання 600-годдзя пасялення татараў-мусульман у Беларусі, Літве і Польшчы у 1995 - 1997 гг. | да сакавіка 1995 г. | Каардынацыйная Рада татараў-мусульман Беларусі, Літвы і Польшчы |
| | 1.в. Працяг работы па стварэнні мусульманскіх абшчын у месцах кампактнага пражывання татараў-мусульман у Беларусі | 1995 - 1997 г. | Мусульманскае рэлігійнае аб"ядчанне Рэспублікі Беларусь, "Аль-Кітаб" |
| | 1.г. Правядзенне нарад і семінараў па праблемах каардынацыі жыцця дзейнасці абшчын татараў-мусульман | снежань і чэрвень кожнага года | Мусульманскае рэлігійнае аб"яднанне Рэспублікі Беларусь, "Аль-Кітаб" |
| | 1.д. Правядзенне 2-й міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі па праблемах адраджэння ісламскай культуры татараў-мусульман Беларусі | май 1995 г. | Праўленне "Аль-Кітаб" і муфціят |
| | 1.е. Удзел у правядзенні мерапрыемстваў, звязаных з 600-годдзем пасялення татараў-мусульман у Літве і Польшчы | 1995-1997 гг. | Праўленне "Аль-Кітаб" і муфціят |
| | 1.ж. Правядзенне юбілейных урачыстасцей у месцах рассялення татараў-мусульман у Рэспубліцы Беларусь | 1997 г. | Праўленне "Аль-Кітаб" і муфціят |
| 2 | НАВУЧАЛЬНАЯ РАБОТА, НАВУКОВА-ВЫДАВЕЦКАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ | | |
| | 2.а. Арганізацыя навучальнага працэсу ў нядзельных школах, групах, класах і забеспячэнне іх мастацкай і метадычнай літаратурай | 1995-1997 гг. | Аб"яднанне "Аль-Кітаб", муфціят, Саюз мусульманскай моладзі Беларусі |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | 2.б. Арганізацыя і правядзенне летніх мухайемаў (навучальна-аздараўленчых лагераў) | 1995 - 1997 г. | Аб"яднанне "Аль-Кітаб", муфціят, Саюз мусальманскай моладзі Беларусі |
| | 2.в. Накіраванне на вучобу абітурыентаў з ліку татарскіх юнакоў і дзяўчат у ВНУ Рэспублікі па мэтаваму набору | штогод | Аб"яднанне "Аль-Кітаб", муфціят, Саюз моладзі мусульманскай Беларусі |
| | 2.г. Накіраванне на вучобу лепшых вучняў для атрымання вышэйшай мусульманскай адукацыі ў навучальных установах за мяжой (па спецыяльным плане) | штогод | Аб"яднанне "Аль-Кітаб", муфціят, Саюз мусульманскай моладзі Беларусі |
| | 2.д. Падрыхтоўка да выдання энцыклапедычнага даведніка "Татары Беларусі, Літвы і Польшчы" на 2 тыс. артыкулаў | 1995 - 1997 гг. | Рэдакцыя квартальніка "Байрам", Якубоўскі Я.А. |
| | 2.е. Работа па арганізацыі факультэта ўсходазнаўства ў адным з універсітэтаў Рэспублікі Беларусь | 1995 - 1996 навуч. год | Аб"яднанне "Аль-Кітаб" разам з Міністэрствам асветы і навукі Рэспублікі Беларусь |
| | 2.ж. Этнаграфічныя і археаграфічныя экспедыцыі па месцах кампактнага пражывання татараў Беларусі з мэтай пошукаў старадаўніх кніг, татарскага фальклору | 1995 - 1997 гг. | Аб"яднанне "Аль-Кітаб" разам з АН Рэспублікі Беларусь |
| | 2.з. Сацыялагічныя даследаванні ў месцах кампактнага пражывання татараў-мусульман | 1995 - 1997 гг. | Аб"яднанне "Аль-Кітаб" з АН Рэспублікі Беларусь |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | 2.1. Хадайнічаць перад Міністэрствам друку аб уключэнні у дзяржауны заказ наступных перыядычных выданняу і літаратуры беларускіх татарау на 1995 г.: | 1995 г. | Аб"яднанне "Аль-Кітаб", муфціят, Міністэрства друку Рэспублікі Беларусь |
| | - Квартальнік Беларускага аб"яднання татарау-мусульман "Аль-Кітаб" (4 сшыткі памерам па 5 аутарскіх аркушау). Тыраж 1 тыс. паасобнікау | 1995-1997 гг. | Якубоускі Я.А. |
| | - Беларуска-крымскататарскі і крымскататарска-беларускі слоунік з асновамі крымскататарскай граматыкі (на 5 тыс. слоу). Тыраж 5 тыс. паасобнікау | 1996 | Меметау І.І. |
| | - Аль-Кітаб беларускіх татарау-літаратурны помнік татарскай і беларускай літаратуры ХУ - ХУІ ст. У двух кнігах па 15 аутарскіх аркушау. Тыраж кожнай кнігі 5 тыс. паасобнікау | | Александровіч І.М Канапацкі І.Б., Якубоускі Я.А. |
| | - Татарскі штогоднік (аб"ём 10 аутарскіх аркушау). Тыраж 2 тыс. паасобнікау | 1995 - 1997 гг. | Якубоускі Я.А. Канапацкі І.Б. |
| | - Мухлінскі Хамаіл у двух кнігах (на арабскай і беларускай мовах). Тыраж 1 тыс. паасобнікау | 1995 | Александровіч І.М. |
| | - Энцыклапедычны даведнік "Татары Беларусі, Літвы і Польшчы". Пробныя артыкулы і прынцыпы пабудовы даведніка (аб"ём 5 аутарскіх аркушау). Тыраж 500 паасобнікау | 1995 г. | Якубоускі Я.А. |

| I | 2 | 3 | 4 |
| --- | --- | --- | --- |
| | - Матэрыялы I-й міжнароднай навуковай канферэнцыі, прысвечанай 600-годдзю пасялення татараў на землях Беларусі, Літвы і Польшчы (аб"ём 25 аўтарскіх аркушаў). Тыраж [illegible] паасобнікаў | 1995 г. | Канапацкі І.Б. |
| | - Мусульманскі каляндар беларускіх татараў на 1996 г. (аб"ём 3 аўтарскія аркушы). Тыраж 2 тыс. паасобнікаў | 1995 г. | Варановіч І.М. |
| | - Беларускія мусульмане: гісторыя, сучаснасць і перспектывы. Навуковае даследаванне (аб"ём 10 аўтарскіх аркушаў). Тыраж 5 тыс. паасобнікаў | 1997 г. | Канапацкі І.Б. |
| | - Вывучкі па татарскіх мясцінах у Беларусі. Турыстычны даведнік (аб"ём 5 аўтарскіх аркушаў). Тыраж 5 тыс. паасобнікаў | 1996 г. | Александровіч І., Канапацкі І., Шабановіч А. |
| | - Мячэці беларускіх татараў. Фотабуклет (20 фотаздымкаў). Тыраж 5 тыс. паасобнікаў | 1997 г. | Александровіч І. |
| | - Мусульманскі каляндар беларускіх татараў на 1997 г. (аб"ём 3 аўтарскія аркушы). Тыраж 2 тыс. паасобнікаў | 1996 г. | Варановіч І.М. |
| 3 | КУЛЬТУРНА-АСВЕТНАЯ РАБОТА | | |
| | 3.а. Удзел у правядзенні першага фестываля нацыянальных культур у Беларусі. Хадайнічаць перад Міністэрствам культуры аб вылучэнні сродкаў для запрашэння ансамбляў з Татарстана і Крыма | 1995 г. | Аб"яднанне "Аль-Кітаб", Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | 3.б. Правядзенне Усебеларускага фестывалю татарскай народнай творчасці | 1997 г. | Аб"яднанне татараў-мусульман "Аль-Кітаб" |
| | 3.в. Збор матэрыялаў для бібліятэкі і мемарыяльнага зала Менскай саборнай мячэці | 1997 г. | Аб"яднанне "Аль-Кітаб" і муфціят |
| | 3.г. Збор і сістэматызацыя гістарычных матэрыялаў, мусульманскіх кніг і дакументаў для камплектавання экспазіцыі нацыянальнага музея татараў Беларусі | 1995 - 1997 гг. | Аб"яднанне "Аль-Кітаб", муфціят |
| | 3.д. Арганізацыя маладзёжных і дзіцячых ансамбляў у Менску, Гродне, Навагрудку, Іўі | 1995 - 1996 гг. | Аб"яднанне "Аль-Кітаб", маладзёжныя арганізацыі. Міністэрства культуры |
| | 3.е. Правядзенне маладзёжных сустрэч у месцах кампактнага пражывання татараў. Правядзенне штогадовых фестываляў моладзі ў Менску, Навагрудку і Іўі | 1995 - 1997 гг. | Аб"яднанне "Аль-Кітаб", маладзёжныя арганізацыі |
| | 3.ж. Стварэнне серыі кінафільмаў пра татараў-мусульман Беларусі | 1995 - 1997 гг. | Аб"яднанне "Аль-Кітаб", Міністэрства культуры |
| | 3.з. Падрыхтоўка напярэдадні мусульманскіх святаў радыё- і тэлеперадач з расказам пра культуру мусульманскага свету | 1995 - 1997 г. | Аб"яднанне "Аль-Кітаб", Міністэрства культуры |
| | 3.і. Арганізацыя ў Менску тэатра мусульманскага фальклору | 1995 г. | Аб"яднанне "Аль-Кітаб" |

| I | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 4 | РЭСТАЎРАЦЫЯ І БУДАЎНІЦТВА МЯЧЭЦЯЎ, ДОГЛЯД МІЗАРАЎ, СТВАРЭННЕ ЦЭНТРАЎ ІСЛАМСКАЙ КУЛЬТУРЫ | | |
| | 4.а. Рэстаўрацыя Даўбуцішкаўскай мячэці ў музеі-запаведніку помнікаў драўлянага дойлідства ў Воўчкавічах ( Строчыцах ). | 1995 г. | Аб"яднанне "Аль-Кітаб", Міністэрства культуры |
| | 4.б. Рэстаўрацыя і будаўніцтва мячэці ў Лоўчыцах | 1997 г. | Аб"яднанне "Аль-Кітаб", муфціят |
| | 4.в. Рэстаўрацыя мячэці ў Навагрудку | 1995 г. | Аб"яднанне "Аль-Кітаб", муфціят |
| | 4.г. Будаўніцтва саборнай мячэці і цэнтра ісламскай культуры ў Менску | 1997 г. | "Аль-Кітаб", муфціят |
| | 4.д. Будаўніцтва мячэці ў Гродне | 1997 г. | "Аль-Кітаб", муфціят |
| | 4.е. Завяршэнне будаўніцтва Ісламскага культурнага цэнтра ў Іўі Гродзенскай вобл. | 1995 г. | "Аль-Кітаб", муфціят |
| | 4.ж. Будаўніцтва мячэці ў Клецку | 1997 г. | "Аль-Кітаб", муфціят |
| | 4.з. Будаўніцтва мячэці ў Смілавічах Чэрвеньскага раёна Менскай вобл. | 1997 г. | "Аль-Кітаб", муфціят |
| | 4.і. Інвентарызацыя старадаўніх і сучасных могілак-мізараў | 1995-1997 гг. | "Аль-Кітаб", муфціят |
| | 4.к. Абгрунтаванне неабходнасці будаўніцтва культавых і нацыянальных культурных цэнтраў у іншых рэгіёнах Рэспублікі Беларусь | да сакавіка 1995 г. | Плескандровіч І., Аляксандраў Б., Нікалайчык К., Багданаў І. |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 5 | ДАБРАЧЫННАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ | | |
| | 5.а. Стварэнне банка дадзеных пра пенсіянерау, састарэлых мусульманах, інвалідах з дзяцінства, вайны і працы, шматдзетных сем"ях з мэтай аказання ім матэрыяльнай дапамогі | 1995 г. | "Аль-Кітаб", муфціят |
| | 5.б. Стварэнне спецыяльнага рэспубліканскага фонду дабрачыннай дапамогі | 1995 г. | "Аль-Кітаб", муфціят |
| | 5.в. Правядзенне медыцынскіх дабрачынных караванау з мэтай раздачы лекау хворым і састарэлым | 1995-1997 гг. | "Аль-Кітаб", муфціят |
| | 5.г. Раздача гуманітарнай дапамогі хворым і састарэлым ад ісламскіх арганізацый і спонсарау (па спецыяльнаму плану) | 1995 - 1997 г. | "Аль-Кітаб", муфціят, маладзёжныя арганізацыі |
| 6. | ВЫТВОРЧА-КАМЕРЦЫЙНАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ | | |
| | 6.а. Адкрыццё і выкарыстанне замежных інвестыцый мусульманскага банка у Менску | 1995 г. | "Аль-Кітаб", муфціят |
| | 6.б. Аказанне дапамогі у арганізацыі комплексу па перапрацоуцы гароднiны у г.п.Іуі | 1995 г. | "Аль-Кітаб", муфціят |
| | 6.в. Стварэнне будаунiча-рамонтных арганізацый у Менску і абласных цэнтрах | 1995 г. | "Аль-Кітаб", муфціят |
| | 6.г. Адкрыццё крамау па продажу прадметау шырокага ужытку у Менску, Гродне, Іуі, Навагрудку, Смілавічах, Клецку, Слоніме і іншых гарадах | 1995 г. | "Аль-Кітаб", муфціят |
| | 6.д. Хадайніцтва перад Вярхоуным Саветам Рэспублікі Беларусь аб зніжэнні падаткау на вытворча-камерцыйную дзейнасць прадпрыем- | 1995 г. | "Аль-Кітаб", муфціят |

| I | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | ству аб"яднання "Аль-Кітаб" і Мусульманскага рэлігійнага аб"яднання Рэспублікі Беларусь | | |
| 7 | МІЖНАРОДНАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ | | |
| | 7.а. Умацаванне пастаянных сувязей з усімі грамадска-культурнымі аб"яднаннямі нацыянальных меншасцей Беларусі і рэлігійнымі канфесіямі | 1995 - 1997 гг. | "Аль-Кітаб", муфціят |
| | 7.б. Сумесная дзейнасць арганізацый беларускіх татараў-мусульман і арганізацый татараў Літвы і Польшчы па падрыхтоўцы і правядзенні 600-гадовага юбілею Ісламу ў гэтых краінах | 1995 - | "Аль-Кітаб", муфціят |
| | 7.в. Умацаванне і развіццё міжнародных сувязей з адзінаверцамі з Татарстана, Крыма, Расійскай Федэрацыі, усёй Украіны, Латвіі, Эстоніі, Швецыі, Фінляндыі, краін Цэнтральнай, Заходняй Еўропы, Турцыі, Азіі, Афрыкі, Амерыкі, Аўстраліі, дзяржаў Арабскага Усхода | 1995 - 1997 гг. | "Аль-Кітаб", муфціят |
| | 7.г. Устанаўленне і развіццё сувязей з міжнароднымі ісламскімі арганізацыямі краін Еўропы, Азіі, Афрыкі і Амерыкі | 1995 - 1997 гг. | "Аль-Кітаб", муфціят |

## Людзі дружбы чатырох нацый

Беларусы, татары, палякі,
лятувісы -
Абаронцы граніцы...
Тут яны прайшлі!
Праз лясы, гоні, крыніцы.
Людзі мужнага складу!
Кожны камень і горад свядомы,
Гэта нашы татары
Нам усім, і ім вядома.
Абаронцы нашай сталіцы!
Змаганне за годнасць
Усіх нацый...
Быць дружным Народам
Рэспублікі брацкай Беларусь.

## Спадчына

Не нішчыце магільных курганоў!
Да болю, сэрца, працінаюць думкі.
То ж гэта памяць нашых усіх дзядоў
І мы павінны ў Радаўніцу тут паставіць румкі.

З вялікаю жалобаю гляджу я праз вякі,
Яшчэ адзін мой светлы дзень згасае.
Але ці думаем, што лёс цяпер такі?
Што ў сэрцах боль ніяк не прападае.

О спадчына мая!
У маім ты сэрцы як крыніца.
Ужо колькі год іду дарогай мацярынства
О спадчына мая!

# ТАТАРСКІЯ МЯСЦІНЫ І ІХ УЛАДАЛЬНІКІ Ў МЕНСКУ Ў XIX СТАГОДДЗІ

Беларускія татары, якія дагэтуль жывуць у нашым краі, пасяліліся на Меншчыне і Віленшчыне на пачатку ХУ стагоддзя. Яны былі закліканы вялікім князем Вітаўтам, каб дапамагчы у барацьбе супраць крыжакоў. Вайна скончылася, але яны засталіся на нашых землях. Ім далі права браць у жонкі дачок тутэйшых баяршляхты, ад якіх яны прынялі прозвішчы, звычаі і беларускую мову, але захавалі сваю веру. Поруч з беларусамі, літоўцамі, украінцамі і палякамі татарскія воіны не раз баранілі нашу Бацькаўшчыну ад ворагаў.

Александровічы, Хасяневічы, Біцюткі і іншыя - гэтыя прозвішчы беларускіх татар гучаць зусім не па-татарску, што звязана з вядомай адаптацыяй мусульманскіх прозвішчаў у беларускім справаводстве і у паўсядзённым побыце, якія пачаліся яшчэ у ХУ стагоддзі.

У Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь захоўваюцца дакументы пачынаючы з ХІУ стагоддзя. Сярод іх ёсць шмат матэрыялаў, якія тычацца жыцця і дзейнасці татараў на Беларусі. Пры разглядзе намі вопісаў фонду Менскай аб"яднанай палаты крымінальнага і грамадзянскага суда мы звярнулі ўвагу на шэраг спраў, звязаных з менскімі татарамі, іх маёмасцю і інш. Фрагменты дзвюх з іх мы прапануем увазе чытачоў.

Вось справа аб продажы дваранкай Халімай Хусейнаўнай Якубоўскай пляца (участка зямлі - заўвага рэд.) у Менску жонцы калежскага асэсара Еве Аўраамаўне Багдановіч. Цікава месца, дзе знаходзіўся пляц, - каля Татарскіх могілак і Старатарасаўскай дарогі.

З купчай крэпасці ад 29 лістапада 1879 года мы даведваемся аб былых гаспадарах гэтага пляца - князях Вітгенштэйнах. Павераны князя Пятра Львовіча Вітгенштэйна надворны радца Руфін Фадзеевіч Струмілін піша, што ён прадаў "дваранцы Халіме Хусейнавай Якубоўскай па першаму шлюбу Ільясевіч уласныя зярыцеля майго князя Вітгенштэйна тры пляцы, якія знаходзяцца у Менску пры вуліцы Татарскі Канец і два другія - ворныя за горадам, каля Татарскіх могілак і Старатарасаўскай дарогі, якая пралягае з г.Менска у вёску Тарасава і мястэчка Заслаўе, якія займаюць прастору у адпаведнасці з планам, складзеным у 1840 годзе земляме-

рам Івашкевічам..."

У даверанасці ад 24 жніўня 1882 года, выданай дваранкай Халімай Хусейнаўнай, з Байрашэўскіх, Якубоўскай дваранінў Адаму Захар"евічу Ільясевічу для прадажы гэтага пляца, мы таксама бачым цікавыя звесткі:

"Шаноўны пан Адам Захар"евіч. Не маю магчымасці сама асабіста заняцца прадажай пляца, што належыць мне, размешчанага ў Менску пры Магаметанскіх Могілках плошчай адна дзесяціна, ці колькі будзе больш ці менш, што мяжуюць з аднаго боку ад Міхалінскай дарогі, з другога ад Магаметанскіх Могілак і з дзвюх старон ад дваранінa Мухлі і пляца пры Татарскай вуліцы... Упаўнаважваю Вас, шаноўны Пан, гэтыя кавалкі зямлі прадаць жонцы калежскага асэсара Еве Аўраамавай Багдановічавай, а пляц дваранiну Сулейману Сапараву Хасеневічу..."

Такім чынам, мы бачым шэраг тапанімічных назваў, якія звязаны з татарскімі мясцінамі ў Менску. Па-першае, гэта Татарскі Канец. На жаль, вуліцы з дакладна гэтай назвай у дарэвалюцыйным горадзе знайсці не ўдалося. Ёсць вуліцы Татарская, Малая і Вялікая Татарскія. Па аналогіі згадваецца старадаўняя назва гэтага раёна - Татарскі канец. Дададзім сюды тлумачэнне слова "капец" як могілкі. Але гэта толькі здагадкі, таму тапаграфічная прывязка дадзенай вуліцы патрабуе далейшага даследавання.

Пляцы, што знаходзяцца ў раёне татарскіх могілак, таксама як і тапанімічныя назвы, атаясамліваюцца больш дакладна. Сам мусульманскі мізар знаходзіўся ў раёне сучасных вуліц Ціміразева, Гвардзейскай, Тарханаўскай і Грыбаедаўскай. Былая Тарасаўская вуліца сёння не існуе, але вядома, што яна праходзіла паміж цяперашнімі Танкавай і Заслаўскай. Магчыма, Старатарасаўская дарога, што вяла ў вёску Тарасаў і мястэчка Заслаўе, злівалася з Заслаўскай вуліцай у раёне сучаснай вуліцы Ціміразева. Міхалянская дарога, што вяла ва ўрочышча Міхаленне, магчыма, з"ўляецца працягам былой Міхайлаўскай вуліцы (Камуністычная). Наогул, гэты раён раней меў назву Татарскія агароды. Завяршаючы гэту невялікую нататку, мы спадзяёмся, што дадзеныя факты будуць пачаткам далейшых даследаванняў як у галіне гісторыі татарскіх мясцін у Менску, так і канкрэтных асоб і татарскіх фамілій (родаў).

Пры напісанні дадзенай нататкі былі выкарыстаны наступныя архіўныя матэрыялы: фонд 147, вопіс 3, справа 32752; фонд 299,

вопіс 5, справа 374; фонд I477, вопіс I, справа I526; а таксама кнігі: Думін С. Канапацкі І. Беларускія татары, мінулае і сучаснасць. Мн., 1993; Шибека З., Шибека С. Минск. Страницы жизни дореволюционного города. Мн., 1990.

## ІМАМ ШАМІЛЬ І ЯЎГЕН ЛЕЦКА

Паводле "Беларускай Савецкай Энцыклапедыі" (Т.11, с. 288, 1974, Мн.) Шаміль нарадзіўся каля 1798 г. ў ауле Гімры у Дагестане, памёр у 1871 г. у арабскіх землях. Быў кіраўніком вызваленчай барацьбы горцаў Дагестана і Чэчні ад мясцовых феадалаў і каланіяльнай палітыкі рускага царызму. Дзейнічаў пад сцягам мюрыдызму. Будучы сынам каваля, выхоўваўся ў асяроддзі мусульманскага духавенства. Удзел у барацьбе за вольнасць горцаў Паўночна-Заходняга Каўказа пачаў у 20-я гады 19 ст. У 1834 г. быў абвешчаны імамам (вярхоўным правіцелем) Дагестана і Чэчні. У 1859 г., пасля шматгадовай вайны (рускім войскам камандаваў камандзір корпуса генерал А.П.Ярмолаў, пазней генерал-фельдмаршал І.Ф.Паскевіч – заўвага рэд.) Шаміль з невялікім атрадам мюрыдаў быў асаджаны царскімі войскамі ў ауле Гуніб і капітуляваў. Шаміль быў паселены ў Калузе, дзе жыў пад пільным наглядам жандармаў да 1870 г., пасля яму дазволілі выехаць у Мекку.

У гады Крымскай вайны (1853-1856) для барацьбы за вызваленне Польшчы ад рускай акупацыі польскі паэт Адам Міцкевіч арганізаваў у Італіі легіёны з добраахвотнікаў і выехаў з імі ў Турцыю, каб удзельнічаць у баях з царскімі войскамі. Эпідэмія, якая распачалася ў гэты час сярод легіянераў, звяла ў магілу Адама Міцкевіча, а заходнія краіны, дамогшыяся свайго ў вайне з Расіяй, нічога не хацелі зрабіць для вызвалення Польшчы ад акупацыйных улад Расіі, Прусіі і Аўстра-Венгрыі. Частка легіянераў Міцкевіча (сярод іх былі і татары з былога ВКЛ) дабралася на Каўказ і ў радах воінаў Шаміля змагалася з царскай арміяй. Некалькі ўдзельнікаў за незалежнасць вярнулася пазней у Польшчу, працягвалі падпольную барацьбу з царскімі ўладамі.

У 4-м томе бібліяграфічнага слоўніка "Беларускія пісьменнікі", які выйшаў у 1994 г. у выдавецтве "Беларуская Энцыклапедыя", на старонцы 36 у артыкуле пра беларускага пісьменніка І

вучонага Яўгена Лецку сказана: "Нарадзіўся ў сялянскай сям"і. Бацька, Рыгор Іванавіч, меў складаную радаслоўную. Паводле сямейнага падання, мужчыны з іх роду пасля разгрому паўстання пад кіраўніцтвам Шаміля былі перабіты, а малых дзяцей са старымі бабулямі выселілі ў Налібоцкую пушчу. Адтуль пасля паражэння паўстання пад кіраўніцтвам К.Каліноўскага, род быў перасялены на Навагрудчыну". Можна меркаваць, што прапрадзед Яўгена Лецкі быў знаёмы з Імамам Шамілём, бо Імам асабіста гутарыў з кожным дабраахвотнікам, які дапамагаў горцам у барацьбе з царскім войскам.

## ЧАМУ АНАТОЛЬ САБАЛЕЎСКІ НЕ ЗАЎВАЖЫЎ АНАТОЛЯ СЫСА?

У 1994 годзе выйшла кніга "Паўлюк Багрым" пад рэдакцыяй Анатоля Сабалеўскага. У ёй складальнікі паспрабавалі сабраць у адной кніжцы усё, што было напісана пра паэта-самавука Паўлюка Багрыма. Але чамусьці ў яе не ўключана праца Анатоля Сыса "Радзіма Паўлюка Багрыма ў мінулым" ("Полымя", № 2, 1988 г. С.180-186). Падаем яе ў скарочаным выглядзе.

"Кузня, у якой працавалі бацька і сын Багрымы, напэўна, стаяла яшчэ ў ХУ ст., як; дарэчы, вадзяны млын і корчмы, і нават "таргі" бывалі, аб чым пацвярджае ліст караля Жыгімонта П ад 18 жніўня 1521 года, які дазволіў татарыну князю Малікбашу аднавіць у маёнтку Крошын корчмы: "Жыкгимон Божю милостю корол Полский, велики княз Литовский, Руский, княжа Пруское, Жамойтский и иных.

Бил нам чолом княз Маликбаша о том, что есмо дали ему двор наш Крошыно совсем с тым как ся тот двор здавна в собе мел, на вечность и он поведал перед нами иж там у Крошыне ест торг и корчмы бывали и бил нам чолом обыхмо и тыми разы дозволили ему там у Крошыне корчмы мети, как же и посол велики брата нашого маетме Кирея царя Перекопского (цар Перакопскі Махмет Гірэй - радня князя Малікбашы - А.С.). Овлияр Мурьза о том нас за ним ждал, а поведал нам его себе братом ино мы на жедане того великого посла Овлияр Мурзы и к тому на его челобитие то вчинило, дозволили есмо ему там у Крошыне корчмы мети, нехай он там корчмы у своем торгу маеть потому як инны по торгам свои корчмы ма-

ют. Пісан у Кракове". (Акты Віленскай Камісіі, Т - XXXI. Акты пра літоускіх татарау. Вільна, 1906 г.). Гэта акт № 1 з 332 (апошні ад 3 красавіка 1784 г.), прысвечаных літоускім татарам. А менавіта крошынскім татарам прысвечана 28 актау: № 1 - 26 (апошні ад 17 верасня 1572 г.), № 35 (30 чэрвеня 1585 г.), № 145 (6 сакавіка 1595 г.).

Названыя акты, паколькі яны могуць расказаць пра радзіму Паулюка Багрыма у XVI ст., мы і разгледзім, тым больш, што яны, хоць і аддалена (маем на увазе звесткі у Актах пра крымскіх панцырных баярау) дачыняюцца да падзеяу 1828 года у Крошыне... (Да Малікбашы Крошынскі двор належау кіеускаму князю Дзмітрыю Ор"ерычу Пуцяцічу... У прывілеі караля Жыгімонта, якую далі сынам князя Малікбашы на маёнтак Крошын, запісана: "Били нам чолом татарове нашы сынове князя Маликбашыны князя Мартуза, а княз Авсеин и положыли перед нами лист наш што, есмо перво сего дали отцу их князю Маликбашы двор наш у Новогрудском повете на имя Крошыно на вечност, з людми служебными и тяглыми и челядю неволью и со всими с тым как тот двор наш воевода Киевский, небожчык князь Дмитр Путятич держал..." (№ 3 - 17 ліпеня 1523 г.).

Далей Анатоль Сыс апавядае кароткую гісторыю з"яулення татарау на землях Беларусі і робіць выснову: "Трэба зауважыць, што татары - верныя саюзнікі, мужны і нездрадлівы у сваёй масе народ. Гэта яны даказалі на справе, служачы князям Вялікага Княства Літоускага і каралям Рэчы Паспалітай. За малым выключэннем за гэта іх надзялілі землямі, рауналі у правах з князямі і шляхтаю. Такім чынам, татары мелі свае палкі і сваіх военачальнікау, і у выпадку ваенных дзеянняу кожны заможны татарын прыводзіу за сабою вершнікау (магчыма, не абавязкова татарау). Пра тое, што у крошынскіх татарскіх князёу былі свае невялічкія харугвачкі панцырных баярау, сведчаць некаторыя акты...

На заканчэнне распавяду пра радзіму Паулюка Багрыма да і пасля 1828 года. Хацелася б выказаць адну здагадку пра яго сапраўднае... Магчыма "беларускі Шаумога, а дакладней, - пра яго паходжанне. Магчыма "беларускі Шаучэнка" (Максім Гарэцкі) паходзіу з татарау. Па-першае, - у Крошыне, як мы ведаем, жыло шмат крымскіх татарау, па-другое, - кавальства было развіта асабліва сярод тых жа татарау, па-трэцяе, - у 10-20-х гадах нашага стагоддзя прозвішча паэта гучала і пісалася Бахрым. І, нарэшце, як паказвае этымалагічны слоунік бела-

рускай мовы, прозвішча Бахрым альбо Багрым магло утварыцца хутчэй за усё ад старажытнаіранскага імя Бахрам (пераможны, які праганяе злога духа Урытру), ці ад цюркізму "бахрама", крымскататарскае махрама (вэлюм для маладой), ці ад багра - пурпуровая фарба. У заходнеславянскіх мовах гэтага слова няма, і паходжанне ягонае няяснае, мовазнаўцы ж Менгес, Трубачоў стаяць за цюркскую крыніцу.

Але тое, што Паўлюк Багрым быў сваім паходжаннем з крымскіх татараў, - толькі здагадка. Наперадзе новыя пошукі, якія магчыма высвятляць ягоную постаць з далёкіх гадоў мінуласці".

Мо за гэтую здагадку Анатоль Сабалеўскі і забыўся на Анатоля Сыса.

## ТАТАРСКАЯ ВЕЧАРЫНА Ў БАРАНАВІЧАХ

**Нататкі і роздум аб вечарыне - першым мерапрыемстве, праведзеным у Баранавічах і прысвечаным татарскаму народу з нагоды 600-годдзя іх жыцця на землях Беларусі, Літвы і Польшчы.**

Мне так здаецца, што у любові палкай, шчымлівай і вечнай да сваёй Бацькаўшчыны - Беларусі шмат каму, нават з спрадвечных беларусаў, трэба павучыцца у беларускіх татараў. Ніхто з іншых народаў, не грамадзян не робяць ва ўхвалу беларушчыны, не нацыянальнага адраджэння больш, чым яны. І калі я думаю аб мудрасці беларуска-татарскага народа, то мне заўсёды прыходзіць на розум вельмі павучальная прытча пра ненавучонага багамольца, які выпіўшы куфаль гарэлкі, затым другі, блуд учыніў і дзіця забіў. Кожны мусульманін павінен ведаць, "што карчма - дом шайтанскі, а гарэлка - усім грахам галава ест".

Мабыць за цвярозасць, працавітасць і адданасць роднай зямлі заслужылі татары павагу у беларусаў. А як тут мне яшчэ не згадаць вось гэтыя словы прафесара Антона Мухлінскага (нарадзіўся на Наваградчыне) з Санкт-Пецярбурга: "У актах Літоўскай метрыкі захаваўся у перакладзе цікавы адказ літоўскіх татараў таго часу, які яны далі сваім адзінаверцам, што займаліся рабаўніцтвам на літоўскіх межах: "Ні Бог, ні Прарок, - казалі яны, - не дазваляюць вам рабаваць, а нам быць няўдзячнымі. Мы лічым вас за дра-

пежнікаў і шаблямі нашымі забіваем рабаўнікоў, а не братоў нашых. Аставайцеся за Волгаю, пакуль іншыя вас не выклічуць, бо мы ля Вакі (каля Вільні) будзем кроў праліваць за ліцвінаў, якія шануюць нас братамі сваімі". Мабыць, і таму з поўным правам вядомы беларускі паэт Яўген Гучок мог так напісаць:

Жылі татары ў Беларусі
Не год, не два: вякі жылі.
Для іх яна была ўлусам,
Яны ж ёй воямі былі.

За яе волю і здароўе
Уздымалі дзіду, булаву,
Таму й законы аб двухмоўях
Ім не ўзбрылі ў галаву.

У маім горадзе Баранавічы, дзе пасля 27 гадоў службы ў войску атрымаў жытло і жыву, адным паветрам са мною дыхае, працуе, умацоўвае свой род больш за 220 татараў. У мяне з"явілася думка правесці для іх і іх сяброў цыкл мерапрыемстваў, прысвечаных 600-годдзю пасялення на Беларусі татараў, а пачаць вырашыў з вечарыны пад назвай "Ассаляму алейкум - алейкум ассалям!" Гэту задумку дружна і горача падтрымала грамадскасць Баранавічаў, філіял-бібліятэка № І (загадчыца Алена Кім), літаратурна-музыкальная гасцёўня "Крыніца" (кіраўнік Генадзь Гапановіч).

Амаль за месяц да вечарыны на аўтобусных прыпынках і афішных тумбах былі змешчаны абвесткі, у якіх запрашаліся мясцовыя жыхары, іх сябры на вечарыну, у праграме якой гутаркі па гісторыі, культуры і літаратуры беларускіх татараў, музыка і вакал мясцовых аматараў, выступленні паэтаў, выстава літаратуры і агляд яе, віктарына, сустрэча з цікавымі людзьмі.

Трэба адразу адзначыць, што вялікую работу ў гэтым напрамку правялі працаўніцы філіяла-бібліятэкі № І - Алена Кім, Ларыса Еўтушэнка, Алена Чыкала, Галіна Мерацкіе, Людміла Крауз. Яны арганізавалі кніжную выставу, пісалі запрашэнні, шукалі адрасы татараў, складалі пытанні для віктарыны, стваралі эскізы афармлення чытальнай залы, шукалі і знаходзілі неабходную мэблю для прыёму ўдзельнікаў вечарыны.

Са свайго боку парупіліся і літаратурна-музычная гасцёўня "Крыніца", яе кіраўнік і члены Генадзь Гапановіч, Браніслава Лапкоўская, Аляксандр Дрозд і іншыя: яны натхнёна падбіралі музыку, песні і вершы.

І канешне, свята атрымалася, стала падзеяй у культурным жыцці горада. Чытальная зала глядзелася казачнай святліцай, яна была аздоблена з вялікаю любоўю. Выстава кніг, часопісаў, газет-

чуў у Клецку, адкуль ён родам. Памятаю, як кляччане з вялікай павагай гаварылі аб ім. Гэта асабліва я адчуў у бяседзе з мясцовымі краязнаўцамі і аўтарамі кнігі "Клецк" Д.Чорным, які шмат сваіх старонак прысвяціў жыццю і побыту татараў на Беларусі.

Ісмаіл Варановіч прыняў на сябе і абавязкі па стварэнні мясцовай абшчыны татараў-мусульман. Быў прыняты статут, абрана рада (Алей Ждановіч, Равіль Галееў, Мінхабір Саліхаў), рэвізійная камісія (Мацей Байрашэўскі, Тамара Туган-Бараноўская, Рагана Садыкава).

Якуб Якубоўскі, які доўга працаваў у выдавецтве "Беларуская Энцыклапедыя", пазнаёміўся з кніжным фондам бібліятэкі, гутарыў з некаторымі чытачамі. Ён адзначыў, што камплектацыя бібліятэкі зроблена вельмі прафесійна. Тут ёсць у дастатковай колькасці класіка і навінкі мастацкай літаратуры, навуковая літаратура, якая можа задаволіць чалавека з вышэйшай адукацыяй. У чытальнай зале вельмі ўтульна, супрацоўніцы бібліятэкі вельмі ветлівыя. Вось чаму сюды ахвотна прыходзяць студэнты педагагічнага каледжа. І працуюць юнакі і дзяўчаты з вялізнымі універсітэцкімі падручнікамі, якія вельмі неахвотна чытаюць нават студэнты ВНУ.

Багаты кнігазбор выданняў па татарскай тэматыцы. І яны не ляжаць без попыту. Баранавіцкія "лоцманы ў кніжным моры", як называюць бібліятэчных работнікаў, карыстаюцца ў чытачоў горада любоўю і павагай. "Дзякуй вам ад татараў, добрыя нашы лоцманы!" - сказаў Я.Якубоўскі, развітваючыся пасля незабыўнай вечарыны ў бібліятэцы ў Баранавічах.

---

Гэта цікава

Б а р а н о ў с к і я . Спольшчаная форма ад Баран. З беларуска-літоўскіх татараў. Палкоўнік Мустафа Бараноўскі ў 1794 годзе быў адным з апошніх абаронцаў Прагі Варшаўскай ( П.Бараўскі, А.Дубіньскі. Польскія татары. Гісторыя, абрады, легенды, традыцыі. Варшава, 1986 ). Вядомы з гэтага роду вучоныя, вынаходнікі ( Энцыклапедычны слоўнік, М., 1987 ).

# НІЎСКІ СЛЕДАПЫТ

Інтэрв"ю з МАЦЕЕМ КАНАПАЦКІМ - колішнім журналістам "Нівы"

"Ніва": - Раскажыце, калі ласка, як гэта сталася, што вы, віленскі татарын, апынуліся ў пэўны момант у цэнтры беларускага руху ў Польшчы?

Мацей Канапацкі: - Мая нейкая цяга да беларускасці мае свае крыніцы яшчэ ў дзяцінстве і юнацтве, якія прайшлі ў Вільні. Мой бацька, Хасан Канапацкі, быў цесна звязаны з беларускім адраджэнскім рухам у міжваенны перыяд. Гэтае між іншым пакінула у маім светапоглядзе свой прыкметны адбітак. Потым у палове пяцідзесятых, ужо на IУ курсе рускай філалогіі Варшаўскага універсітэта узнік гурток аматараў беларускага слова. Прыехала да нас аж з Казані прафесар, якая стала чытаць лекцыі па беларускай мове і літаратуры. Групка студэнцкай моладзі з Беласточчыны і я - былы віленчук - уключыліся ў гэты гурток і сталі слухаць лекцыі. Мая дыпломная праца была першай у гісторыі факультэта па беларускай тэматыцы. Праф. Антаніна Абрэмбска-Яблонская і Мар"ян Якубец прапанавалі мне ўзяць тэмай працы творчасць Янкі Купалы.

Мы тады чыталі ўжо "Ніву", якая толькі што пачала выходзіць. Я стаў дзейнічаць у аддзеле БГКТ у Варшаве. Аднойчы запрапанаваў я рэдактару Георгію Валкавыцкаму, што мог бы нешта даслаць з маіх распрацовак па пошуках у розных архівах і бібліятэках. Неўзабаве прыйшло запрашэнне да супрацоўніцтва і я тады выслаў артыкул "Янка Купала як перакладчык вершаў Уладыслава Сыракомлі", які і быў у 1956 годзе надрукаваны. Памятую, што тады я быў у Саколцы і купіў адразу 30 экземпляраў "Нівы", бо упершыню друкавалася нешта маё. Для мяне гэта была вельмі хвалюючая падзея.

- Георгій Валкавыцкі ў саіх нататках рэдактара "Віры" называе вас "наш неперадузыйдзены следапыт". Рассакрэцьце нашым чытачам, што лягло ў аснову замацавання за вамі такога звання?

- Займаўся я, як і ўсе журналісты "Нівы", адлюстроўваннем жыцця беларусаў Беласточчыны. Аднак пасля двух гадоў працы заняўся я крыху іншай тэматыкай. Мяне пачалі цікавіць адносіны паміж польскай і беларускай літаратурамі XIX і XX стагоддзяў. І вось пачаліся пошукі. Здараліся мне каштоўныя знаходкі ў бібліятэках, архівах, у прыватных калекцыях. Я аб"ездзіў самыя значныя месцы, дзе захоўваюцца беларусіяна, займаўся нашаніўскай парою,

вывучаў тэматыку, якая тады ў Беларусі была забаронена або замоўчвалася. Беларускія вучоныя таго часу - Абэцэдарскі, Сідарэнка - да маіх артыкулаў ставіліся непрыхільна. Шчыра кажучы, галоўны рэдактар Георгій Валкавыцкі меў шмат клопатаў з-за гэтага, бараніў мяне, бо былі назат націскі, каб мяне звольніць з "Нівы". Гэтую тэматыку працягваў я працуючы два гады ў Беластоцкім радыё, дзе рэдагаваў беларускія перадачы (у 1958 - 1959 гадах). Пасля зноў я вярнуўся ў "Ніву" і працаваў у ёй да 1964 года.

Я не толькі знаёміўся з архіўнымі матэрыяламі, але таксама з цікавымі людзьмі: з унучкамі Францішка Багушэвіча, Янінай Гурыновіч з Торуня, з польскімі пісьменнікамі, якія кранаЛі беларускую тэматыку: з Гылусам Карповічам, з Яўгенам Квяткоўскім, з гданьскім празаікам Збігневам Жакевічам, з Яўгенам Кабатцам. Я праводзіў з імі інтэрв"ю і абнародваў тыя матэрыялы, якія дагэтуль не вывучаліся ў нас.

З цягам часу наладзіўся кантакт з польскімі вучонымі: з Чэславам Янкоўскім - даследчыкам творчасці Э.Ажэшка, з праф. Тадэушам Грабоўскім - вядомым кракаўскім славістам, з музыказнаўцамі - Вітальдам Рудзінскім, спецыялістам па творчасці Станіслава Манюшкі, Станіславам Казурам - аўтарам паліфанічных музычных твораў.

Я вельмі цешыўся, калі ў Менску паявіліся першыя водгукі ў "Літаратуры і мастацтве". Вялікай узнагародай для мяне было таксама выказванне праф. Адама Мальдзіса, які студэнтам філфака БДУ рэкамендаваў чытаць мае артыкулы.

- Са сказанага вамі вынікае, што адны менскія вучоныя клеймавалі вашыя навуковыя здабыткі, іншыя - рэкамендавалі іх сваім студэнтам. Як склаліся вашыя адносіны з менскімі літаратуразнаўцамі, пісьменнікамі?

- Тады літаратары запрашалі мяне ў Менск, але тагачасны міністр унутраных спраў БССР сказаў так: "Мы Конопацкого никогда не впустим в Белоруссию". Прычынай гэтаму былі мае артыкулы пра "Нашу ніву", а таксама вайсковая і патрыятычная дзейнасць майго бацькі.

Я так і не быў у Менску ў тыя часы, хаця прафесар Сцяпан Александровіч прапанаваў мне пісаць у яго кандыдацкую дысертацыю. Дагэтуль захавалася ў мяне багатая перапіска з гэтым вучоным.

Я упершыню быў у Менску зусім нядаўна на I Кангрэсе белару-

саў свету. Там адшукаў сваякоў, наладзіў кантакты з татарамі ў Беларусі.

Маё сэрца падзелена паміж Беларуссю, Літвой і Польшчай. Татарская нацыя жыве ў традыцыях гэтых краін. Аднак большасць пісьмовай спадчыны нашых татараў створана на беларускай мове і гэта мяне ўгрунтоўвае ў беларускай стыхіі, якой я стараюся быць верным. Блізкая мне і літоўская традыцыя. Маці выхоўвалася пад Коўнам. Я захаваў і літоўскую мову.

- Што вам найбольш запамяталася з перыяду працы ў "Ніве"?

- У "Ніве" пачаў я працаваць у 1957 годзе, пакінуўшы ПАП. Тады працавалі ўжо Сакрат Яновіч, Юзэф Рыбінскі, Аляксандр Амільяновіч, паявілася Яніна Чэрнякевіч, якая рэдагавала "Зорку", Вера Леўчук, Віктар Рудчык. Сабралася нас жменька энергічных, адданых справе сяброў. Мы пачыналі нейкі нацыянальны рух. Здавалася нам, што Беласточчына збяднела ў сэнсе беларускім, аднак аказалася, што дзякуючы "Ніве" выявілася шмат талентаў.

Наш калектыў быў разнастайны. Вышэйшую адукацыю і літаратурную падрыхтоўку меў толькі Георгій Валкавыцкі. Большасць журналістаў - гэта былі людзі вёскі, якія толькі што закончылі сярэднюю адукацыю. Некаторыя раней пачалі дасылаць у "Ніву" свае допісы, напрыклад Янка Целушэцкі. Я з вялікай радасцю наглядаў, як недзе з-пад Кленік ці з-пад Гайнаўкі прыходзілі кволыя, нясмелыя хлапчукі і дзяўчаты, як імі галоўны рэдактар апекаваўся, памагаў ім развіваць здольнасці.

Я таксама павінен быў наведваць вёскі, драмгурткі, сачыць за дзейнасцю БГКТ. Працы было шмат, была яна вельмі цікавай. Дзякуючы "Ніве", я наогул увайшоў у журналістыку, пачаў таксама пісаць на польскай мове, даваць фельетоны ў Польскае радыё.

- Пакінуўшы Беласток і "Ніву", вы, аднак, не парвалі сувязей з беларускім асяроддзем.

- Працаваў я потым у гданьскай суднаверфі, знаёміўся з суднабудаўніцтвам. Тады пастаянна сувязь з "Нівай" спынілася. Аднак часам пісаў у "Ніву", тужыў па ёй. У Гданьску я ўключыўся ў дзейнасць аддзела БГКТ. Пасля тры гады працаваў я ў Саколцы, дзе заснаваў у тамашнім музеі татарскі аддзел. Пасля вярнуўся ў Гданьск і стварыў універсітэт "трэцяга ўзросту". Цяпер я зноў звязаўся з Беларускай хаткай, стаў часцей пісаць у "Ніву", апошнім часам пра беларусаў Вільні і Віленскую гімназію.

– Чым розніцца колішняя "Ніва" ад сённяшняй? Чаго б вы пажадалі цяперашняму рэдакцыйнаму калектыву?

– Мне здаецца, што колішняя "Ніва" была бліжэй вёскі. Яна адлюстроўвала нетры вясковага жыцця, працу сельскагаспадарчых гурткоў, пісала пра дзеячаў беларускага руху. Добра, што паявілася беларуская інтэлігенцыя, што "Ніва" з цягам часу стала больш элітаркай.

Цяпер менш матэрыялаў з вёскі, але і сама вёска змянілася. Я памятаю, як некалі наш галоўны наракаў, што мала ёсць матэрыялаў з вёскі. Тады вёска была мнагалюднай, з актыўнай моладдзю.

З выпадку двухтысячнага нумара жадаю каб "Ніва" і ў далейшым развівалася, каб як мага лепш і глыбей адлюстроўвала жыццё беларусаў на Беласточчыне. Жадаю таксама, каб як мага больш было ў ёй канструктыўнага матэрыялу, які яднае людзей і народы, а не раздзяляе іх.

Гутарыла
Лена Глагоўская

"Ніва" (Беласток) № 39 ад 25 верасня 1994 г.

## У РЭДАКЦЫЮ "БАЙРАМА" ПІШУЦЬ

Дзень добры, пан Якубоўскі!

Я даўно нелегальна атрымліваю ваш "Байрам". Кожны нумар з радасцю чытаю"ад коркі да коркі". Уважліва сачу за падзеямі ў татар Беларусі. Радуюся вашымі дасягненнямі. Часта бываю ў Іўі, Навагрудку. Пабываў у Ластаі, Сандыкаўшчызне, Слоніме, Ардзе, Іванаве, Асмолаве, Клецку. Нічога не ведаў аб падзеях, што адбываліся ў гэтым годзе ў Слоніме. Абавязкова прыехаў бы. Я хачу пастаянна супрацоўнічаць з "Байрамам". Буду пастаянна дасылаць нататкі аб жыцці татар у Літве. Зараз дасылаю вам некалькі апошніх паведамленняў.

Матэюс Абунявічус. Літва, Алітус, вул.Шаруна 2, кв. I, тэл. 2-40-57.

P.S. У студзені,калі Бог дасць,вышлю Вам сваю газету "Татары Літвы".

## ВЕСТКІ З ЛІТВЫ

10 снежня 1994 года ў вёсцы Райжай адбыўся справаздачны сход Алітускага аддзялення Таварыства культуры літоўскіх татар. Рашэннем сходу аддзяленне перайменавана ў абшчыну. Выбраны новы састаў праўлення абшчыны. Абмеркаваны і іншыя пытанні: вынікі нарады літоўскіх татар 25-26 лістапада 1994 г., пытанні адукацыі, арганізацыя друкаванага органа ды інш.

* *
*

З пачатку ліпеня 1994 г. на кватэры Матэкса Абунявічуса ў г.Алітусе працуе школа па вывучэнню арабскай і турэцкай моваў. Вядзе заняткі настаўнік з Турцыі Іхсан Дылекчы. У верасні такая ж школа адкрылася ў мястэчку Бутрымоніс.

## ДА 50-ГОДДЗЯ ПЕРАМОГІ Ў ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЕ

Шаноўная рэдакцыя квартальніка "Байрам"!

Нядаўна Рэспубліка Беларусь адзначыла 50-годдзе вызвалення краіны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Паўсюдна праводзіліся сустрэчы з ветэранамі Вялікай Айчыннай вайны, на якіх госці - удзельнікі вайны - дзяліліся успамінамі, прыводзілі розныя прыклады стойкасці, мужнасці, праяўленыя імі і іх сваякамі ў тылу ворага. На адной з такіх сустрэч давялося пабываць і мне. Слухаючы гасцей, я ізноў вярталася ў памятныя падзеі тых ваенных гадоў. Многае, вельмі многае успаміналася. Захацелася мне расказаць аб адным выпадку з жыцця маёй сям"і. Гэта хутчэй ча́совы адрэзак даўжынёй у год, а выпадак адбыўся на працягу гэтага часу. Для пачатку і лепшага разумення таго, аб чым пойдзе гаворка некалькі кароткіх біяграфічных звестак пра сябе і сям"ю.

Я нарадзілася 24 снежня 1926 года ў сям"і служачага. Бацька - Канапацкі Сулейман Асанавіч, 1894 года нараджэння, атрымаў вышэйшую адукацыю ў Пецярбурзе, працаваў бухгалтарам у сістэме сувязі, памёр у 1935 годзе, калі мне было ўсяго 9 гадоў. Маці - Канапацкая Фаціма Мустафаўна (дзявочае прозвішча Мухля) нарадзілася ў 1891 годзе ў шматдзетнай, але вельмі багатай сям"і. Бацька-

кі маёй маці валодалі гарбарнай фабрыкай, але справамі апошняй не займаліся. Дзед - Мухля Мустафа Якаўлевіч - па выразу бабулі "служыў па чыгуначнаму ведамству". Бабуля - Мухля Фурша Мацвееўна, 1857 года нараджэння, займалася домам і дзяцьмі. Жылі яны ва ўласным дзьвухпавярховым доме на Вялікай Татарскай вуліцы, супраць мячэці (дом быў спалены ў час Вялікай Айчыннай вайны). За домам быў вялікі флігель, які яны, як і фабрыку здавалі ў арэнду яўрэям. Людзі ў той час не скакалі з месца на месца, а жылі грунтоўна, стабільна гадамі і дзесяцігоддзямі, на адным і тым жа месцы, мелі зносіны паміж сабой, нягледзячы на класавыя і рэлігійныя адрозненні. Складаліся трывалыя адносіны паміж уладальнікамі і арэндатарамі і іх дзецьмі. Дзеці тых і іншых сталі жыць сем'ямі і працягвалі мець зносіны паміж сабой. Пасля рэвалюцыі 1917 года мае дзядуля і бабуля працягвалі жыць у тым жа, зараз ужо нацыяналізаваным доме, дзе ім выдзялілі адзін пакой (я памятаю гэту "камуналку"). Дзядуля памёр у 1925 годзе. Бабуля ў хуткім часе перабралася да нас і жыла разам з намі да апошняга дня свайго жыцця восенню 1941 года. Зараз падыходжу да галоўнага. Чым сталі гады акупацыі для яўрэяў - агульнавядома. Мая маці чым магла дапамагала ім, перапраўляла ў гета прадукты, якія дабывала ў заходніх абласцях рэспублікі шляхам абмена розных рэчаў.

Тады і звярнулася да маці яе даўняя знаёмая Фрума Давідсон з просьбай схаваць яе мужа. Яны і так прыбягалі і хаваліся ў нас у час пагромаў на некалькі дзён усёй сям"ёй (5 чал.). У чэрвені месяцы 1942 г. муж Фрумы Ісраэл Давідсон пасяліўся ў нас надоўга. У хляву ён выкапаў яму-нару, замаскіраваў яе кучай дроў і пражыў там цэлы год. Немцы лютавалі бязмерна, праводзілі аблаву за аблавай. У адну з такіх аблаў трапіла і наша вуліца. Да нас прыйшлі з праверкай , нічога не знайшлі і пайшлі. Тайнік, у якім хаваўся Давідсон, не знайшлі, таму што дровы не чапалі. Толькі мы з маці ўздыхнулі з палёгкай, як прыйшлі другія, ужо эсэсаўцы. Салдаты пачалі правяраць хлеў, а афіцэр зайшоў у дом, дзе яго ўвагу прываблі́ў комін. Устаўшы на табурэт, ён палез рукой у адтуліну коміна. Справа гэта не вельмі чыстая і ён рабіў яе з вялікім незадавальненнем. На шчасце я здагадалася сказаць яму, што ў нас ужо была адна праверка. Ён, як мне падалося, узрадаваўся, саскочыў з табурэта, выйшаў, паклікаў

сваіх салдат (а яны ужо пачалі разбіраць дровы) і павёў іх. Не трэба мець вялікага уяўлення, каб уявіць, што чакала нас, ды і усю Татарскую вуліцу, знайдзі яны Давідсона. Роўна год прасядзеў ён у сваёй нары, выходзячы ноччу падыхаць, ды яшчэ ў зіму глыбокай ноччу мы пускалі яго ў дом на некалькі гадзін, каб ён не замёрз. Бацька Фрумы Давідсон - Меір у пачатку вайны купіў пашпарт татарына, які памёр. Меір быў бландзінам, не падобным на яўрэя і таму мог на сваім кані пераязджаць з месца на месца. Жыў ён у Заходняй Беларусі і прывозіў адтуль прадукты сваім сваякам у Мінск. Часта спыняўся ў нас. Але суседка Гэлька, у якой не было дзяцей, пачала казаць усім: "Што Фата жыдоў хавае". Асцерагаючыся, што гэта можа дайсці да немцаў, мы забаранілі Меіру прыязджаць да нас (пасля вайны ён сватаўся да маёй маці, але я, адзінае дзіця ў сям"і, была вялікім эгаістам і нягледзячы на тое, што мая маці была вельмі прыгожай жанчынай, была супраць яе шлюбу з кім бы то ні было). Дзеці Давідсонаў - Рахіль, Міра, Вова часта ўцякалі з гета і прыходзілі да нас. Маці чым магла дапамагала ім. Жылі мы бедна, цярпелі тыя ж цяжкасці вайны, што і астатняе насельніцтва Мінска. Лягчэй стала пасля таго, як мы прадалі швейную машыну і купілі карову (маці пазней жартавала, што вайна з"ела усё прыданае маёй дачкі). У чэрвені 1943 года Давідсоны усёй сям"ёй пайшлі ў партызаны. Усе засталіся жывыя, а пасля вызвалення Мінску ў 1944 годзе вярнуліся ў горад, жылі па Канатнаму завулку. Вось такі выпадак, эпізод калі хочаце, адбыўся з намі ў час вайны. Ратуючы гэтых людзей, мы не думалі аб магчымых выніках для сябе. Проста не дапамагчы ім мы не маглі.

Старэйшая дачка Давідсонаў Рахіль выйшла замуж у 50-х гадах за яўрэя з Заходняй Беларусі. Мы з маці былі на іх вяселлі. Потым яны з"ехалі ў Польшчу, а адтуль у Ізраіль. Разам з імі з"ехала і уся астатняя сям"я Давідсонаў. Доўгі час мы перапісваліся, яны высылалі здымкі, якія захоўваюцца у нашай сям"і і зараз. Аднак з пачаткам араба-ізраільскага канфлікту ў чэрвені 1967 года перапіска перапынілася. Згубіўся адрас і далейшы лёс гэтай сям"і мне не вядомы.

Айша Трафімава (у дзявоцтве Айша Канапацкая)

ТОЕ, ШТО ПОМНІЦЦА

Мінск - гэта горад майго дзяцінства, юнацтва, усяго майго жыцця - горад, дзе нарадзіліся мае бацькі і іх бацькі і усе яны пахаваны на мінскім мізары. Бабуля Палтаржыцкая Рузя і дзед Палтаржыцкі Браніслаў займаліся агародніцтвам, абодва памёрлі ў 1936 годзе. Бацька - Якубоўскі Якаў, працаваў на гарбарным заводзе "Бальшавік", памёр у сакавіку 1940 года. Маці - Якубоўская Фурша, працавала на фабрыцы цацак. Спачатку рабочай, потым майстрам, потым яе паслалі вучыцца ў Маскву для павышэння кваліфікацыі, калі яна вярнулася яе назначылі кіраўніком цэха лялак і мяккіх цацак. Маці у мяне была вельмі валявая, энергічная, была кандыдатам партыі, была удзельніцай усялякіх пасяджэнняў, з"ездаў, толькі вельмі мала яна пажыла, у лістападзе 1940 года ва ўзросце 33 гадоў яна памёрла ад сухот і я засталася адна. Апякуном стаў дзядзька, брат маці - Александровіч Асан. 24 чэрвеня 1941 года ён пайшоў на фронт і загінуў без вестак. Я вельмі люблю Мінск, да 1972 года я жыла на Саўгаснай вуліцы у доме нумар 11 (зараз праспект Машэрава). На месцы нашага дома знаходзіцца гасцініца "Планета" (зялёная зона). Побач знаходзіліся вуліцы Калгасная, Татарская, за імі былі славутыя татарскія агароды. Мне здаецца яны карміді агароднінай амаль палову горада. Тут жа, на татарскай вуліцы, дзе зараз гасцініца "Юбілейная", была мячэць. У нашым раёне жыла большасць татараў. На іншых вуліцах я не памятаю адрасоў і прозвішчаў, а вось на сваёй тое-сёе помніцца.

Дом № 4 - сям"я Лебедзь, бацька служыў палкоўнікам у царскім войску. У іх было тры дачкі, дзве з іх выйшлі замуж за братоў Канапацкіх. Дом № 6 - сям"я Біцютка і Развановіч. Біцютка быў таксама палкоўнікам царскага войска. Дом № 8 - сям"я Шункевічаў. Дом № 10 - Палтаржыцкая-Нікалайчык. Дом № 11 - сям"я Якубоўскіх. Дом № 13 - сям"я Александровічаў. Дом № 14 - сям"я Канарскіх. Дом № 37 - сям"я Гембіцкіх. Былі яшчэ і іншыя, але я не памятаю нумароў дамоў і прозвішчы. Таксама на нашай вуліцы было шмат яўрэйскіх сямей і жылі мы вельмі дружна. Але усё гэта было да вайны. Калі пачалася вайна яўрэяў перасялілі ў гета. Гета было недалёка ад нашай вуліцы, ноччу чуліся аўтаматныя чэргі - гэта значыць пагром.

Часам каму-небудзь удавалася пералезці праз дрот (пад страхам смерці, безумоўна), але есці хацелася, мы чым маглі дзяліліся. Хто змог пайшоў у партызаны, але на жаль вельмі шмат загінула. У мяне самой хавалася жанчына з дзяўчынкай з зімы 1941-42 г. па восень 1942 года. Бацька маёй аднакласніцы Яніны Дрозд, Мікалай Пракопавіч Дрозд быў падпольшчыкам - гэта ён папрасіў мяне схаваць гэтую жанчыну. У яе былі дакументы, што яна руская. "Мы яе прапішам, - казаў мне Мікалай Пракопавіч, - а калі хто будзе пытаць адказвай, што яна Алена Антонаўна, а дзяўчынка Шура, прапісана ў гарадской управе і адкуль мне ведаць, што яна і хто яна". Потым у Мікалая Пракопавіча з"явілася магчымасць і ён пераправіў яе ў атрад. Хочацца паведаць трошкі аб Мікалаю Пракопавічу, які ён быў цудоўны чалавек і добры і храбры. Жыла сям"я Мікалая Пракопавіча Дразда на Заслаўскай вуліцы. У яго была жонка Алена Адамаўна - па нацыянальнасці полька, дзве дачкі. Старэйшая Рэгіна, малодшая Яня. Два сыны, дакладна дзе яны былі да вайны я не ведаю, ведаю толькі тое, што адзін сын Лявон пасля вайны працаваў у педагагічным інстытуце выкладчыкам. Паколькі Мікалай Пракопавіч быў падпольшчыкам, у іх дома была явачная кватэра. Да іх прыязджалі партызаны, пад выглядам сялян і прывозілі муку, мяса і нават самагон, што-небудзь прадавалі, каб набыць махорку, запалкі і г.д. Я часта бывала ў іх дома. Яны мяне падкармлівалі, і душой я ў іх адыходзіла. Часам, разам з Яняй мы хадзілі на базар за махоркай і запалкамі. Мікалая Пракопавіча, Алену Адамаўну і іх дачку Рэгіну арыштавалі немцы ў дзень забойства гаўляйтара Кубэ, і ўсе яны загінулі. Яго прозвішчам названа адна з вуліц Мінска (былы Канатны завулак).

Кіравала гэтай аперацыяй Марыя Барысаўна Восіпава (забойства Кубэ). Яня Дрозд была сувязной паміж А.Мазанік і М.Восіпавай. У той дзень, калі Мазанік падлажыла міну, яе сустрэла Яня, дачка Мікалая Пракопавіча і правяла за горад, дзе іх чакала Марыя Барысаўна і яны разам пайшлі ў атрад. Калі ў атрад прыйшла вестка, што дзядзька Мікалай, цётка Алена і Рэня арыштаваны, Яню перакінулі ў Маскву. Аб смерці бацькоў яна даведалася пасля вызвалення Мінска, усё гэта яна расказала мне, калі вярнулася ў Мінск.

Я сама была сувязной партызанскага атрада "За Радзіму" імя М.Фрунзэ. Кіравала нашай падпольнай групай Духоўнікава Р.П.,

якая жыла побач са мной і якая жыва і зараз, ёй ужо 85 гадоў. Вось яна і прыцягнула мяне ў лістападзе 1942 года ў сваю групу. Мы дабывалі і пераправілялі партызанам зброю, медыкаменты. У маі 1943 года арганізавалі уцёкі 20 ваеннапалонных і пераправілі іх у атрад "За Радзіму". З атрада мы атрымлівалі лістоўкі, а потым іх распаўсюджвалі. Усяго, што было пераажыта, расказаць цяжка. Ды вось са мной неяк адбыўся такі выпадак. Прыйшла неяк з атрада Ткачэнка М.Л. (зараз нябожчыца) і пайшлі мы з ёй за медыкаментамі ў інфекцыйную бальніцу, забралі іх і пайшлі на Старажоўскі рынак (за махоркай і запалкамі для партызан). Пакінула яна мяне з медыкаментамі стаяць, а сама пайшла за пакупкамі. Стаю, трымаю мяшок з медыкаментамі на снезе (зіма была), чакаю М.Л.Ткачэнку. Пацыходзяць два паліцаі. "Чым гандлюеш", - пытаюць? "Нічым, - адказваю. - Вось, лупіны купіла (бульбяныя ачысткі)". Мы іх варылі, таўклі і праснакі пяклі. Было мне трошкі больш за 15 гадоў, маленькая, хударлявая, паліцэчка старэнькае, я з яго даўно вырасла, буркі з чунямі самаробныя. Наогул, паверылі яны мне. Хопіць аб сумным. 3 ліпеня 1944 года часоў гэтак у 11 раніцы на нашай вуліцы з"явіліся першыя танкі. Танкі былі усе у кветках. Столькі было радасці, слёз, адбымкаў. Я сама, так, як у той дзень і дзень 9 мая 1945 г. ніколі не была шчаслівая. Адразу пасля вызвалення Мінска пайшла на курсы тэлефаністак на міжгародную станцыю, дзе працавала больш за 30 гадоў. У 1948 годзе выйшла замуж, нарадзіла двух дзяцей - дачку Аляксандру ў 1950 годзе і сына Канстанціна ў 1952 годзе.

Яшчэ мне хочацца сказаць вялікае дзякуй ад імя усіх беларускіх татараў-мусульман, такім высакародным людзям як: Канапацкі І.Б. Шабановіч А.Б. і многім іншым, якія вельмі шмат зрабілі і робяць для паспяховай работы згуртавання "Аль-Кітаб". Таксама хачу сказаць дзякуй нашым братам арабам, якія вучаць нас у нядзельнай школе (пры згуртаванні "Аль-Кітаб") арабскай мове, знаёмяць нас са звычаямі, абрадамі мусульман, з нашымі свяшчэннымі кнігамі Кур"анам і Суннай.

Т.Я.Нікалайчык
(у дзявоцтве Таіса Якубоўская)

АДКРЫТЫ ЛІСТ

Прэзідэнту Беларускага згуртавання татарау-мусульман "Аль-Кітаб"

Шаноуны спадар Прэзідэнт! Напрыканцы 1994 г. у Гданьскай мячэці Імам Бэкір Якубоускі паінфармавау мусульман аб тым, як прахо-дзіла і што абмяркоувалася на канферэнцыі татарау Літвы, Беларусі і Польшчы у Алітусе. Мне вельмі непрыемна уразіла тое, што прапанова сумеснага сьвяткавання 600-годдзя пасялення татарау і караімау на землях Вялікага Княства Літоускага, распачатага пры Вітауце Вялікім, не знайшла адзінадушнай падтрымкі. Відаць, што большасць сучасных дзеячау татарскага народа у трох дзяржавах вельмі слаба, ці нават зусім не ведаюць сваёй гісторыі. Татары з Савецкай Беларусі да 1939 г. не маглі нічога прачытаць пра сваё паходжанне, пра сваю веру. Яны не былі знаёмымі з караімамі, бо тады караімы у БССР не жылі. Татары Літвы таксама мала што маглі ведаць, бо караімы пражывалі у Троках і у Вільні, а гэтыя мясціны былі у межах Польшчы.

Мае бацькі заусёды з павагаю ставіліся да караімау, як і да іншых грамадзянау Польшчы. Я асабіста ведау караімау і іх навукоуцау. Вядомыя вучоныя-караімы Г.С.Шапшал і А.Зайончкоускі, вывучаючы гісторыю свайго народа, даследавалі і гісторыю роднаснага ім цюркскага татарскага народа. Іх працы па гісторыі татар, надрукаваныя да вайны у татарскіх выданнях у Польшчы, не страцілі сваю вартасць і сёння. Нельга уявіць сабе гісторыка-татарына, які б не ведау даследаванні пра татарау, зробленыя выдатным спецыялістам-караімам Аляксандрам Дубіньскім, іншымі даследчыкамі-караімамі.

Тое, што цюркскія народы, якія жывуць у суседстве і маюць шмат агульнага у сваёй гісторыі на землях Вялікага Княства Літоускага, хоць і вызначаюць розныя рэлігіі, не можа быць прычынай нейкай варажнечы паміж намі. А да чаго прыводзіць варажнеча паміж народамі у былой Югаславіі, паміж славянамі-праваслаунымі і славянамі-мусульманамі у Босніі і Герцагавіне, бачыць кожны.

Мы павінны рашуча сказаць тым, хто не ведае і не хоча ведаць гісторыю татарскага народа на гэтых землях, што трэба вучыцца, трэба адкінуць сваю фанабэрыю і прыйсці да розуму. Варажнечы паміж татарамі і краімамі не было і быць не можа.

Муса-Мацей Канапацкі,
вул.Сыракомлі 5 - 5,
81-742. Сопат. Польшча.

## АДКРЫТЫ ЛІСТ ДА ПЕДАГАГІЧНАГА КАЛЕКТЫВА І НАВУЧЭНЦАЎ СЯРЭДНЯЙ ШКОЛЫ № 65 ІМЯ ГЕРОЯ САВЕЦКАГА САЮЗА Б.С.АКРЭСЦІНА

Беларускае згуртаванне татараў-мусульман "Аль-Кітаб" і Мусульманскае рэлігійнае аб"яднанне Рэспублікі Беларусь разам з педагагічным калектывам, сённяшнімі вучнямі і былымі выпускнікамі школы прымаюць удзел у вялікай урачыстасці - прыходу да самастойнага жыцця другога пакалення людзей - дзяцей першых выпускнікоў школы.

У Старажытнай Грэцыі, у Афінах вартасць чалавека вызначалася тым, якімі ён выгадаваў сваіх дзяцей, якімі грамадзянамі яны сталі для свайго горада.

Мы, члены Згуртавання "Аль-Кітаб" бліжэй пазнаёміліся з вашай школай пяць гадоў таму. Але пра добрую славу вашай школы, высокую як стэла на пляцоўцы перад вашым будынкам, як высокае неба, якое было ў Барыса Сямёнавіча Акрэсціна, імя якое з годнасцю нясе ваша школа, мы ведаем даўно, бо тут вучыліся нашы дзеці і унукі.

Мы ведаем настаўнікаў, якія працавалі і працуюць у гэтай школе. Тут яны прайшлі шліфоўку, агранку і паліроўку і як сапраўдныя алмазы ператварыліся ў брыльянты і зіхацяць у сузор"і найлепшых педагогаў Рэспублікі.

Ваша школа праславілася выдатнай падрыхтоўкай вучняў у веданні замежных моў, у агульнай фізічнай падрыхтоўцы, ва уменні выраблядь цудоўныя прадметы мастацтва.

Звычайна ў дні юбілеяў называюць імёны славутых выпускнікоў, колькасць атрыманых школай залатых і срэбных медалёў, дыпломаў на конкурсах і алімпіядах. Усё гэта у вас ёсць. Але найважнейшым паказчыкам работы школы трэба лічыць гімназічнае выхаванне дзяцей, іх далікатнасць, якая так патрэбна чалавеку і ужо на ўсё жыццё. Ваша школа выхавала дзяцей добрымі грамадзянамі, якія ні ў час вучобы, ні пасля не рабілі сур"ёзных правапарушэнняў, а невялікія нават праступкі асуджаліся ў самым пачатку у сваіх калектывах.

Спрыяльны мікраклімат у вашай школе дае магчымасць і нам у выхадныя дні збірацца тут на свае заняткі. Невядома як, але мы усе адчуваем тут жыватворную аўру. Гэта ідзе ад вашых настаўні-

каў, ад вучняў, магчыма ад самых сценаў. Тут усё гаворыць пра тое, што сейбіты добрага і вечнага збіраюць багаты плён.

Няхай жа і трэцяе пакаленне навучэнцаў гэтай школы прыцджэ свайго красавання.

Мір вам і міласць Аллага Найвышэйшага!

Віцэ-прэзідэнт Беларускага Згуртавання<br>татараў-мусульман "Аль-Кітаб"<br>Ібрагім Канапацкі

Муфцій беларускіх мусульман<br>Ісмаіл Александровіч

28 кастрычніка 1994 года<br>г.Мінск

Салям алейкум, уважаемый Ибрагим Борисович!

Вялікі татарскі салям-прывітанне Вам из Казані!

Пишу Вам общее письмо для Вас и редактора "Байрама" Якубовского. Кажется я забыл подарить вашему обществу мою переводную книгу. Дарю ее от всей души, и, с подсказки Якубовского, пишу сейчас повесть, события в которой так или иначе связаны с белорусскими татарами.

Думаю, что Вы тоже откликнетесь на просьбы, адресованные Якубовскому.

Ваш Фаяз Фаизов

---

Гэта цікава

Б а р к о ў с к і я. Шляхта з 1674 года, паходзіць з Вялікага Княства Літоўскага (Агульны гербоўнік дваранскіх родаў Расійскай Імперыі, СПб., IX, С.9), куды, відаць, трапілі з цюркскага свету, пра што гаворыць іх прозвішча, якое паходзіць ад цюркскага б у р э к -- "шапка", як пра гэта мяркуе М.Баскакаў (Рускія прозвішчы цюркскага паходжання. М., 1979, С. 221).

Салям алейкум!

Добры дзень, шаноўны наш сябар і супляменнік
Якуб Адамавіч ЯКУБОЎСКІ !

Вялікі татарскі салям-прывітанне Вам, а таксама усёй Вашай сям"і, а таксама ўсім знаёмым татарам і адзінаверцам-арабам!

Дзякуй Вам за пісьмо і квартальнік. Перададзенае нашай добрай знаёмай Алсу-ханум з Татарскай энцыклапедыі Ваша цікавая прапанова пра збудаванне мусульманскай вёскі я падрыхтаваў да друку.

Извините за неизбежные в процессе освоения языка ошибки, перехожу на "интернациональный".

Ваше предложение о создании татаро-мусульманского поселка (я назвал бы сей проект "мусульманской коммуной") нас заинтересовало, и мы опубликуем его вместе с обращением ко всем, кто заинтересован в этом деле.

Если кто-нибудь нам откликнется, сообщите, можно ли давать ваши координаты?

И еще одна маленькая просьба: не смогли бы Вы мне прислать белорусско-русский словарь? Сейчас я занят переводом повести с чешского языка, и меня очень заинтересовало сходство многих чешских и белорусских слов.

С уважением Фаяз Фаизов

P.S. Не могли бы Вы подсказать координаты Белорусского информационного агентства?

## ПАДАННЕ АБ КУНДУСЕ
(паэма)

Дык зашый мне каўнер сэрца,
парваны рукой разлукі!..
(Джамі. 1414 - 1492)

У славу караля Польшчы,
Гаспадара Ляхестана,
Літвы, Белай Русі, Чорнай Русі і інш., і інш.
-- раскажу я вам, відаць,
старадаўняе паданне.

ж ж ж

Адбылося гэта, кажуць,
Як Палонія прасіла
Дапамогі, а татары
Не адмовілі ў гэтым.

У сваю чаргу, вядома,
Ва удзячнасць атрымалі
Сабе землі і аселі
На Літве яны й у Польшчы.

Землі хоць і ёсць чужыя,
Толькі кроў на іх татарская,
Але гэта усё належыць
Да гісторыі, між іншым.

ж ж ж

Князь-кароль славуты мае
Вельмі спрытнага мысліўца,
Што за час згарання свечкі
Прынясе табе здабычу.

А той лоўчы, той мыслівец
Быў скуласты, вузкавокі
І сваім татарскім імем
Называўся ён - Хакім.

Сам і родныя яго усе,
Што паходзяць з роду бекаў,
Былі кожнаму вядомы
І ў Польшчы і ў Літве.

Збудаваў сабе мястэчка
Бек са стольным градам побач
І былі ў яго там часта
Госці самыя высокія.

Пад апекай Хакім-бека
Рос падлетак сіраціна;
Пра яго, Кундуся. мовім,
Пра яго, стралка і воя.

ж ж ж

І на ловах і ля статку
Няма роўнага Кундусу;
Да усяго - лагодны, верны,
Постаць - зграбная, прыгожая.

Валасы амаль што русыя,
Вочы чорныя, а сківіцы
Не такія ужо й шырокія,
Бо наследваў славянам!

Ад крыві змяшання выйшаў
Непаўторнай прыгажосці
Той юнак, але з дзяцінства
Пра яго ужо усе чулі.

Закахалася ў Кундуса
Дачка важнага службоўца,
Ды ліцвін суровы - бацька,
Супраць быў не пачуццяў.

Папярэдзіў ён, вядома,
Сваю мілую дачушку,
Хай пастух той мусульманін,
Знойдзе роўную сабе.

Цяжка дочцы бацьку слухаць,
Бо не слухаецца сэрца;
Ах Хрысціна, прыгажуня -
Сінявокая пралеска.

Вось запрэжана ўжо брычка
І, нібы віхура, коні
Мкнуцца за горад і дзяўчыну
Сустракае там Кундус.

Лоўчы даў яму каманду,
Каб і лес і ўсе палеткі
Паказаў ён панскай дочцы.
Так сяброўства пачалося.

У час шпа́цыру па лесе
Распавёў юнак дзяўчыне
Пра звяроў, пра дрэвы, травы...
Але штось душа ў трывозе?!

Калі ж позіркі міжвольна
Сыдуцца, як раптам шчочкі
Загараца й ружавеюць,
І прыходзіць сарамлівасць.

Птушкі ў спеве, дрэвы ў шуме
Дзень увесь у промнях сонца
О юнак, дык дакраніся ж
Да рукі пяшчотнай панны.

Але не, дзівак той юны
Дакранацца і не мысліць;
Хакім-бек сабе смяецца,
Што Кундус - адважны ноччу.

Сапраўды, абы сцямнее -
І Кундуса ўбачыць цяжка...
Дзе ён ходзіць, што ён робіць,
Хто жыве ў яго сэрцы?

О Хрысціна тонкастанная,
О дзяўчо ты небавокае!
Днём яна праз край вясёлая,
На заходзе ж дня сумуе!

Без Кундуса ёй нялёгка
І яго яна шукае...
О шляхі душы зямныя,
О любоўныя пачуцці!

ж ж ж

О скароныя казанцы! ...
Крымцаў лёс такі ж чакае;
А Хакім у дарозе дальняй:
Хадж у Мекку ён здзяйсняе.

Стэпы, мора і пустыні,
І піраты, і бандыты,
І нягодаў іншых безліч
На шляху стаяць у бека.

Ды прыйшла з другога боку
Нечаканая бяда -
То страшэнная хвароба,
Нібы камнем, прываліла.

Рукі-ногі ў знямозе,
Бек - сама ёсць нерухомасць
І ў дадатак пілігрымы
Усе пакінулі яго.

У шатры ад болю дзікага
Ён ад крыку разрываўся,
А тут побач анёл смерці
Ізраіл нязменна быў.

Ды аднойчы стогны хворага
Іудзей, што побач крочыў,
Разабраў і ў шацёр той
Зазірнуў, каб лекаваць.

Запаліўшы свечку згаслую,
Ён два тыдні і два дні
Ледзь жывога ўздымаў там
І вярнуў-такі здароўе.

А пасля да Меккі самай
Вёў аслаблага Хакіма,
Патрабуючы за гэта
Усю бекаву маёмасць.

Што ні зробіш пад прымусам?
І Хакім застаўся голым
І не мог дамоў вярнуцца:
Жабраком ён раптам стаў.

Ад Ісламскай цытадэлі
Ён ішоў, у свету просячы,
Каб трымаць у целе душу,
Каб жывым хоць як застацца.

Што ты зробіш, што падзееш?
Бек Хакім высакародны
Працаваць павінен цяжка
І нікому ён не трэба.

Край святы, мая Айчына!
Крым ужо ў панявolі...
Што заўжды татараў губіць? -
Гэта звады між сабою.

Край няшчасны, край бацькоўскі,
Лёс куды твой будзе схілен?
Добра, што кароль палякаў
Можа быць нам дапамогай.

А чаму б і не? Вядома
І не толькі гэта ляхам,
Што татары там, дзе цяжка,
Дзе работа або зброя.

Нездарма узвяла татарам
Дом малельны хрысціянка
Пані ясная Замойска...
Бо татары заслужылі,

Бо яшчэ й за тое любяць
Усе наўкол - наўсцяж татараў,
Што яны паміж сабою
Не гуртуюцца, як трэба.

І таму заўжды татарын
Чужакам служыць павінен,
Цалаваць штандар чужынцаў,
Каб засведчыць сваю вернасць.

Больш таго - у чужую веру,
Як і ў нацыю, сыходзіць...
Вось што значыць дапамога
Іншым людзям і народам.

Цераз меру ён адданы
І з тае прычыны ведае
Не айчынная гісторыя
Гадуновых і Ляшчынскіх,
Белякоў і Сімеонаў...

А чаму ж Казань і Крым
Не адстойвалі палякі?
......................
......................

ж ж ж

Гарыць, затухае свечка, ...
Прамень пакідае Радзіму....
Якая раніпняя малітва
Будзіць думкі у Хакіма?

О светлая наша Айчына,
Вярнуцца мне як да цябе?
Заняты думкі Хакіма
Толькі гэтым адным.

Валіцца з рук работа,
Сэрца смыліць і смыліць.
Ды вось аднойчы ў мячэці
Дэрвіша ён сустрэў.

Сказаў яму дэрвіш мудры:
"О мусульманін-муслім
Твар твой, нібыта хмара,
У чым справа - адкрыйся мне".

"Пра што гаварыць тут", - маша
У адчаі рукой Хакім.
І ўсё ж расказаў мусульманін
Праз слёзы бяду сваю.

Мудры, свет бачыўшы дэрвіш
Стаяў нерухома, бы дзіда,
Не варухнулася ні маршчынка
На засяроджаным твары.

Зямля пад небам - цёмная,
Месяц над светам - жоўты
І разлілася па ўсёй прасторы
Скруха душы татарскай.

І вымавіў дэрвіш: "Не трэба
Ратунку шукаць далёка,
Калі ў свяшчэннай Мецы
Жыве зямляк з Ляхістана.

У мячэць ён прыходзіць штовечар
І ты яго там убачыш,
А як назавеш Кундусам, -
Астатняе сам зразумееш".

Вечар. Мекка. У неба
Мінарэты імкнуць, бы пальцы,
А ў галаве аргамакам
Розныя думкі нясуцца.

Хакіму ж хочацца бачыць
Дзіўнага земляка.
Хто ён такі Кундус той,
Чым ён валодае ў Польшчы?

Вядома, праз тоўшчу пакутаў
Забыў пастушка-падлетка,
Ды што пастушка, калі роднай,
Роднай зямлі не помніш?!

О Божа! Перад Хакімам
Былы яго пастушок;
Але, чарнавокі, светлагаловы,
Сёння ён ёсць джыгіт.

І тут у свяшчэннай Мецы
Хакім нібы стэп убачыў,
І коні нібыта заржалі,
І снег паляцеў,
І ўзвілася страла.

Без словаў на грудзі Кундуса
Няшчасны ўпаў Хакім
І ціха яму распаведаў
Пра гора і болі свае.

І тут жа Кундус яму кажа:
"Мой бек, на Радзіму далёкую
Дапамагу я табе вярнуцца,
Але таямніцу трымай.

Калі ж каму-небудзь выдасі,
Мне будзе бяда вялікая
І галаву маю пакарае
Магутная Бога рука.

Маўчы ўсцяж, як я ў Мекку
У Мекку як я прыбываю;
Маўчы таксама, як Мекку,
Як Мекку пакідаю я.

Гатовы Хакім ад радасці,
Горы ўзяць зварухнуць
І тут жа сабе клянецца
Аб таямніцы Кундуса маўчаць...

Хакіму юнак гаворыць:
"За мяне ты трымайся
Й малітву, малітву
Чытай і цераз імгненне
Адчуеш ты подых стэпу".

І скончыўшы тую малітву
Кундуса схапіў ён рукою
І ... раптам яны ўзняліся...
І вось ужо дом, і аул, і мячэць.

О свяшчэнная Айчына,
Хлебадарная зямля,
Жонка мілая, і дзеці,
І любімы конь-тулпар.

Хакім-бек сям"ю ўбачыўшы,
То смяецца, а то плача;
І гарой ішла бяседа
Тыдні два і два дзянькі.

...........................
...........................

Гаспадар свае адносіны
Памяняў да пастуха:
У новы светлы дом высокі
Пасяліў ён пастуха.

Пры сустрэчах усміхаецца,
І вітаецца з запалам,
І зайздросціць пастуху
Гаспадарская ўся чэлядзь.

А Кундус... Дзе ж ён дзяецца,
Зноўку дома не начуе;
А Хрысціна небавокая
У палон трапляе рэўнасці.

Ах Хрысціна, ах галубка,
Яе вочы - зіхатлівыя;
Ды свае яна пачуцці,
Як мага глыбей, хавае.

А тым часам безліч шляхціцаў
Да рукі яе скіравана,
Але вусны ганарлівыя
Ім прыходзіцца пакусваць,

Бо Кундус у яе сэрцы,
Бо яго яна кахае
......................
Але ж іншай прапановы,
Як гуляць па цёмным лесе
Ад яго яна не мае.

Ходзяць у лесе, ходзяць двое,
А прызнацца ... не выходзіць;
І не тыя іх размовы
Слухаюць цярпліва дрэвы.

Душы іх нібы і разам,
Але штось перашкаджае;
Сустракаюцца іх позіркі
І уцякаюць паасобку.

Дрэвы - ў шуме, птушкі - у песнях,
Усё наўкол - у моры сонца,
Дык чаму ж не дакранешся,
О юнак, ты да дзяўчыны.

Але вось Хрысціне руку
Падае Кундус, каб у брычку
Сесці ёй ... і раптам,
Раптам іх злучае вечнасць.

Як даўней, бы толькі вечар,
Адлятае ён у Мекку...
Апроч бека таямніцу
Тую аніхто не ведае.

Слова бек сваё захоўвае -
На замку язык трымае,
Але ж вельмі яму хочацца
Ведаць тайны той прычыну.

А тут жонка шчэ чапляецца,
Бы смала: "Скажы, было як,
Як вярнуўся ты з чужыны,
І Кундус пры чым тут увогуле?"

І аднойчы Хакім-беку
Развязаў бы хто язык.
І тады ён непрыкметна
Пра ўсё паведаў жонцы.

А як толькі схамянуўся,
Шкадаваць пачаў адразу,
Бо расказанае слова -
То страла, што паляцела.

Што рабіць, як ратавацца? ...
Шкадаванне прыцiскае.
Да ўсяго яшчэ і з Меккі
Не вяртаецца Кундус.

Толькі роўна цераз тыдзень
Ён з"яўляецца, але
Позірк - бы крыло зламанае
А душа - бы саз без струнаў.

І да хворага Кундуса
Паспяшаецца тут бек.
"Сын мой, - кажа ён, - Даруй мне,
Я страшэнна вінаваты..."

Адказаў пастух Хакіму:
"На цябе я не крыўдую,
Бо мой лёс у руках Аллага,
Будучыня ж на нябёсах!

Перад смерцю сваю тайну
Я табе, Хакім, раскрыю:
Ты ж прычыну хочаш ведаць,
Чаго рвуся я ў Мекку.

А прычына гэтай тайны
Небавокая Хрысціна;
Яна - радасць, яна й - горыч
У маім жыцці нялёгкім.

Кожны вечар там у Мецы
Богу я тварыў малітву,
Каб любоў мая згарэла
Нібы свечка каб згарэла!"

У здзіўленні бек прамовіў:
"Што за глупства ты малоціш?
Небавокая Хрысціна
Кожны дзень цябе чакае.

Хочаш буду табе сватам
І наладзім мы вяселле?
Свае вочы ты расплюшчы -
На жыццё глядзі шырока".

"Ах мой бек, відаць, на небе
Адбываецца каханне;
Толькі там сустрэцца могуць
Крыж зямны і напаўмесяц.

Я даўно ў сне ўбачыў
Ізраіла, а за гэтым
Раптам зоркі захісталіся
І ўзняўся моцны вецер.

I нібы адчуўшы крылы,
Я ўзняўся ў паветра
I, адолеўшы прастору,
Апусціўся ў святой Мецы.

I маліўся я штовечар,
Як лятаў туды штовечар
I ніяк не мог забыцца
Пра яе - маю Хрысціну.

I прыстаў: душа не месціць
Маю вернасць для Іслама
I каханне да Хрысціны...
Дык бывай жа, бек, бывай.

Я ўздымуся ўверх, у неба
Над маёй зямлёй і лесам.
Дык бывайце, мае рэчкі
I мой куткі конь-тулпар.

Над маім знямоглым целам
Вы надгробак мне не стаўце,
Хай замест яго там будуць
Сонца й месяц сваім часам.

I прыгожая Хрысціна
Хай даруе, хай прабачыць
I праз пару дзён хай прыйдзе
На магілу да мяне.

На усё Хакім гатовы,
Ставіць ён усіх на ногі:
"Трэба доктар самы лепшы,
Самы вопытны й разумны"

На чатыры бакі свету
Адпраўляе ён джыгітаў,
Ды прывезеныя лекары,
Як адзін, - бездапаможны.

І пачуўшы шум і лямант
Іудзей, што вечна ходзіць,
Зазірнуў у дом Кундуса,
І свяцільнік заміргаў...

Хакім-бек яго ўспомніў,
І пазнаў, і просіць моцна:
"О табіб, ратуй джыгіта
І бяры маё багацце".

Моўчкі глянуўшы Кундусу
У вочы, іудзей яму сказаў:
"Я зусім бездапаможны,
Усё тут ва ўладзе Бога...

Праз два дні хлапца не стане,
Ён памрэ, а панна плакаць
Будзе горка на магіле,
Што святой гадамі будзе".

І пайшоў, сказаўшы гэта,
Іудзей. Навокала - ціша...
Толькі месяц моўчкі свеціць,
Толькі цёмны лес - глухі.

Праз два дні Хрысціна ў горы
Дабіваецца дазволу
На мізар схадзіць да сябра, -
Да любімага Кундуса.

Аксакалы ў шкадаванні
Ёй дазволілі, пры гэтым
Аб адной умове просячы,
Што ад брамы ад мізарнай
Да магілы да Кундуса
На каленях йсці павінна.

Толькі мінула вароты.
Як калені дол адчулі
І па чорнай па зямельцы
Да Кундусавай магілы
Ціха падайшла Хрысціна.
А калі пацалавала
Месца пахавання сябра,
У цішы, што наступіла,
Аксакалаў слёзы цяжкія
З яе горкаю слязою
У адно ўзялі й зліліся.

І да вечара чуцён быў
Плач Хрысціны небавокай...
Вось Кундусава каханне
Вось канец таму каханню.

ж ж ж

А назаўтра бек здзівіўся:
Вакол свежае магілы
Камяні ляжалі дзіўныя.

І яшчэ нібы пачуў ён,
Што нічога на магіле
Ні ўзрасце ні прарасце,
Апроч моху на каменнях.

І той мох гаючым будзе
І за мохам тым пацягнецца
Безліч люду: і татары,
І ліцвіны - гэта значыць беларусы,
І палякі ... ды ўсіх не пералічыш.

А ўзгорак надмагільны,
Бы душа Кундуса, - чысты;
На каменнях жа гарачых,
Нібы слёзы юнай панны,
Размясціўся мох гаючы.

Возьме хворы чалавек тут
Таго моху з напаўзногаць,
Прыкладзе яго да раны
Ці з вадою яго вып"е –
І загойваецца рана
І хвароба адыходзіць.

А яшчэ калі малітву
Ён з удзячнасцю ўчыніць
Дык духоўную апору
Усёй істотаю адчуе.

Хакім-бек зусім не супраць,
Каб лячыліся тут людзі,
Але ўсіх, хто веры іншай,
Папярэджвае, што трэба
Шлях ад брамы да магілы
На каленях прарабляць,

Так яно, відаць, і будзе,
Хоць слядоў няма ў прышласць...
А пакуль што на магіле
Плача юная Хрысціна.

А суровыя татары
Як заўжды, хаваюць слёзы...
Слёзы ж тыя іх гарачыя
Удалячынь цякуць, у вечнасць...

ж ж ж

Ні ўчора і ні летась
Адбылася гэта дзея,
А жыццё ідзе-імчыцца,
А пачуцці не згасаюць.

Можа стацца, што і заўтра
Юнака аплакваць будуць,
Можа; ну а можа
Толькі месяц сярод ночы
Будзе ззяць сабе і ззяць.

Не, не ведаю, ды сэрца
Усё шчыміць без перастанку,
І душа баліць, і цяжка...
.............................
Ну а, можа, за гаючым
Мохам мне ўзяць схадзіць?

I99I - I992
Лоўчыцы - Казань
Пераклад зроблены ў 1994 г. у Менску

## ВЕРШЫ БРАНІСЛАВЫ ЛАПКОЎСКАЙ

Рэдакцыя "Байрама" атрымала ліст ад паэткі з Баранавічаў, у якім яна піша" "Была на вечарыне, прысвечанай 600-годдзю пасялення татараў на Беларусі. Прачытала два нумары вашага квартальніка, у якіх друкуюцца таксама вершы. Дасылаю вам тры свае апошнія вершы, калі ж спадабаюцца, то надрукуйце".

Дарагая Браніслава! Змяшчаем Вашы творы, якія вельмі хораша раскрываюць душу добрай беларускі-патрыёткі. Жадаем Вам добрага здароўя, плёну ў працы.

### <u>Мова</u>

Мова наша не згіне -
Карані
у Зямлі.
Мову
Мы не пакінем -
Мову
Продкі далі!

З мовай
Нас нарадзілі,
З мовай
Мы падраслі.
Мову
Мы адрадзілі
На радзімай Зямлі!

Мова наша
як колас,
Мова
будзе гучэць!
Мова
гэта наш Голас,
Ёй мужнець
і сталець!

## Людзі дружбы чатырох нацый

Беларусы, татары, палякі,
лятувісы -
Абаронцы граніцы...
Тут яны прайшлі!
Праз лясы, гоні, крыніцы.
Людзі мужнага складу!
Кожны камень і горад свядомы,
Гэта нашы татары
Нам усім, і ім вядома.
Абаронцы нашай сталіцы!
Змаганне за годнасць
Усіх нацый...
Быць дружным Народам
Рэспублікі брацкай Беларусь.

## Спадчына

Не нішчыце магільных курганоў!
Да болю, сэрца, працінаюць думкі.
То ж гэта памяць нашых усіх дзядоў
І мы павінны ў Радаўніцу тут паставіць румкі.

З вялікаю жалобаю гляджу я праз вякі,
Яшчэ адзін мой светлы дзень згасае.
Але ці думаем, што лёс цяпер такі?
Што ў сэрцах боль ніяк не прападае.

О спадчына мая!
У маім ты сэрцы як крыніца.
Ужо колькі год іду дарогай мацярынства
О спадчына мая!

## "ТАТАРЫ БЕЛАРУСІ, ЛІТВЫ І ПОЛЬШЧЫ"

(Слоўнік - назвы артыкулаў, якія мяркуем скласці і надрукаваць у энцыклапедычным даведніку, названым у загалоўку)

Складзены слоўнік на падставе даведнікаў і манаграфічнай літаратуры. Пасля слова ці групы слоў, якія абазначаюць з"яву, падзею, прадмет, імя чалавека (прозвішча), нярэдка ў слоўніку пазначаны вялікімі літарамі і лічбамі. Літары - імя ці імёны аўтараў манаграфій, а лічба - нумар старонкі ў кнізе, дзе пра энцыклапедычны артыкул ёсць некаторыя звесткі.

БД - Пётр Бараўскі і Аляксандр Дубіньскі. "Польскія татары. Гісторыя, абрады, легенды, традыцыі", 1986;

ЯТ - Ян Тышкевіч. "Татары ў Літве і Польшчы", 1989;

АМ - Алі Міськевіч. "Польскія татары 1918-1939", 1989;

Г - Зыгмунт Глогер. "Старапольская ілюстраваная энцыклапедыя". Т. 1 - 4, 1958.

Паважаны чытач! У надрукаваным тут слоўніку будучых артыкулаў, якія пачынаюцца на літары "Н", "О", "П" (у папярэдніх выпусках "Байрама" і ў наступных мы надрукуем слоўнік на усе астатнія літары), вядома, могуць быць пропускі. Дасылайце свае прапановы, а яшчэ лепш - завершаныя артыкулы, а таксама палепшаныя Вамі артыкулы, якія ўжо друкаваліся ў "Байраме" як пробныя.

### Н

Н, літара

НАБАЖЭНСТВЫ, малебны, Г, Т. 3 249

НАВАГРУДАК, АМ 58; ЯТ 24, 100, 103, 117, 145, 147, 161, 198, 208, 211, 214, 215, 236, 241, 255, 256, 258, 261, 265, 281, 285, 286, - 288, 293, 299

НАВАГРУДСКАЯ МЯЧЭЦЬ (з 1538), БД 60, 61

НАВАГРУДСКІ ДЖАМІЯТ, Навагрудская парафія, Навагрудскі прыход, АМ 41

НАГАЙ, хан, ЯТ 98, 103 - 105, 107, 109, 112

НАГАЙСКАЯ АРДА, ЯТ 30

НАДЗЯК, зброя накшталт чакану, Г, Т. 3 251

НАЙВЫШЭЙШАЯ МУСУЛЬМАНСКАЯ КАЛЕГІЯ, гл. у арт. Мусульманскае рэлігійнае згуртаванне (у Польшчы)

О



П

---

Гэта. Цікава

Б е л я к о в ы . З беларуска-літоўскіх татарау, якія перасяліліся у Вялікае Княства Літоўскае яшчэ у канцы 14 ст. і збераглісся як этнас да гэтага часу. Юсуф Беляк — генерал, адзін з удзельнікау паустання пад кірауніцтвам Т.Касцюшкі, памёр пры выкананні службовых абавязкау ( П.Бараускі, А.Дубінскі, Варш., 1986 ).

Б у н і н ы. Ад Буніна Пракуды Міхайлавіча ( памёр у 1595 г. ), дзед якога паходзіў з Арды, атрымау зямлю у Ражскім павеце ( С.Весялоускі. Анамастыкон. Старажытнарускія імёны, мянушкі і прозвішчы. М., 1974, С.260 ). Па іншых крыніцах, пад 1445 г. упамінаецца разанец Бунко на службе Вялікага князя Васіля II ( С.Весялоускі. Даследаванне па гісторыі класа служылых землеуладальнікау. М., 1969, С.310 ). З Буніных вядомы вучоныя, дзяржауныя дзеячы, пісьменнікі, у т.л. і лаурэат Нобелеускай прэміі І.А.Бунін.

ПРОБНЫЯ АРТЫКУЛЫ ДЛЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЧНАГА ДАВЕДНІКА "ТАТАРЫ БЕЛАРУСІ, ЛІТВЫ І ПОЛЬШЧЫ"

АЗРАІЛ, анёл смерці, гл. Ізраіл

ДЖУМА (па-арабску йаўм ал-джума - "дзень сходу"), пятніца, святочны, але не абавязкова нерабочы дзень тыдня ў мусульман. У гэты дзень усе мусульмане павінны збірацца ў мячэці для сумеснага удзелу ў малітве (салат ал-джума, намаз-і джума), якім папярэднічае азан. Далей ідзе малітва з двух ракатаў, хутба і яшчэ адна малітва з двух ракатаў.

Усявышні загадвае ў сваім Кур"ане: "О вы, хто вернікі! Калі вас заклікаюць да малітвы у дзень сходу, спяшайцеся памінаць Аллага. Кіньце свае гандлёвыя справы, - для вас будзе так лепш. О, калі б вы толькі ведалі!" (сура 62 Аль Джума, аят 9).

Аллаг абавязаў мусульман у дзень джума збірацца ўсім разам у мячэці (беларускія татары нярэдка мячэць называюць джаміяй, а прыход (парафію) мусульман, якія наведваюць мусульмане па пятніцах і у гадавыя святы - джаміятам), дзе незалежна ад свайго маёмаснага стану ці пасады ўсе мусульмане моляцца і слухаюць хутбу, бо кожны мусульманін роўны перад Аллагам.

Джума адыгрывае вялікую ролю ў сэнсе арганізацыі пастаяннага кантакту мусульман у грамадстве, бо гэта садзейнічае умацаванню братэрства ў адзінаверцаў.

Перад наведваннем мячэці вернік гуслюецца, апранаецца ў чыстае адзенне. Джума - добры дзень для раздачы садагі за душы памерлых.

ЗАЯНЧКОЎСКІ Ананіяш (12.11.1903, Трокі - 6.4.1970, Італія, пахаваны ў Варшаве), выдатны польскі нучоны, усходазнавец (арыенталіст). Нарадзіўся ў караімскай сям"і. Бацька Аляксандр быў прававедам, маці - Эмілія з сям"і Бэзаковіч.

У 1925 г. Ананіяш скончыў гімназію імя Зыгмунта Аўгуста ў Вільні. Адукацыю атрымаў у Ягелонскім універсітэце ў Кракаве, дзе вывучаў філалогію краін мусульманскага ўсходу. Кандыдацкую дысертацыю абараніў як вынік даследавання "Імянных і часавых суфіксаў у заходне-караімскай мове" (вядома, што караімская мова належыць да цюркскай сям"і моў). Удасканальваў свае веды ў

галіне арыенталістыкі у Берліне (1929 - 1930), Стамбуле (1930 - 1931), Парыжы (1931). Працаваў асістэнтам на кафедры арыенталістыкі Ягелонскага універсітэта (1931 - 1932), старшым асістэнтам і лектарам турэцкай мовы ў новаўтвораным Арыентальным варшаўскім універсітэце ў 1932 годзе. Абараніў доктарскую дысертацыю ў 1933 г. на гуманітарным факультэце Варшаўскага універсітэта па цюркскай, персідскай і арабскай мовах (праца - "Даследаванне анаталійска-турэцкага перакладу "Калілі і Дзімны"). Быў запрошаны на пасаду кіраўніка новаўтворанай у 1933 г. кафедры цюркалогіі як заступнік прафесара, у 1935 г. атрымаў званне надзвычайнага прафесара, а ў 1946 г. - звычайнага прафесара. Кіраваў кафедрай цюркалогіі, а пасля рэарганізацыі ў 1969 г. - Інстытутам цюркалогіі і іраністыкі на працягу 37 гадоў аж да самай смерці. У час нямецкай акупацыі, калі універсітэт быў зачынены, быў чыноўнікам у статыстычным упраўленні (удзельнічаў у падпольным навучанні польскай моладзі). Пасля задушэння немцамі паўстання у Варшаве ў верасні 1944 г. жыў у Кракаве. Увосень 1945 г. вярнуўся ў Варшаву каб пачаць працу ў аднаўленым Інстытуце арыенталістыкі Варшаўскага універсітэта; у Інстытуце быў дырэктарам у 1946 - 1950 і зноў у 1957 - 1961 гадах. У 1946 - 1950 гадах кіраваў таксама Інстытутам арыентальнай філалогіі універсітэта ва Уроцлаве.

Быў членам Польскага арыенталістычнага таварыства з 1930 г., у 1948 - 1958 гадах старшынёй, а пасля ганаровым членам; быў членам Навуковага варшаўскага таварыства з 1936 г., членам-заснавальнікам Уроцлаўскага навуковага таварыства з 1946 г., членам Польскай Акадэміі Умельстваў з 1948 года. З часу заснавання Польскай Акадэміі Навук у 1952 г. быў абраны яе членам-карэспандэнтам, а ў 1961 г. - правадзейны член.

Па яго ініцыятыве быў створаны ў 1953 г. Інстытут арыенталістыкі ПАН, якім А.Заянчкоўскі кіраваў увесь час існавання гэтай навуковай установы да 1969 года. Выконваў таксама функцыю старшыні Камітэта арыенталістыкі ПАН, пераўтворанага пазней у Камітэт арыентальных навук ПАН (да 1965 г.). Быў ганаровым членам Турэцкага лінгвістычнага таварыства да 1957 г., членам-карэспандэнтам фіна-угорскай асацыяцыі з 1966 г. і членам Уральска-Алтайскай асацыяцыі.

А.Заянчкоўскі адыграў выдатную ролю як арганізатар выда-

вецкага арыентальнага руху. У перыяд 1946 - 1948 быў галоўным рэдактарам "Караімскай думкі", пераўтворанай у 1949 г. у "Арыенталістычны агляд". Быў галоўным рэдактарам (1949 - 1952), а пасля (1953 - 1958) старшынёй Рэдакцыйнай рады гэтага першага польскага навукова-папулярнага часопіса, прысвечанага праблемам Усходу. З 1950 - сарэдактар серыі "Працы арыентальнага камітэта ПАН", якая выходзіла пасля пад назвай "Працы арыенталістычныя Інстытута арыенталістыкі ПАН". Членам Польскага камітэта па справах ЮНЕСКА; старшыня з 1957 г. Польскай рабочай групы па справах праекта ЮНЕСКА "Усход - Захад".

А.Заянчкоўскі быў лектарам ва Усходазнаўчай школе, пераўтворанай у 1938 г. у Вышэйшую школу жывых моў Усходу ў Варшаве, у 1948 г. - 1950 у Студыю усходніх моў пры Інстытуце міжнародных спраў.

З 1947 да 1970 А.Заянчкоўскі выконваў абавязкі Старшыні Караімскага рэлігійнага задзіночання.

Галоўныя напрамкі даследаванняў прафесара А.Заянчкоўскага наступныя: помнікі мовы, мовы і цюркскія народы Прычарнамор"я і Прыкаспія; граматыка цюркскіх моў; арыентальныя, асабліва турэцкія уплывы на польскую мову і культуру; славянскія уплывы на кыпчацкую мову і пытанні мовы "Слова пра паход Ігаравы"; гісторыя польскай арыенталістыкі; пашырэнне ведаў пра Усход у этнічных групах, якія пражывалі у Польшчы; даследваў уплыў персідскай мовы на турэцкую літаратуру.

У 1935 г. А.Заянчкоўскі ў "Татарскім штогодніку" апублікаваў артыкул "Турэцкія элементы на польскіх землях", у 1951 г. "Справаздачы Польскай Акадэміі Умельстваў", Т. 52, № 4 артыкул "Так званы татарскі Хамаіл са збораў рукапісаў у Варшаве", дзе даецца кароткае апісанне рукапіснай кнігі, асаблівасці пісьма, невялікія урыўкі польскага і беларускага тэкстаў, аналіз мовы цюркскіх тэкстаў.

Поўная бібліяграфія А.Заянчкоўскага налічвае 335 публікацый.

ІЗРАІЛ, А з р а і л, імя анёла (ангела) смерці, аднаго з самых набліжаных да Аллага. У Кур"ане, у адным месцы згаданы безназоўны анёл смерці (сура 32 Аль Саджах, аят II (12). Скажы: "Анёл смерці, які павінен узяць душу вашую; затым да Уладыкі вашага вернецеся". Паводле меркаванняў некаторых каментатараў Кур"ана, пра анёла смерці сказана ў Свяшчэнным Кур"ане яшчэ раз (сура 70 Анназіят, аяты I і 2 (2 і 3). У знак тых (анёлаў), хто з сілай вырывае (душы грэшных), і тых, хто з лагоднасцю ў праведнікаў яе вымае.

Згодна Кур"ану і Сунне, акрамя Ізраіла, ёсць яшчэ анёлы, якія дапамагаюць яму. Аб гэтым у Кур"ане сказана, што пасланцы Аллага гэтым займаюцца. "Ён паўнаўладны над сваімі рабамі; Ён пасылае ахоўнікаў ім, якія пры кожным з вас да той пары, пакуль не настане смерць: гэтыя пасланцы Нашы пільна назіраюць за імі і паслабленняў яны ніякіх не чыняць" (сура 6 Аль Анам, аят 61). Акрамя гэтага Усявышні Аллаг пры неабходнасці можа пасляць анёла смерці і знішчыць цэлы горад бязбожных людзей, як гэта было зроблена з горадам, дзе жыў праведнік прарок Лут. Ізраіл і яго памочнікі могуць забіраць душы адначасова ў сотнях, нават тысячах месцаў з дапамогай сілы, якую дае ім Аллаг.

ІНГУШСКАЯ МОВА, мова інгушоў, якія жывуць пераважна ў Інгушскай Рэспубліцы ў складзе Расійскай Федэрацыі.

Інгушская мова адносіцца да нахскай групы іберыйска-каўказскіх моў. Блізкая да чэчэнскай мовы. Карыстаюцца інгушскай мовай паводле перапісу 1989 г. 238 тыс. чалавек. Літаратурная мова сфарміравалася на базе народна-размоўнай мовы інгушоў,якія жылі на раўніне. Да 1920-х гадоў інгушы карысталіся арабскай графікай, пазней лацінскай, з 1938 - кірыліцай. Мова адрозніваецца багаццем зычных (змычна-гартанная - глоталізаваныя, ларынгальныя, фарынгальныя) і галосных. Граматычная будова інгушскай мовы характарызуецца наяўнасцю катэгорыі граматычных класаў, эргатыўнай канструкцыяй, адсутнасцю спражэння па асобах. Адрозніваюць шэсць граматычных класаў. Скланенне шматсклонавае. Дзеясловы змяняюцца па часе, ладзе, відах, ліках і граматычных класах. У інгушскай мове шмат лексічных запазычанняў з рускай і праз яе - з іншых моў, а таксама з арабскай, пірсідскай, цюркскіх і іншых моў.

ІНГУШЫ, г а л г а і (саманазва), народ, асноўнае насельніцтва Інгушскай Рэспублікі на Каўказе, у складзе Расійскай Федэрацыі. Паводле перапісу 1989 г. інгушоў 238 тыс. чалавек, 69% іх жывуць у Інгушэціі. Адносяцца да балкана-каўказскай расы вялікай еўрапеоіднай расы. Размаўляюць на інгушскай мове, пашырана таксама руская мова. Вернікі - мусульмане-сунніты.

Разам з роднаснымі ім чэчэнцамі інгушы адносяцца да карэннага насельніцтва Паўночнага Каўказа. Першапачаткова жылі на пласкагор"і і ў гарах асобнымі абшчынамі: Джарахоўскае, Фепінскае (Кістынскае), Галгаеўскае (адсюль саманазва інгушоў), Цорынскае і Мецкальскае. Перасяленне горных інгушоў на раўніны пачалося ў 16 - 17 стагоддзях, асабліва інтэнсіўна з 19 ст. пасля далучэння Інгушэціі да Расіі. Адным з першых пасяленняў інгушоў на раўніне было сяленне Ангуш у Тарскай даліне (адсюль назва).

У 1924 г. была ўтворана Інгушская аўтаномная вобласць у складзе РСФСР, у 1934 г. яна аб"ядналася з Чэчэнскай аўтаномнай вобласцю ў Чэчэна-Інгушскую аўтаномную вобласць (у 1936 г. пераўтворана ў АССР; скасавана ў 1944 г., інгушы незаконна выселены; у 1957 г. адноўлена, інгушы вернуты на іх этнічную тэрыторыю).

Традыцыйны занятак інгушоў, як у гарах, так і на раўніне, - жывёлагадоўля (авечкі, каровы, буйвалы, коні), на раўніне - земляробства (галоўная культура з 19 ст. - кукуруза). З хатніх рамёстваў развіта вытворчасць сукна. У цяперашні час галоўнымі культурамі ў земляробстве сталі садоўніцтва і вінаградарства. Пашыраны тонкарунная авечкагадоўля і мяса-малочная жывёлагадоўля. У прамысловасці галоўнае месца займаюць здабыча і перапрацоўка нафты.

Традыцыйныя пасяленні размешчаны на стромкіх схілах гор ці на дне замкнутых цясніն. Пашыраны тып жылля - трохпавярховы мураваны дом (ніжні паверх - месца для жывёлы, верхнія з ачагом - для жылля і абароны). У сярэдневечных сяленнях побач з саклямі жылая, напоўабарончыя і абарончыя вежы, замкавыя комплексы і ахоўныя сцены. На раўніне інгушы будавалі вялікія сяленні, выцягнутыя ўздоўж рэк і дарог. Тып жылля - хата-мазанка, пазней доўгі саманны ці турлучны (з плятня, абмазанага глінай) дом, у якім кожны пакой мее асобны выхад на тэрасу. Цяпер на раўніне воблік сяленняў змяніўся, шырокія вуліцы з дамамі з рознымі выгодамі.

Традыцыйнае адзенне інгушоў у асноўным падобнае з адзеннем суседніх народаў Паўночнага Каўказа (чэчэнцаў, асецінаў). Спецыфічны элемент мужчынскага касцюма – высокая папаха, якая расшыраецца ўверх, чаркеска; жаночая – кажушок з аўчыны. Пажылыя жанчыны надзяюць шырокія сукенкі, часам і шаравары, маладыя найчасцей носяць гарадскую вопратку.

Традыцыйная ежа – у асноўным малочныя прадукты, мяса, стравы з мукі, садавіна.

Фальклор інгушоў насычаны багатым гістарычным зместам; значнае месца займаюць міфалогія, нартаўскі эпас, казкі, легенды і паданні, песні – гераічныя, вясельныя, любоўныя, афарыстычныя жанры. Пашыраныя музычныя інструменты – трохструнная горская скрыпка, ударныя; народны танец – парная лезгінка. Сфарміраваліся нацыянальная інтэлігенцыя і прафесійная культура.

КАХАНОЎСКІ Генадзь (8.І.1936, в.Дамашы ў Маладзечанскім раёне Менскай вобл. – 15.І.1994, пахаваны ў в.Насілава Маладзечанскага раёна), гісторык, краязнавец, літаратуразнавец, доктар гістарычных навук (1992).

Нарадзіўся ў сялянскай сям"і Аляксандра і Наталлі (з Капуцкіх). Маючы мала сваёй зямлі бацька працаваў падзёншчыкам, чыгуначнікам на ст. Маладзечна, маці працавала па найму, пазней рабочай саўгаса. Г.Кахановскі скончыў у 1952 г. Насілаўскую сямігадовую школу, у 1955 Лебедзеўскую сярэднюю школу. Служыў у Савецкай Арміі (1955 – 1958). У 1958 г. паступіў на гісторыка-філалагічны факультэт Маскоўскага педінстытута (скончыў у 1963 г.). Працаваў настаўнікам у Ленкаўскай васьмігадовай школе Маладзечанскага раёна, у школах г.Маладзечна. З 1964 г. настаўніцкую работу сумяшчаў з працай у Менскім абласным краязнаўчым музеі (Маладзечна): з 1966 г. навуковы супрацоўнік, з 1968 г. старшы навуковы супрацоўнік, з 1969 г. намеснік дырэктара па навуковай рабоце, з 1978 г. – дырэктар музея. З 1982 г. старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. З 1991 г. загадчык аддзела ў нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Ф.Скарыны. Узначальваў Беларускае таварыства краязнаўцаў. Узнагароджаны медалём Ф.Скарыны.

Першыя публікацыі Г.Кахановскага з"явіліся ў друку ў 1962 годзе. Захапленнем на ўсё жыццё для яго стала краязнаўства і

археалогія. Удзельнічаў у археалагічных экспедыцыях на Каўказе, у Крыме, на Беларусі. Краязнаўствам Беларусі ён зацікавіўся яшчэ ў школьныя гады. Падчас працы ў музеі сабраў значную колькасць рэдкіх выданняў і кніг. Некаторыя з гэтых матэрыялаў увайшлі ў манаграфію "Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі XVI - XIX ст." Г.Кахаnоўскі аўтар літаратурна-краязнаўчых нарысаў пра Я.Купалу, М.Багдановіча, А.Гурыновіча, Ф.Тапчэўскага, М.Чарота, гісторыка-эканамічных нарысаў "Маладзечна", "Вілейка" і інш. Даследаваў развіццё гісторыка-літаратурнага працэсу 19 - пачатку 20 стагоддзяў, асобныя перыяды жыцця і дзейнасці вядомых беларускіх пісьменнікаў, уводзіў у навуковы ўжытак імёны малавядомых літаратараў. Многія з гэтых даследаванняў увайшлі ў кнігу гісторыка-літаратурных нарысаў "Адчыніся, таямніца часу" (1984 г.). Выступаў у перыядычным друку па пытаннях музейнай справы, ахову помнікаў на Беларусі і інш.

Г.Кахаnоўскі вельмі прыязна ставіўся да беларускіх татараў. Будучы вучнем малодшых класаў ён пазнаёміўся з настаўнікам Сцяпанам Александровічам, які стаў вядомым вучоным і літаратарам. У 1969 г. у газеце ЛіМ (5 жн.) Г.Кахаnоўскі надрукаваў рэцэнзію на працу С.Александровіча "Па звілістых сцежках гісторыі". У квартальніку "Байрам" надрукаваны два артыкулы Г.Кахаnоўскага: "Педагог і вучоны" (пра С.Александровіча), 1991 г., № 4; "У галіне арыенталістыкі" (пра даследчыка беларускіх татараў Антона Мухлінскага), 1992 г., № 1. Г.Кахаnоўскі шмат зрабіў для таго, каб захаваць помнік драўлянай архітэктуры татараў - Даўбуцішкаўскую мячэць.

КІТАБЫ, А л ь - К і т а б ы (Аль-Кітаб па-арабску адна з назваў Свяшчэннага Кур"ана), рэлігійныя кнігі беларускіх татараў, напісаныя на беларускай мове арабскім пісьмом. Ствараліся з 16 ст. татарамі-мусульманамі, што пасяліліся ў Беларуска-Літоўскай дзяржаве ў 14 - 15 ст. і паступова забылі сваю родную мову.

Для захавання рэлігіі яны вымушаны былі перакласці Кур"ан і іншыя кнігі ісламу на беларускую мову (нярэдка з вялікай дамешкай польскіх слоў), пакінуўшы пры гэтым арабскі алфавіт з дапаўненнем асобных літар, якіх не ўжывалі арабы. Змест Кітабаў - апісанні мусульманскіх рытуалаў, падзей, звязаных з жыц-

цём прарока Мухаммеда (Міраджк - паэма пра узнясенне Мухаммеда на неба), маральна-этычныя павучанні для моладзі (гл. Пра шанаванне бацькі і маці, Пра шанаванне госця, Пра шанаванне сірот, Пра шанаванне старых і вучоных, Пра шанаванне суседзяў), варажба па літарах Кур"ана, разгадка сноў, усходнія легенды, казкі, прыгодніцкія аповесці.

Акрамя Кітабаў, выдзяляюць Тэфсіры (Кур"ан з падрадковым каментарыем па-беларуску ці па-польску), Тэджвіды (правілы чытання Кур"ана), Хамаілы (малітоўнікі).

У 16 - 17 ст. большая частка татараў не ведала сваёй мовы. Як сведчыць аўтар Рысале-і-татар-і Лех (гэта памятная запіска 1557 - 1558 гг. невядомага татарына турэцкаму султану Сулейману Пышліваму пра татараў-перасяленцаў на Беларусі, Літве і Польшчы) родную мову ў гэты час ведалі толькі тыя татары, якія перасяляліся значна пазней. Тым, хто ужо не разумеў па-татарску, прапаноўвалася: "Калі хто па-татарску не умее, то па-руску нехай абракаецца (гаворыць)", - тэкст І-й паловы 18 ст. Гэта акалічнасць вымусіла перакласці мусульманскую літаратуру на беларускую мову, захаваўшы знешняе афармленне (у т.л. пісьмо) без змен.

Вывучэнне кітабаў пачалося ў 19 ст. Першаадкрывальнікам для навукі лічыцца прафесар Пецярбургскага універсітэта усходазнавец Антон Мухлінскі, які ў працы "Даследаванне пра паходжанне і стан літоўскіх татар" (СПб., 1857) надрукаваў урыўкі з Кітабаў і адзначыў, што "можна было б стварыць з такіх кніг маленькую бібліятэчку". Пасля смерці вучонага (1877 г.) вывучэнне тэкстаў спынілася. Пра іх успомнілі толькі ў пачатку 20 ст. і пазней (Іван Луцкевіч, Яухім Карскі, Ігнаць Крачкоўскі, Ян Станкевіч, Акінэр Шырын, Галіна Александровіч-Мішкінене ды інш.).

Грунтоўна даследаваў тэксты Антон Антановіч. У кнізе "Беларускія тэксты, напісаныя арабскім пісьмом..." (1968 г.) ён разгледзеў 24 арыгінальныя тэксты (сярод іх Кітаб 16 ст. з Літоўскай Акадэміі навук (ЛАН-Р21-814), Кітаб 19 ст. з Віленскага універсітэта (ВУ - 391), Кітаб 1771 г. з Вільнюсскага гісторыка-этнаграфічнага музея (ВЭМ - 35), Кітаб 1815 г. з Вільнюсскага гісторыка-этнаграфічнага музея (ВЭМ - 10), Кітаб 1836 г. з Вільнюскага гісторыка-этнаграфічнага музея (ВЭМ - 28), Кітаб 1887 г. з Вільнюскага гісторыка этнаграфічнага музея (ВЭМ - 39), Кітаб 1868 г. з Вільнюскага гісторыка-этнаграфічнага музея (ВЭМ - 13),

Кітаб 17 ст. з бібліятэкі Казанскага універсітэта (КУ - 1445). А.Антановіч даў падрабязную моўную характарыстыку, выказаўся пра месца і час узнікнення кожнага з названых Кітабаў, разгледзеў графіку, дастасаваную татарамі да беларускай фанетыкі, прывёў транслітараваныя урыўкі. (Мову Кітабаў даследаваў і абараніў кандыдацкую дысертацыю філолаг Віктар Несцяровіч - заўвага рэд.).

Кітабы напісаны і чытаюцца справа налева, тэкст пачынаецца там, дзе ў славянскіх кнігах заканчваецца. Колькасць старонак неаднолькавая ў кожным Кітабе - ад 70 - 300 (паўкітаб) да 1000. Радок суцэльны, няма падзелу на словы, няма вялікай літары і знакаў прыпынку. Перанос слоў падпарадкоўваецца аднаму правілу: кожны наступны радок павінен быць роўны з папярэднім. Новы твор (раздзел) пачынаецца словам баб (раздзел, пачатак новага зместу) ці хікыйет (аповесць, апавяданне).

Іншы раз гэтых слоў няма, тады на палях выпісваюцца першапачатковыя словы (першы сказ), якія таксама паказваюць на пачатак новага зместу.

Мова Кітабаў адрозніваецца ад мовы старадаўніх беларускіх пісьмовых помнікаў, яна блізкая да беларускай народнай мовы. У тэкстах адлюстроўвалася беларуская лексіка (спрэчка, заранак, прысмакі, згода, гадаваць), фразеалогія (як вокам мігнуць, як слова сказаць, на свет пусціць, на ногаць, шлюб браць), беларускі сінтаксіс (пайшоў па прароцкую душу, дзякаваць таварышу). З дапамогай арабскай графікі, дастасаванай да беларускай фанетыкі, больш дакладна, у параўнанні з пісьмовымі помнікамі, напісанымі кірыліцай, перадаюцца некаторыя гукавыя асаблівасці беларускай мовы, у першую чаргу дзеканне і цеканне, разнастайныя асіміляцыйныя змяненні, паколькі ў арабскай графіцы былі розныя літары для абазначэння парных гукаў, напрыклад, с - с́, з - з́, д - дз, т - ц; на сьвеце, зь вечара, зьнік, вернасьць, дзьверы. Вось некалькі транслітараваных урыўкаў з Кітабаў: Сюлейман казал собі палац высокій збудовац(ь) і ... алі рыба адна морам плыне і стала ... рэкла: Господару Сюлеймане ... пан Бог казал мні у (ц)ебе есь(ц)і (тэкст 17 ст.). Потым йешчэ варота адчыніліce ... Што гэтые на сьвеце чынілі? Ангел рэк: Малако свайё прадавалі. У йіх усіх свае дзеці былі, свайе пакінуўшы, чужыйе мам-

чылі (тэкст 18 ст.). Што прас сон пабачыш. Калі сонца у патуху бачыць, гультайом будзе. Калі езьдзіць на карабкі, абернецца, госць будзе (тэкст 19 ст.).

У Кітабах выкарыстоўваюцца ўсходнія словы, што абазначаюць разнастайныя мусульманскія рытуалы: селям (салам) - мусульманскае прывітанне ў фразеалагізме даць селям; васійят (весійят) - духоўны запавет, джаназе - малітва на могілках і інш. Пераважная большасць такіх слоў уключаецца ў сістэмныя адносіны (назоўнікі скланяюцца, дзеясловы спрагаюцца). Нямала ўсходніх слоў атрымліваюць пад уплывам беларускай мовы іншыя формы. Слова дуа - малітва, просьба, заклік - прыняло памяншальна-ласкальную форму дуайка. Арабскае слова кяфір - нявернік - дало вытворнае кяфіры, кяфірскі, кяфіране. Як лічаць арабісты, напрыклад У.П.Дзямідчык, такія словы не маглі перакладацца. Яны інтэрнацыянальныя ў мусульман, бо маюць больш чым канкрэтнае значэнне - прызнанне веры ў адзінага Бога. Выкарыстанне гэтых слоў рытуальнае. Такія словы хоць і адчулі ўплыў беларускай мовы, але ў беларускую мову трапіць не маглі, бо Кітабы не маглі быць перадатчыкамі слоў у народна-дыялектную мову беларусаў па той прычыне, што пісьменства мела замкнёны характар, беларусы не разумелі яго і не маглі, паводле мусульманскіх канонаў, быць дапушчаны да яго*.

Вывучэнне Кітабаў дае каштоўны матэрыял для філолагаў, этнографаў, фалькларыстаў, гісторыкаў, ісламістаў, цюркологаў, арабістаў. Кітабы зберагаюцца ў бібліятэках, знаходзяцца ў карыстанні вернікаў. Кожны Кітаб прадстаўляе вялікую цікавасць для навукі.

КУФР - няверʼе: непрызнанне Ісламу ці адыход ад яго нормаў. У разрад куфру ўключаюцца сурʼёзныя праступкі і злачынствы: шматбожжа, адмова ад малітвы, нешлюбныя адносіны з жанчынай, самагубства, пʼянства, азартныя гульні і г.д. Куфрам лічыцца таксама, калі "вучоны" (алім), карыстаючыся сваім аўтарытэтам, павядзе вернікаў па няправільнаму шляху.

---

* Паводле мусульманскай веры Курʼан, Кітаб, Хамаіл можна браць у рукі толькі пасля таго, як выканаеш абдэсь - рытуальнае мыццё рук і змовіш адпаведную дуа - малітву.

У Кур"ане ёсць 109-я сура, якая названа Кафіруна. У Аль-Кітабах беларускіх татарау трапляецца слова кафір, кяфір, што азначае бязбожнік, які груба парушае абавязковыя для мусульманіна нормы паводзін.

МАХДЗІ, Аль-Махдзі (кіруемы Аллагам), паводле Хадзісау перад канцом свету будзе халіф, які будзе правіць справядліва. Ён нашчадак Фатымы - дачкі Мухаммеда. Яго імя будзе як імя Прарока, а імя яго бацькі - як імя бацькі Прарока. Ён пашырыць справядлівасць там, дзе было зло і несправядлівасць да яго. У хадзісах пра махдзі сказана: "Ён вельмі прыгожы, на яго правай шчацэ чорная плямка, арліны нос, выгнутыя бровы, колер скуры арабскі, чарнавокі, з густой барадой, яму сорак гадоу, ён - пакорны Аллагу. У Евангеллі упамінаецца ён (махдзі) і называецца Верны, Справядлівы. Аллаг падтрымае махдзі, пакуль ён не пераможа злых ворагау, у канцы барацьбы ён выбярэ Іерусалім як цэнтр, куды накіруюцца многія людзі, што далучацца да яго, а пасля гэтага паявіцца антыхрыст, і пачнуцца зноу бойкі, пасля чаго сыйдзе з неба Іса (Ісус), каб астанавіць антыхрыста і знішчыць яго з дапамогай Аллага. Махдзі будзе кіраваць на зямлі сем, восем ці дзевяць гадоу.

На жаль, у гісторыі былі выпадкі, калі некаторыя абвяшчалі сябе махдзі, аб якім гаварыу Прарок, але яны абманвалі людзей, бо іх справы сведчылі зусім іншае. Напрыклад, заснавальнік дынастыі Фатымідау Убайдаллах аль-Махдзі (909 - 934), заснавальнік дынастыі Альмахадау Мухаммед бен Тумарт (1121 - 1128). Але былі і такія правіцелі, якія далі добры прыклад людзям, таму іх называлі махдзі, хоць яны не абвяшчалі, што з"яуляюцца сапрауды махдзі, аб якім гаварылася у хадзісах.

МАХДЗІ Мухаммед Ахмад (1844, на востраве Лабаб на Ніле на поунечы Судана - 1885, Амдурман), стваральнік і кіраунік палітычна-рэлігійнага руху у Судане. Паходзіу з роду Кунуз, які належыу да арабізаванага нубійскага племя Бербер. Яго бацька майстравау драуляныя судны для плавання па Ніле. Ва узросце 18 гадоу стау вучнем шэйха суфіцкай секты Мухаммада Шарыфа. Пад яго кіраунііцтвам сам атрымау званне шэйха. Пасля кароткага знаходжання у Хартуме Махдзі пасяліуся на востраве Абба на Белым Ні-

ле, сабрау вакол сябе вучняў. Крытыкуючы злоўжыванні егіпецка-турэцкай адміністрацыі Махдзі прыдбаў шматлікіх прыхільнікаў з розных слаёў грамадства. Дзейнасць махдзі хутка прывяла да утварэння моцнай, арганізаванай апазіцыі турэцка-егіпецкім уладам. У 1881 г. абвясціў сябе махдзі і з гэтай пары атрымаў вядомасць пад гэтым імем. Стаўшы на чале сваіх прыхільнікаў, якія называліся махдзія (махдзісты), абвясціў свяшчэнную вайну (джыхад) супроць зла і злоўжыванняў чыноўнікаў, за сапраўдную роўнасць усіх вернікаў, за адмену ўсялякіх падаткаў. Ён імкнуўся вызваліць Судан ад улады чужынцаў - егіпцян, туркаў і англічан. Прапагандаваў таксама рэлігійныя рэформы: вяртанне да Ісламу, які заснаваны выключна на Свяшчэнным Кур"ане. Да сімвала веры, які кожны мусульманін па некалькі разоў у дзень паўтарае: "Няма боства акрамя Аллага, а Мухаммед Яго пасланнік", махдзісты сталі дадаваць фразу "Мухаммед Аль-Махдзі - наследнік пасланніка Аллага".

Новая адміністрацыя, якую увёў Махдзі, складалася з вайскоўцаў, быў утвораны Савет справядлівых (меджліс аль-умана), агульная казна усіх вернікаў, так званыя байт аль маль. Махдзі адмаўляўся ад перамоваў, з якімі звяртаўся да яго егіпецкі урад, які ў гэты час займаўся задушэннем паўстання Арабі Пашы. Супроць Махдзі было праведзена некалькі ваенных экспедыцый, з якіх найбольшая была пад камандаваннем англічаніна Хікс Пашы, які меў больш за 10 тыс. салдат. Гэта экспедыцыя была ўшчэнт разбіта ў 1883 г. У 1884 г. Махдзі адкінуў мірную прапанову англійскага генерала, які быў на егіпецкай службе. Махдзі загадаў зрабіць аблогу Хартума і пасля працяглай аблогі горад быў узяты махдзістамі. Генерал Гордан быў забіты ў палацы губернатара Судана. Неўзабаве пасля гэтай перамогі, у 1885 г., Махдзі памёр (мяркуюць, ад тыфу). Яго намеснікам стаў Абдаллаг ібн Мухаммед ат-Тааішы. Правіў ён Суданам на працягу 13 гадоў да вялікай бітвы пад Амдурманам, калі ў 1898 г. англійская экспедыцыя пад кіраўніцтвам генерала Кітчэнера з кулямётаў расстраляла некалькі тысяч суданцаў.

Махдзі з"яўляецца героем шматлікіх арабскіх і заходнееўрапейскіх аповесцяў (Генрык Сянкевіч ставіўся да Махдзі адмоўна). Арабы лічаць яго героем-вызвалiцелем; існуе апісанне жыцця (сі-

ра) і легендарных спраў Махдзі. Рух махдзістаў быў не толькі рэлігійным, але і рэвалюцыйным уздымам насельніцтва Судана супроць каланіяльнай экспансіі заходніх дзяржаў на тэрыторыю арабскіх краін.

НОЙ, пасланнік Аллага, гл. НУГ.

НУГ, Н у х , прарок і пасланнік Аллага, у Бібліі на рускай мове называецца Н о й , на польскай мове - Н о э. У Кур"ане называецца як настаўнік ("І паслалі Мы Нуга да народа яго, і сказаў ён: "Сапраўды прыйшоў я да вас, каб толькі перасцерагчы вас. Каб не пакланяліся вы нікому, акрамя Аллага. Сапраўды, баюся я што будзе для вас пакаранне і горкі дзень" (II сура Гуд, аяты 26 і 27 (25 і 26). Ён (Нуг) ім сказаў: "О мой народ! Я - настаўнік ваш, які з яснай місіяй да вас пасланы..." (сура 7I - Нуг, аят 2 (3). У Кур"ане Нуг названы таксама "удзячным рабом" (сура І7 - Бані Ізраіль, аят 4 (3) "О сыны тых, каго Мы насілі у Каўчэгу з Нугам. Сапраўды, быў ён удзячным рабом"), "верным пасланнікам" Аллага (сура 26 - Ашуара, аят І08 (І07) "Сапраўды, я Пасланнік для вас, верны паслаўшаму мяне"). Згодна з Кур"анам, Нуг быў пасланы Аллагам да бязбожных людзей, якія не жадалі слухаць яго пропаведзі (сура 7I - Нуг). Аллаг загадаў Нугу будаваць Каўчэг, пасля "закіпела печка" (сура II - Гуд, аят 43 (42) "І ён паплыў з імі па хвалях, як горы. І Нуг звярнуўся да сына свайго (Канана), які трымаўся ў старане, "О сын мой, узыйдзі на Каўчэг з намі і не заставайся з няверньмі"; сура 23 - Аль Мумінун, аят 28 (27) "Таму абвясцілі Мы яму: "Збудуй Каўчэг пад Нашым наглядам і згодна з Нашым абвяшчэннем. І калі прыйдзе наказ Наш, і паверхня зямлі будзе заліта вадою, вазьмі ў Каўчэг кожнага віду па пары, самца і самку, і сямейства тваё, акрамя тых, супроць каторых ужо было сказана слова. І не звяртайся да мяне адносна тых, якія чынілі зло, бо будуць яны утоплены". Патоп пагльнуў усіх няверных, разам з жонкай Нуга і яго сынам (сура 66 - Аттагрым, аят II (І0). Каўчэг прыстаў да гары эл-Джудзі (сура II - Гуд, аяты 28 - 52 (27 - 5І); сура 26 - Аль Шуара, аяты І06 - І23 (І05 - І22).

У Кур"ане можна бачыць паралелізм гісторыі Нуга з гісторыяй Мухаммеда. Падобныя іх місіі (сура 42 - Ашура, аят І2 (ІІ). Са-

словамі Нуга пераклікаюцца словы з суры 10 - Юнус, аяты 73 - 75 (72 - 74); а ворагі Нуга ўжывалі тыя ж словы і аргументы, што і ворагі Мухаммеда (сура 23 - Аль Мумінун, аяты 25 - 26 (24 - 25); сура 54 - Аль Камар, аят 10 (9). Ёсць таксама паралелі гісторыі Нуга з гісторыяй Мусы і Ібрагіма.

Вядомы шматлікія паслякуранічныя сказанні пра Нуга.

СІНІЯ ВОДЫ, Бітва каля Сініх Вод 1362. Адбылася паміж войскамі Вялікага Княства Літоўскага (ВКЛ) і аб"яднаным войскам Крымскай, Перакопскай і Ямбалукскай ордаў на р.Сінюха (Сінія Воды; левы прыток Паўд. Буга). Гэта бітва была галоўнай падзеяй у наступленні ВКЛ на падпарадкаваныя татарам землі паўднёва-заходняй Русі. У 1362 г. вялікі князь ВКЛ Альгерд, выкарыстаўшы паляпшэнне адносін з Каралеўствам Польскім і крыжакамі, выступіў супраць ардынскага панавання ў міжрэччы Дняпра і Дуная. Войска было сабрана на Беларусі і значна папоўнена апалчэнцамі з Валыні і Кіеўшчыны. Восенню Альгерд з войскам рушыў з Кіева на заходняе Падолле. Войска татараў, якое ўзначалілі князі Кутлубуг, Качубей (Качыбей, Хачыбей) і Дзмітр - "отчычы і дзедзічы Падольскай зямлі", дзяліліся на 3 палкі. Альгерд паставіў "шэсць палкоў" у лінію глыбокай абароны ў некалькі радоў, што не давала магчымасці варожай конніцы зайсці ў тыл. Татарскае войска вымушана было распачаць франтальны бой. Лёгка адбіўшы націск татараў, войскі Альгерда нанеслі ўдары ў цэнтр фронту і па флангах. Пасля нядоўгага бою супраціўленне татараў было зламана, яны ратаваліся ўцёкамі. У час пагоні быў захоплены абоз ардынцаў.

Удзел у бітве браў князь Альгерд. Асабліва вылучыліся ратнікі з Навагародка, якімі камандавалі Карыятавічы. Пасля бітвы рэшткі татарскай конніцы падаліся на Дунай і далей у Дабруджу, а князь Альгерд пайшоў углыб іх уладанняў да вусцяў Дняпра і Паўд. Буга. У выніку гэтай перамогі падуладныя татарам землі зменшыліся. ВКЛ пашырыла сваю тэрыторыю да вусцяў Дняпра і Днястра, замацавала ў сваім складзе Чарнігава-Северскія землі, Падолле, Валынскае і Кіеўскае княствы. Пачалося вызваленне ўсходнеславянскіх зямель ад ардынскага панавання.

ЦЮРКСКІЯ МОВЫ. Да цюркскіх моў адносіцца моўная сям"я з шырокім геаграфічным распаўсюджаннем ад Прычарнамор"я і Каўказа да Сярэдняй Азіі і Усходняй Сібіры з агульнай колькасцю носьбітаў амаль 110 млн. Носьбіты гэтых моў добра разумеюць адзін аднаго без перакладу, што сведчыць аб познім распадзе працюркскай мовы. Існуюць розныя гіпотэзы пра яе паходжанне. У адпаведнасці з алтайскай гіпотэзай цюркскія мовы аб"ядноўваюцца з тунгуса-маньчжурскімі і мангольскімі ў адну групу роднасных моў. Паводле некаторых даных, да гэтай групы адносяцца таксама карэйская і японская мовы. Урала-алтайская гіпотэза, апрача вышэй пералічаных алтайскіх моў, адносіць сюды і уральскія (фіна-угорскія і самадыйскія) мовы. Фармальнае і семантычнае падабенства гэтых моў разглядаецца як паказчык іх генетычнай тоеснасці, інакш кажучы, сцвярджаецца, што яны ўзніклі не ў выніку кантактаў, а праз распад агульнай прамовы. Правільнасць гэтых разважанняў залежыць ад надзейнасці метадаў сучаснага параўнальна-гістарычнага мовазнаўства. Найбольш вялікая з сучасных цюркскіх моў турэцкая мова (больш за 45 млн. носьбітаў) лакалізуецца на тэрыторыі Малой Азіі і на сумежных з ёй тэрыторыях. На паўночна-усходняй яе частцы вылучаецца дыялект, блізкі да азербайджанскай мовы. Астатнія цюркскія мовы займаюць тэрыторыю, якая падзяляецца на 5 арэалаў: заходні, каўказскі, волжска-уральскі, сярэднеазіяцкі і сібірскі. Заходні арэал уключае беларускіх і літоўскіх татараў, караімаў, крымскіх татараў, гагаўзаў і туркаў. Гістарычна ён склаўся з кыпчакоў (насельніцтва Крымскага ханства) і агузаў (насельнікі Асманскай імперыі). Да іх таксама адносяцца вядомыя сваімі нападамі на Кіеў печанегі, якія рана асіміляваліся з іншымі народамі, і полаўцы. Палавецкая мова захавалася ў помніках, сярод якіх вядомы "Кодэкс Куманікус" (13 ст.). Яе называлі ў мусульманскіх крыніцах кыпчацкай, у еўрапейскіх - куманскай, у старажытнарускіх - палавецкай.

Беларускія і літоўскія татары, літоўскія караімы - выхадцы з Крыма. У іх мове шэраг агульных рыс, што ўзніклі пад уплывам славянскага асяроддзя. Напрыклад, беларускія татары зліліся з мясцовым насельніцтвам і пакінулі помнікі не толькі на татарскай мове, але і на беларускай, пісаныя арабскімі літарамі (гл. Кітабы).

Крымскія татары, якія пасля сталінскіх рэпрэсій 1944 г. жы-

лі ў выгнанні ў Казахстане і Узбекістане, зараз вяртаюцца ў Крым (тут іх ужо больш за 200 тыс.). Невялікая група цюркамоўнага насельніцтва заходняга арэала - гэта гагаузы, якія жывуць у паўднёвай частцы Малдовы (больш за 150 тыс.).

Другі арэал цюркскіх моў - Каўказ і Дагестан. Найбольшую колькасць іх носьбітаў складаюць азербайджанцы. Агульная іх колькасць дасягае 15 млн. (галоўным чынам у Іранскім Азербайджане і 5 млн. у Рэспубліцы Азербайджан). Да цюркскіх моў Дагестана адносяцца кумыкская і карачаева-балкарская (кожная з іх мае каля 200 тыс. носьбітаў).

Трэці арэал цюркскіх моў - Паволжа і Урал. Тут з іх найбольш шматлікія чувашы, татары і башкіры. Носьбітамі чувашскай мовы (больш як 1,5 млн.) - нашчадкі старажытных волжскіх булгар (многія вучоныя сцвярджаюць, што нашчадкамі булгар з"яўляюцца казанскія татары - заўвага рэд.). Найбольшы цюркамоўны народ у гэтым арэале - татары (казанскія татары). Агульная іх колькасць каля 6 млн. Татарская і башкірская (больш за 1 млн. носьбітаў) мовы ўзыходзяць да кыпчацкай з моцным уплывам булгарскай.

Чацвёрты арэал - гэта мовы Сярэдняй Азіі і Казахстана. Этнаграфічна носьбіты гэтых моў маюць рознае паходжанне: узбекі і уйгуры адносяцца да карлукскай групы, казахі, кыргызы і каракалпакі - да кыпчацкай, туркмены - да агузскай. Тут назіраецца і моцны ўплыў старажытнаіранскіх моў. Найбольш шматлікія народы цюркскіх народаў узбекі (больш за 14 млн.), казахі (каля 8 млн.), уйгуры (больш за 6 млн., пераважна ў Сіньцзян-Уйгурскім аўтаномным раёне Кітая). Кыргызы і туркмены маюць каля 1 млн. носьбітаў (кожная нацыя). Да старажытнаўйгурскай і старажытнаагузскай моў адносіцца мова архона-енісейскіх надпісаў (7 - 8 ст. н.э.). Пяты арэал - гэта мовы Сібіры, моўную частку якіх складаюць якуцкая і далганская. Яны ўзыходзяць да старажытнаўйгурскай мовы з моцным уплывам тунгускай і мангольскай моў. Агульная колькасць якутамоўных насельнікаў каля 300 тыс. Амаль тое самае можна сказаць і пра носьбітаў тувінскай мовы (больш за 100 тыс.), продкі якіх змяшаліся з самадыйскімі і мангольскімі плямёнамі. Невялікія па колькасці хакасы (каля 60 тыс.) звязаны паходжаннем з кетамі, самадыйцамі і іншымі палеасібірскімі народамі.

Асноўныя арэалы рассялення носьбітаў цюркскіх моў узніклі пасля мангольскага нашэсця (13 - 14 ст. н.э.). З тыпалагічнага

пункту погляду цюркскія мовы адносяцца да аглюцінатыуных, г.зн. ім характэрна сістэма словаутваральных і словазмяшчальных аднафункцыянальных афіксау. З агюцінацыяй генетычна звязаны сінгарманізм, або т.зв. гармонія галосных. Гэта значыць, усе склады слова маюць або галосныя папярэдняга рада (Э, І), або задняга рада (..,у). Склад трохсастауны: зычны-галосны-зычны. Двухсастауныя склады паходзяць ад трохсастауных, яны узніклі у выніку выпадзення [illegible] зычнага. Сістэма галосных фанем фактычна зводзіцца да галоснага [illegible]гука, які падзяляе склады, і тэмбр якога залежыць ад структуры слова (пярэдні або задні рад), структуры першага каранёвага склада (наяўнасць або адсутнасць лабілізацыі), зычнага, які уплывае на наступны галосны (верхні або ніжні пад"ём).

Для вельмі багатай сістэмы зычных характэрны палатальны рад. Ён узнік на аснове пярэднеязычных мяккіх. Заднеязычныя мяккія засталіся без змен.

Марфалогія цюркскіх моу вызначаецца афіксамі, якія выконваюць функцыі 5 склонау: родны - (н)ын, вінавальны - (н)ы, накіроуваючы - (г)а, мясцовы - да та, зыходны - дан (назоуны склон не мае асобнага афікса). Множны лік маркіруецца афіксам - лар. Наступныя афіксы маркіруюць 6 асоб (адзіночнага і множнага ліку): І - ман; 2 - сан; 3 - нулявы; 4 - быз; 5 - ныз; 6 - нулявы або форма, якая супадае з афіксам множнага ліку - лар.

Марфалагічная структура слова паказвае, што найбольш блізкае да кораня становішча займаюць афіксы словаутварэння, найбольш далёкае - афіксы словазмянення.

Для сінтаксісу словазлучэння характэрны так званы ізафет, г.зн. спалучэнне 2 назоунікау без марфалагічных афіксау, з якіх І-ы з"яуляецца азначэннем 2-га: азербайджанскае дэмір ол -'чыгунка' (літаральна 'жалезная дарога'). Сінтаксічная сувязь можа ускладняцца марфалагічнай, калі назоунік, які азначаецца, мае афікс прыналежнасці 3-й асобы, або апрача гэтага, само азначэнне мае афікс склону.

Лексічны фонд цюркскіх моу мае агульную частку з алтайскімі мовамі. Але у працэсе іншамоуных кантактау у цюркскія мовы пранікла шмат слоу з санскрыту, старажытнаіранскіх моу, кітайскай мовы (праз мангольскую і маньчжурскую). У ІІ - І5 ст. у сувязі прыняццем ісламу у цюркскія мовы пранікла арабская і персідская

лексіка (казанскія татары прынялі мусульманскую веру у 922 г. - заўвага рэд.).

Цюркізмы пранікалі ў беларускую мову ў розныя гістарычныя перыяды нераўнамерна. Гэта пераважна назвы асоб паводле адміністрацыйных пасад, роду заняткаў, веравызнання, фізічных і духоўных якасцей (аксакал, арап, атаман, гайдамак, джыгіт, казак, чабан), назвы адзення, абутку і матэрыялаў для іх вырабу (атлас, каракуль, сарафан, халат) і інш.

Кожны беларус разумее не меней як 2 тыс. цюркскіх слоў.

- - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - -

Гл. таксама артыкулы пра мовы: азербайджанскую, алтайскую, балкарскую, башкірскую, гагаузскую, далганскую, казахскую, караімскую, каракалпакскую, карачаеўскую, кашкайскую, крымскататарскую, кумыкскую, кыргызскую, нагайскую, саларскую, тафаларскую, тувінскую (уранхайскую), туркменскую, турэцкую, узбекскую, уйгурскую, хакаскую, чувашскую, шахсевенскую, шорскую, якуцкую, а таксама цюркскіх народаў Ірана мовы.

ЧЭЧЭНСКАЯ МОВА, мова чэчэнцаў. Пашырана ў Чэчэнскай Рэспубліцы і ў Хасаўюртаўскім раёне Дагестана. Размаўляюць на чэчэнскай мове 975 тыс. чалавек (перапіс 1989 г.). Мова належыць да нахскай групы іберыйска-каўказскіх моў. Найбольш блізкая да чэчэнскай мовы - інгушская мова. Вылучаюцца дыялекты: жыхароў раўнін (пласкагор"яў), аккінскі, чэберлоеўскі, мелхінскі, ітумкалінскі, кістынскі, галанчожскі. Фанетычныя асаблівасці: багаты вакалізм (дыфтонгі, доўгія і ўмлаўтаваныя галосныя); ёсць абруптыўныя і фарынгальныя зычныя. Марфалагічныя асаблівасці: наяўнасць шасці іменных класаў; скланенне аднатыпнае, адрозніваюцца асноўныя і мясцовыя склоны. Катэгорыі дзеяслова: клас, лік, час, лад, від. Віды супрацьпастаўлены ўнутранай флексіяй (лалла - прагнасць; ліелла - ганяць). Сістэма лічэння дваццацірычная. Сінтаксіс простага сказа адрозніваецца разнастайнасцю канструкцый. Пісьмо было на аснове арабскай графікі, з 1927 - лацінскай, з 1938 на кірыліцы.

ЧЭЧЭНЦЫ, н о х ч ы й (саманазва), народ, асноўнае насельніцтва Чэчэнскай Рэспублікі на Каўказе. Паводле перапісу 1989 г. у СССР жыло 975 тыс. чэчэнцаў і каля 5 тыс. у Іарданіі. Каля 750 тыс. чэчэнцаў жыве ў Чэчэнскай Рэспубліцы, каля 50 тыс. чалавек у Хасаюртаўскім раёне Дагестана.

Чэчэнцы належаць да каўкасіонскага варыянта балкана-каўказскай расы вялікай еўрапеоіднай расы. Размаўляюць на чэчэнскай мове, пашырана руская мова. Вернікі - мусульмане-суніты.

Разам з роднасным ім інгушамі адносяцца да карэннага насельніцтва Паўночнага Каўказа. Вылучаецца некалькі дыялектаў.

Чэчэнцы упамінаюцца ў армянскіх крыніцах 7 ст. пад імем нахчаматцян. Паводле месца жыхарства надзяляліся на Вялікую і Малую Чэчню. У 1859 г. пасля шматгадовай вайны чэчэнскага народа з царскімі войскамі Чэчня была далучана да Расіі. У 1922 г. была утворана Чэчэнская аўтаномная вобласць у складзе РСФСР, у 1934 г. аб"яднана з Інгушскай аўтаномнай вобласцю ў Чэчэна-Інгушскую аўтаномную вобласць (з 1936 г. АССР, скасавана ў 1944 г., калі чэчэнцы працівапраўна выселены; адноўлена ў 1957 г., чэчэнцы вярнуліся на сваю родную зямлю).

Традыцыйны занятак на раўніне - земляробства (вырошчваюць кукурузу, пшаніцу, ячмень, проса), развядзенне буйной рагатай жывёлы; у гарах - адгонная жывёлагадоўля і тэраснае земляробства. З хатніх промыслаў былі развіты вытворчасць армякоў-бурак, скураныя вырабы, ганчарства, выраб зброі, ювелірная справа, апрацоўка дрэва і каменю, горная справа. У 20-м ст. сталі вырошчваць сланечнік, рыс, цукровыя буракі. Павяліччыліся плошчы пад сады, агародніну, бахчавыя культуры і інш. Ёсць нафтаперапрацоўка і нафтахімічная, хімічная, металаапрацоўчая, лёгкая і харчовая прамысловасць.

Традыцыйныя пасяленні на раўніне былі даволі вялікія, выцягнутыя уздоўж рэк і дарог (дамы ў асноўным саманна-глінабітныя або турлучныя (пляцень, абмазаны глінай). Горныя сяленні будаваліся з каменю ў два паверхі (ніжні паверх - месца для свойскай жывёлы), сакляй. Многія аулы мелі жылыя і абарончыя вежы ў 3 - 5 паверхаў. Сучасныя дамы ў асноўным квадратныя ў плане, часам захоўваюць традыцыйную планіроўку - размяшчэнне пакояў у адну лінію з асобнымі выхадамі ў калідор, які ідзе ўздоўж будынка.

Нацыянальнае мужчынскае адзенне: чаркеска, бешмет, шаравары, у непагадзь - бурка і башлык. Абутак з сырамятнай скуры. Галаўны ўбор - папаха, круглая шапка, летам - лямцавы капялюш, цюбяцейка. Жанчыны насілі доўгія сукенкі чырвонага, жоўтага, зялёнага або сіняга колеру, шаравары, зімою - бешмет. Галаўны ўбор - шарсцяная ці шаўковая хустка, абутак - чувякі, боты, туфлі. Нацыянальны касцюм ці яго элементы захаваліся ў асноўным у пажылых людзей.

Традыцыйная ежа - стравы з пшанічнай і кукурузнай мукі: клёцкі, розныя супы, кашы; хлеб пяклі ў выглядзе праснакоў. Мяса ўжывалі галоўным чынам зімою, малочныя прадукты - летам. Пашыраны малочныя стравы - твораг са смятанай і твораг з распушчаным маслам.

Сістэма роднасці арабскага тыпу. Формы фальклору разнастайныя - паданні, легенды, казкі, песні; значнае месца займаюць нартаўскі эпас - сказанні пра герояў-волатаў. Старадаўнія традыцыі мае музыкальнае і танцавальнае мастацтва. Найбольш пашыраныя музычныя інструменты; чондырк (род двухструннай скрыпкі), дэчыкпондар (від горскай балалайкі), зурна, бубен, барабан.

## Цікава ведаць

Г а р ш ы н ы . Ад мурзы Гаршы або Горшы, які выехаў з Арды пры Іване Ш ( 1462 — 1505 ). У 17 — 19 стст. змарнелы дваранскі род, прадстаўнікам якога быў славуты рускі пісьменнік Гаршын Усевалад Міхайлавіч ( 1855 — 1888 ). ( Рускі бібліяграфічны слоўнік, IУ, С. 246 — 258 ). Пра цюркскае паходжанне продкаў сведчыць прозвішча Гаршын, якое паходзіць ад цюркска-персідскага г а р ш а , к у р ш а — "бясстрашны правіцель, герой " ( А.Гафураў. Імя і гісторыя. М., 1987, С.158 ).

## КРЫМСКАТАТАРСКА-БЕЛАРУСКІ СЛОЎНІК

1500 слоў і словазлучэнняў ад дзядзькі Ісмаіла Меметава

| Крымскататарскае слова | Беларускае слова |
|---|---|
| **А** | |
| а | а |
| а-а | ага |
| абонент | абанент |
| абонент джевап бермей | абанент не адказвае |
| ава | надвор"е |
| август | жнівень |
| авджы | паляўнічы |
| автобус | аўтобус |
| автомат | аўтамат |
| автомат-телефон | тэлефон-аўтамат |
| автоматлаштырув | аўтаматызацыя |
| автомобиль | аўтамабіль |
| авуз | рот, губа |
| агъа | старшы брат |
| агъа-къардашлар | браты |
| агъламакъ | плакаць |
| агънъызны ачынъыз | адчыніце рот |
| агъыр | цяжка, цяжкі |
| агъыраякълы | цяжарная |
| агъыр вазиет | злая доля, цяжкае становішча |
| агъырмакъ, агъырув | боль |
| агъыр чеки, агъыр юк | цяжкая паклажа |
| ад | імя |
| адам | чалавек |
| адамлар | людзі |
| адаштынъызмы? | вы зблукалі? |
| адеттен тыш | незвычайны |
| адженле | неадкладна, тэрмінова, тарапліва |
| адженле медицина ярдымы | хуткая медыцынская дапамога |

| | |
|---|---|
| аджеле телеграма | тэрміновая тэлеграма |
| адждлы, аджы | горкі |
| адждлы бубер | перац чырвоны |
| аджымакъ | жаль, шкадаваць |
| адий | просты, радавы |
| адисе | падзея |
| адландырмакъ | зваць, надаць імя |
| адлар | імёны |
| адым | крок |
| адынъыз не? | як вас завуць? |
| аз | мала, менш, троху |
| аза | член |
| азанчык (бираз) бекленьиз | крыху зачакайце |
| азбар | падворак |
| азджа | туды, крыху |
| азир | гатовы |
| азирлеген | зроблены, прыгатаваны |
| азирленмек | падрыхтоўка |
| аз-маз | крыху |
| азчыкъ | крыху, крышачку менш |
| азув тиш | кутны зуб, карэнны зуб |
| азыр | гатовы |
| аиле | сям"я |
| аиле азалары | член сям"і |
| ай | месяц (планета і частка года) |
| ай! | ой! |
| айва | айва |
| айван | жывёла |
| айванасравджылыкъ | жывёлагадоўля |
| айда | гані |
| айдады | пайшоў, павёў |
| айдамакъ | правіць, гнаць |
| айды | ну |
| айдын | светлы |
| айдыньыз | давайце |
| айлыкъ туруп | радыска |
| айнеджи | хітры |
| ай-нені | люлі, ой люлі |

| | |
|---|---|
| айны | аналагічны |
| айры | асобны |
| айрыджа | асаблівы |
| айтмакъ | казаць, сказаць, расказаць, расказваць, гаварыць |
| айтынъыз | скажыце |
| айтсанъыз, мында энъ якъын аптека къайда? | скажыце, калі ласка, дзе тут найбліжэйшая аптэка? |
| айтынъыз, мен не вакъыт чыкъайым | скажыце, калі мне выходзіць |
| академия | акадэмія |
| аккында | аб |
| актив | актыўны |
| акыл танышмакъ | абмеркаванне |
| акъ-бияз | белы |
| акъа | цячэ |
| акъай | муж |
| акъайгъа бармакъ | выходзіць замуж |
| акъайда | замуж |
| акъайым | муж |
| акъ къайын | белая бяроза |
| акъшам | вечар, вечарам |
| акъыкъат | праўда |
| акъыкъатен де | на самай справе |
| акъкы | права (юрыдычнае права) |
| акълав | пабелка |
| акъламакъ | бяліць |
| акъмантар | баравік |
| акъ сакъал | старэйшы |
| акъча | грошы |
| акъча агъач | клён |
| акъчам | піхта |
| акъшам, акъшамлыкъ аш | вечар, вечарам |
| акъылсыз | неразумны |
| акъшамлыкъ болюги | вячэрняе аддзяленне |
| акъшам сефа | начная прыгажуня |
| акъшам шерфинъиз хайры олсун! | добры вечар! |
| акъыл | розум |
| акъылдане | мудры |

| | |
|---|---|
| акъыллы | мудры, разумны |
| ал | ружовы, умова, бяры |
| ал явлыкъ | ружовая хустка |
| ала | цётка (бацькава сястра) |
| алат | трос |
| алейкум селям! | добры дзень! |
| алет | Інструмент |
| алім | вучоны |
| Аллах | Бог, Аллаг |
| алмакъ | брацца, браць |
| алма | яблык |
| алма терги | яблыня |
| алмакъ | прыняць |
| алман | немец |
| алтмыш | шэсцьдзесят |
| алты | шэсць |
| алты юз | шэсцьсот |
| алтын | золата |
| алтындан | залаты |
| алтынджы | шосты |
| алча | алыча |
| алчак, алчакъ бойлы | нізкі |
| алып бармакъ | павесці |
| алыпбермек | падаць |
| алып кетмек | весці, панесці |
| алып оламайым | не магу узяць |
| алышмакъ | прывыкаць |
| амам | лазня |
| аманлыкъмы? | як жывецца? |
| амерекъалы | амерыканец |
| амерекъанынъ | амерыканскі |
| ана | маці: матка, баба, вось (часціца), вунь |
| ана-баба | бацькі |
| ана санъа! | вось дык цуд! |
| анабаш къой | котная авечка |
| анам | мама |
| анахтар | ключ |

| | |
|---|---|
| анда | там, тыдзень |
| анда къалмакъ | аказацца, заставацца там |
| андан | адтуль |
| ант | клятва |
| ант эттим | я пакляўся |
| антер | сукня, плацце |
| анъладынъызмы? | вы зразумелі? |
| анъламакъ | разумець, зразумець, пазнаць |
| анълатмакъ | растлумачыць |
| анълаштыкъмы | дамовіліся |
| ап | таблетка |
| апай | жанчына, баба |
| апайым | жонка |
| апарат | апарат |
| аперацыя | аперацыя |
| апте | старшая сястра |
| апте-къардашлар | сёстры |
| аптека | аптэка |
| араба, арба | воз |
| апрель | красавік |
| ара | між, паміж, шчыліна |
| арабаджы | возчык |
| арада | паміж |
| аралык | завулак |
| арба, араба | воз |
| арбий | ваенны |
| арбий хызмет | вайсковая служба |
| арекет | рух |
| арекет этмек | дзеянне |
| арекетли суретте | актыўны |
| арекетлик | дзейнасць |
| арыза | заява |
| арзы этмек | захацець |
| аркъа | спіна |
| аркъадаш | таварыш |
| аркъадашлар | таварышы |
| армут | ігруша |
| аргачыкъ согъан | цыбуля-сявок |

| | |
|---|---|
| арслан агъыз | Ільвіны зеў (кветка) |
| артъа | назад |
| артъа бакъмакъ | азірнуцца |
| артъач | лішні |
| арттаки къапы | задніх дзверы |
| артындан | з-за |
| арыкъ | худы |
| арыф | літара |
| зрыфлер | літары |
| аскер | баец, салдат |
| асрамакъ | вырошчваць |
| астар | падшэўка, падкладка |
| асфальт тёшельген ел | асфальтаваная дарога |
| асыл | сапраўдны |
| асылмакъ | вісець |
| асыр | стагоддзе |
| ат | конь |
| атлар сёзы | прымаўка |
| атеш | агонь |
| атик | ліхі, ліха, бяда |
| атламакъ | скакаць |
| атмакъ | страляць, кінуць |
| атчыкъ | жарабя, конік |
| атылмакъ | кінуцца |
| аферин | брава |
| афта | тысяча, тыдзень |
| афьен | опіум |
| ах! | ах! |
| ахмакъ | неразумны |
| ахрет | замагільны свет, той свет |
| ахыр | хлеў, канюшня |
| ахыр-сонъы | нарэшце |
| ач | галодны, адчыні |
| ача | адчыняе |
| ач о | галодны ён |
| ачкозь | прагавіты |
| ачмакъ | адчыніць, адчыняць |
| ачув | злосць |

| | |
|---|---|
| ачыкъ | адкрыты, ясна |
| ачыкъ-айдын | ясны |
| ачыкъ тюс | светлы |
| ачыладжакъ | адкрыццё, будзе адкрывацца |
| ачылмакъ | адкрыццё |
| ашагъыда | уніз |
| ашагъыгъа тюшюнъиз | спусціцца уніз |
| ашадым | паеў |
| ашайт маллары | харчовыя тавары |
| ашайт маллары тюкяны | прадуктовая крама |
| ашалав | зневажаць |
| ашаланмакъ | уніжацца |
| ашамакъ | есці, з"есці |
| ашатмакъ | карміць |
| АШБ | ЗША |
| аш-къазан | страўнік |
| аш татлы олсун | прыемнага апетыту |
| ашламакъ | прышчапляць |
| ашхане | сталоўка |
| ашчы | кухар, повар |
| ашыкъманъыз | не спяшайцеся |
| Аюв-дагъ | Аю-даг, Мядзведзь-гара |
| аюв къулакъ | талакнянка, мядзведжае вушка (трава) |
| аюв | мядзведзь |
| аяз | мароз |
| аякъ | нага |
| аякъ устюнде турмакъ | стаяць |
| аякъап тюкяны | абутковая крама |
| аят | перадпакой, веранда |
| аятлы | бытавы |
| аячыкъ | ножка |

# ПА СТАРОНКАХ БЕЛАРУСКІХ ВЫДАННЯЎ

У 1993 годзе выдавецтвам "Полымя" была падрыхтавана кніга "Лёс Крэва" аўтараў Дзярновіча Алега Іванавіча, Трусава Алега Анатольевіча і Чарняўскага Ігара Мяфодзьевіча. Кніга невялікая па памерах, але змяшчае многа цікавага. Цікавая яна і тым, што ў ёй узгадваюцца факты з гісторыі пасялення і пражывання татараў на землях Беларусі, а менавіта – у Крэве. Таму спачатку некалькі слоў з прыведзенага ў кнізе аб гэтым мястэчку.

Вёска Крэва знаходзіцца на паўночным захадзе Беларусі. Адметная яна сваім гістарычным мінулым. Крэва згадваецца ў нямецкай хроніцы XIII стагоддзя як цэнтр Нальшанскай зямлі, а таксама у Лівонскай "Рыфмаванай хроніцы", у якой, праўда, гэтая мясцовасць называецца зямлёй Альсэн. Аб былым нагадвае гарадзішча, традыцыйна, але і вельмі ўнушальна, размешчанае на ўзвышшы і абнесенае земляным валам, а таксама руіны старажытнага замка. Цэнтрам удзельнага княства Крэва стала, калі вялікі князь (Гедымін) нашай былой магутнай дзяржавы – Вялікага Княства Літоўскага і Жамойцкага – пасяліў там свайго сына Альгерда, які пражыў у Крэве пакуль не заняў трон Вялікага княства (1341–1345 гг.).

Нам бы хацелася звярнуць вашую ўвагу на такія звесткі: "За Альгердавым часам пасля бітвы з ардынцамі каля Сініх вод пад Навагрудкам і Крэвам былі паселены татары-палоннікі. Ім далі зямлю, абавязалі несці вайсковую павіннасць. І сапраўды, мясцовыя татары сталі вернымі абаронцамі Вялікага княства. Іх нашчадкі і сёння жывуць у мястэчку, славяцца як выдатныя гарбары" (с. 6).

З іменем татар звязаны і трагічныя старонкі з жыцця Крэва. У кнізе аб гэтым напісана наступнае: "З 1503 да 1506 года, у панаванне вялікага князя Аляксандра, замак некалькі разоў бралі ў аблогу і значна пашкодзілі крымскія татары" (с. 9).

Асобую ўвагу звярнулі мы на меркаванні аўтараў аб паходжанні Крэўскага герба. Як вядома гербы пачыналі ўжывацца пры наданні вялікімі князямі гарадам і мястэчкам магдэбургскага права па ўласнай ініцыятыве іх жыхароў. Крэва досыць рана атрымала гэта права (7 красавіка 1559 года). У 1792 годзе напярэдадні другога падзелу Рэчы Паспалітай самакіраванне Крэва было пацверджана. А ў юрыдычным сэнсе любы населены пункт, які атрымаў магдэ-

бургскае права, лічыўся горадам - "мястэчкам".

"За герб мястэчка ўжываўся геральдычны знак "Лялiва": выява ў блакітным полі срэбнай шасціканцовай зоркі і залатога маладзіка, павернутага рогамі ўверх. У польскай рамантычнай традыцыі тлумачыцца, што гэты герб надавалі рыцару за перамогу над ворагам пры святле зорак і месяца. Быў ён распаўсюджаны сярод шляхецкіх родаў у наваколлях Крэва. Уважлівы аналіз гербаў сведчыць, што матыў "Лялівы" актыўна выкарыстоўваўся ў гербах татараў, бо адпавядаў мусульманскай сімволіцы. А калі мы згадаем пра значную колькасць татарскага насельніцтва ў мястэчку, дык стане зразумелым, чаму Крэва атрымала менавіта такі герб" (с.16-17).

Маем зазначыць, што сапраўды герб "Лялiва" належыў знакамітаму татарскаму роду Іллясевічаў. Пра гэта знаходзім звесткі ў кнізе С.Думіна і І.Канапацкага "Беларускія татары: мінулае і сучаснасць", Мінск, 1993 г.

Змяніўся статус Крэва, таксама як і яго знешні выгляд, з канчатковай ліквідацыяй Рэчы Паспалітай і ўваходам усіх беларускіх земляў у склад Расійскай Імперыі. Пачаўся занапад як замка, так і самога мястэчка. У Крэве ж, перад уключэннем яго ў Расійскую Імперыю, пражывала каля 1000 жыхароў, калі зыходзіць з колькасці насельнікаў кожнага дома ў 5 чалавек. Такія высновы аб колькасці жыхароў Крэва зроблены аўтарамі на падставе дадзеных апісання 1789 года. У гэтым апісанні сказана, што на вуліцы Татарскай знаходзіцца 13 дамоў. Няцяжка здагадацца, што менавіта на гэтай вуліцы жыла пераважная большасць нашых суродзічаў. А калі зрабіць простыя матэматычныя вылічэнні, то можна сказаць, што жыло ў Крэве на прыканцы ХУШ стагоддзя каля 65 татараў, гэта складае прыкладна 7% ад агульнай колькасці жыхароў. Асноўную ж частку жыхароў Крэва (колішняга гнязда крывічоў - продкаў беларусаў, як называў яго пачынальнік беларускай навуковай археалогіі Зарыян Даленга-Хадакоўскі) складалі габрэі, гандляры і рамеснікі, якія пераважна займаліся тут гандлем на працягу ХУIII - першай паловы XIX ст.ст. Пры знаёмстве з планам Крэва 1856 года, прыведзены на с. 23, мы ўбачылі, што Татарская вуліца знаходзілца на поўдні, недалёка ад габрэйскіх могілак (месца

захаванȳя татараў не азначана). Сёння гэтая вуліца злучае мястэчка з шашою Мінск-Вільня.



## НАЗВЫ ЗЯМЛІ БЕЛАРУСКАЙ

У гэтым годзе выдавецтва "Універсітэцкае" у серыі "Універсітэт - школе" выпусціла вельмі цікавую і карысную кнігу доктара гістарычных навук, прафесара Леаніда Міхайлавіча Лыча "Назвы зямлі беларускай" (Мінск, 1994 г.). Яна прысвечана беларускай тапаніміі. Прафесар Л.М.Лыч вядомы шырокаму колу чытачоў Беларусі як шчыры і руплівы даследчык, адраджэнец у самым высокім сэнсе гэтага слова, аўтар шматлікіх публікацый па гісторыі і культуры Беларусі. Як і раней, прафесар Л.М.Лыч выступае ў сваёй новай кнізе рашучым абаронцам нацыянальнай тапаніміі - найкаштоўнага моўнага помніка, важнейшага элемента гісторыка-культурнай спадчыны народаў Беларусі. Цэлы раздзел кнігі прысвечаны геаграфічным назвам, якія паходзяць ад плямён і народаў, здаўна насяляўшых нашу краіну. Ён называецца "Міжэтнічныя працэсы у люстэрку тапаніміі". У ім даволі шмат увагі ўдзяляецца татарам, якія пакінулі свой след у тапаніміі населенных пунктаў Беларусі. Вось што піша прафесар Л.М.Лыч: "Усіх, хто не мае глыбокіх уяўленняў пра гісторыю беларускага народа, напэўна, здзівіць, чаму на яго зямлі так багата этнанімічных назваў, звязаных са словам татарын, паколькі іх гістарычная тэрыторыя знаходзіцца ўдалечыні ад Беларусі і да таго ж паміж гэтымі этнасамі існуюць вельмі выразныя этнічныя і антрапалагічныя адрозненні.

Усё сказанае - так, але ў далёкія ад нас сярэднія вякі ў гэтых народаў было шмат сталых і часовых кантактаў, што не магло не адбіцца і на нашай тапаніміі. Магчыма, большасць этнанімічных назваў, што паходзяць ад імя гэтага усходняга народа, "прывязана" да колішняга канкрэтнага месца пасялення яго груп на тэрыторыі Беларусі: Татарынавічы (Драгічынскі раён), рабочы пасёлак Татарка Асіповічкага раёна і вёскі аналагічнай назвы ў Воранаўскім,

Любанскім і іншых раёнах, а таксама чыгуначная станцыя на лініі Мінск-Гомель, Татарская (Валожынскі), Татары (Браслаўскі, Аршанскі, Шуміліні і інш.), Татаршчына (Дзяржынскі, Маладзечанскі і інш.), чыгуначная станцыя на ўчастку Мінск-Маладзечна, Татар"я (Драгічынскі). Як вынікае, гэтая этнанімічная назва даволі шырока распаўсюджана ў нас. Да яе прымыкаюць тапонімы Арда і Турэц Клецкага і Карэліцкага раёнаў, г.зн. тых мясцін, дзе з даўняе пары засведчана пражыванне татар. Першы з прыведзеных тэрмінаў паходзіць ад асновы цюркскага слова арда, якое перакладаецца на беларускую мову як саюз, калектыў, аб"яднанне. Тапонім жа Турэц хаця марфалагічна з этнонімам татарын нічога агульнага не мае, але ўлічваючы два фактары, што ў мінулым многія ўсходнія качавыя народы называліся нашымі продкамі цюркамі ці туркамі, што ва указаным населеным пункце Беларусі спрадвеку жылі татары, даная назва найцяснейшым чынам звязана з гэтым этнонімам. Праўда, ёсць меркаванні аб паходжанні яе ад гідроніма Тур"я ці ў далёкім мінулым прамысловай жывёлы тура.

Беларускія татары ніколі не жылі на новай для сябе радзіме як прыгнечаны народ. Яны займаліся самымі рознымі відамі прафесійнай дзейнасці, часта паводле ўзроўню свайго маёмаснага стану не ўступалі мясцоваму насельніцтву. Таму не дзіўна, што сярод іх былі і заможныя станы, якія пры нагодзе не супраць былі ўвекавечыць сваё імя і ў назве населенага пункта. Некаторыя з паселішчаў татараў былі названы і па роду іх вытворчай дзейнасці ці па якой-небудзь канкрэтнай прафесіі. З назваў населеных пунктаў Беларусі, так ці інакш звязаных з жыццём татараў, іх прозвішчамі, можна прывесці такія: Бабаевічы (у цюркскіх мовах слова баба перакладаецца як стары), Баева (ад бай – гаспадар, багач), Балашы (перакладаецца як лазурыт), Баторын (герой, багатыр), Баштан (агарод, бахчавік), Галімцы (ад цюркскага прозвішча), Койданава (ад імя хана Койдана ці Кайдана; з 1932 г. горад перайменаваны ў Дзяржынск), Карацк, Карачына, Карачуны (цюркскія прозвішчы ад кара – злосны, чорны, кат), Курманава (ад цюркскага прозвішча), Мамаі або Мамай (ад асабовага імя цюркскага паходжання), Мамойкі, Мамоны і Мамонькі (ад цюркскага прозвішча), Мурзы (ад цюркскага дваранскага тытула), Тахуліна (ад цюркскага прозвішча), Тугаль (перакладаецца як сокал), Чаусы і Чаусы (ці-

жэйшы военачальнік, дробнапамесны дваранін), Чыгіры і Чыгірынка (ад цюркскага прозвішча), Шайтарава (ад цюркскага прозвішча)".

Да сказанага можна дадаць яшчэ многія татарскія тапонімы, што распаўсюджаны на тэрыторыі Беларусі і суседняй Літвы. Напрыклад: Апчак, Агдамер, Узда, Іўе, Мір (ад Эміра), Смалявічы (ад Ісмаілавічы - Смоля - Смалявічы), Баранавічы, Якшыцы, Сорак Татары, Казаклары, Турэц-Баяры, Карзуны і шмат іншых. Назвы некаторых рэк Беларусі (гідронімы) маюць таксама цюркскае паходжанне (Уса, Сула, Гаўя, Жыжма, Шчара). Нельга не пагадзіцца таксама з прафесарам Л.М.Лычом, што нам усім трэба хутчэй вяртацца да сваіх жыватворных крыніц - спадчыны народа ўвасобленай у прадметах матэрыяльнай і духоўнай культуры.

Дзякуй, шаноўны Леанід Міхайлавіч за вашу самаадданую і плённую працу на карысць нашае Бацькаўшчыны - Беларусі. Няхай ухваліць Аллах Усявышні старанасць Вашу. Аллах (хвала Яму і вялікі Ён) заўсёды з тымі, хто творыць дабро. Мір Вам, міласць Аллага Усемагутнага і Яго благаслаўленне.

---

Цікава ведаць

Д з я р ж а в і н ы . Ад Дзяржави Аляксея, сына Дзмітрыя Нарбека, сына мурзы Абрагіма — Ібрагіма, які выехаў з Вялікай Арды на служ-бу да Вялікага князя Васіля Васілевіча ( Агульны гербоўнік дваранскіх родаў Расійскай імперыі. У, С.38 ). У АГДР, У, С.38; ІУ, С. 45 ) адзначаецца сваяцтва Дзяржавіных з іншымі дваранамі цюркскага паходжання. У нашчадках яго Г.Р.Дзяржавін, які нарадзіўся у 1743 годзе каля Казані.

ЗМЕСТ

Падпісана ў друк 29.12.94. Фармат 60х84 1/16. Папера друк. № 2.
Афсетны друк. Ум.друк.арк. 7,7. Ум.фарб.-адб. 8. Ул.-выд.арк.6,8.
Тыраж 300 экз. Заказ 14

---

Надрукавана ў Навагрудку.

بســـم اللــــــه الرحمـــن الرحيـــم

**У імя Аллага Міласцівага, Міласэрнага!**

# ІНФАРМАЦЫЙНЫ ЛІСТ

Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь
Акадэмія навук Рэспублікі Беларусь
Беларускі універсітэт культуры
Беларускі педагагічны універсітэт
Нацыянальны інстытут адукацыі Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь
Міжнародная асацыяцыя беларусістаў
Згуртаванне беларусаў свету " Бацькаўшчына"
Цэнтр нацыянальных культур Рэспублікі Беларусь
Сусветны кангрэс татар
Беларускае згуртаванне татар-мусульман " Аль- Кітаб "
Мусульманскае рэлігійнае аб'яднанне Рэспублікі Беларусь

арганізуюць і праводзяць 19-20 мая 1995 года ў Мінску 2-ю міжнародную навуковую канферэнцыю па тэме: " Ісламская культура татар-мусульман Беларусі, Літвы і Польшчы і яе ўзаемадзеянне з беларускай і іншымі культурамі ", прысвечаную 600-годдзю пасялення татар-мусульман на землях Беларуска- Літоўскай дзяржавы ( Вялікага Княства Літоўскага ). Заяўкі на ўдзел у канферэнцыі просім дасылаць да 1 красавіка 1995 года, а тэзісы дакладаў і паведамленяў ( да 5 старонак машынапісу праз 1,5 інтэрвалы для друкавання на ратапрынце ) да 15 красавіка 1995 года па адрасу : 220131, Беларусь, г. Мінск, вул. Мірашнічэнкі д. 51, кв. 312, Канапацкаму Ібрагіму Барысавічу.
Тэлефоны для даведак : 29-66-83 ; 32-53-22 ; 54-32-42 ; 61-84-93 ; 62-35-41 63-37-89 ; 65-86-66.